## СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

Юны сябра!

Кніжку гэтую я назваў «Пасеянае — узыдзе». Аднак гаворка ў ёй пойдзе не пра жыта, авёс ці грэчку і не пра звычайную сяўбу. Гаворка пойдзе пра іншую сяўбу і іншыя парасткі. Пра парасткі, якія ўзыходзяць у душы чалавека. Пра парасткі дабрыні, шчырасці, спагадлівасці, працавітасці, вернасці ў дружбе, пра парасткі прынцыповасці, любові і адданасці Радзіме.

З маленства чуў я словы: пазнаёміўся з чалавекам — пабагацеў на чалавека. Тады я не разумеў усёй глыбіні і значнасці гэтых слоў. Нават, здаецца, здзіўляўся: як гэта можна пабагацець на... чалавека?! І толькі з гадамі адкрылася мне, што самы найвялікшы чалавечы скарб — скарб душэўны, што чалавек багаты не тады, калі мае шмат грошай ці дарагіх рэчаў, а тады, калі ў яго вялікі душэўны набытак. А набытак гэты папаўняецца праз адносіны з іншымі людзьмі.

«Чалавек — гэта цэлы свет»,— гаварыў наш вялікі пісьменнік Кузьма Чорны. І чым шырэйшае кола тваіх знаёмстваў — дачыненняў з людзьмі, чым больш чалавечых светаў расчыняецца перад табою, тым больш людскіх ведаў, вопыту і пачуццяў узбагачаюць твае ўласныя веды, вопыт, пачуцці.

Я шчаслівы, што мая праца журналіста і літаратара дае мне магчымасць сустракацца з рознымі людзьмі. Многія з гэтых сустрэч прыносяць шчырую радасць і задавальненне, надоўга пакідаюць след у сэрцы. Дарагія, незабыўныя аблічча, светлыя справы, высокія помыслы, чыстыя словы, моцная повязь гэтых людзей з роднай зямлёй, іх адданасць Радзіме і Партыі — усё гэта жыве праз гады. Я шчаслівы, што яны былі ў мяне, гэтыя сустрэчы, што засталіся яны не толькі ў блакноце, але і ў сэрцы.

Дарагі юны дружа! Ты — на парозе вялікага самастойнага жыцця. Трэба думаць, не ўсё ў ім будзе лёгка і гладка. Зрэшты, гэта і нецікава, калі ўсё гладка і лёгка. Чалавек, каб быць чалавекам, павінен пераадольваць перашкоды, асільваць пад'ёмы і кручы, каб зведваць радасць перамог, каб спазнаваць сябе, каб набываць упэўненасць у сваіх сілах і магчымасцях.

Хочацца спадзявацца, што табе будзе не толькі цікава, але і карысна пазнаёміцца з людзьмі, пра якіх расказваецца ў гэтай кніжцы, што знаёмства гэтае дапаможа табе на парозе ў вялікае, сталае жыццё. Калі хоць якое-небудзь зярнятка з душэўнага набытку гэтых людзей узыдзе ў тваёй душы добрым парасткам — буду шчыра рады.

*АЎТАР*



## «ЗЯЛЁНАЯ ПУШЧА — КАЛЫСКА МАЯ...»

### I

— Добры вечар, дарагія таварышы! Сёння ў нас быў звычайны, будзённы, рабочы дзень. Займаліся ў асноўным тэхналагічнымі эксперыментамі. Вырошчвалі крышталі. Растуць яны тут добра, лепш, чым на Зямлі. Зараз я паднясу наш крышталь бліжэй да камеры, каб вы змаглі ўбачыць яго лепей, каб змаглі самі пераканацца, які ён вялікі і прыгожы, якімі дзівоснымі колерамі ззяюць-пераліваюцца яго грані...

Вось так амаль штовечар прыходзіў ён да нас у кватэры з экранаў тэлевізараў, прыходзіў на працягу амаль пяці месяцаў — з пачатку лета да позняй, лістападаўскай, восені — і неяк адразу ж, з першых вечаровых тэлеадведак, стаў у кожнай хаце добрым, жаданым госцем, нават не госцем, а блізкім, родным чалавекам, і мы ўжо з нецярпеннем, з душэўным хваляваннем чакалі наступнага адвячорка і наступнай сустрэчы з ім і з сардэчным непакоем — як за брата ці за сына, якога Радзіма паслала так далёка і ў такое цяжкае і адказнае падарожжа,— думалі: «Як ён там? Ці добра хаця ўсё ў яго? Ці не здарылася нечага непрадбачанага?» І шчыра радаваліся, калі ён зноўку проста, па-свойму, нязмушана, быццам і праў-

да прыйшоў да нас у госці, вёў з намі гутарку з экрана — бадзёры, вясёлы, жартаўлівы. Мы глядзелі на яго, слухалі яго, радаваліся за яго і жадалі ў душы яму хутчэйшага шчаслівага вяртання.

Гэта было ў 1978 годзе. А ўпершыню мы пазнаёміліся з ім у кастрычніку 1977-га. Тады мы пачулі імя новага савецкага касманаўта Уладзіміра Васільевіча Кавалёнка, ураджэнца вёскі Белае Крупскага раёна Мінскай вобласці, касманаўта-2 з Беларусі. І тады ж упершыню пабачылі ў газетах ягоны партрэт і яго самога на экранах тэлевізараў. Пабачылі — і зарадаваліся, і са сціпланай, сардэчнай уцехаю адзначылі: шанцуе нашай шматпакутнай і гераічнай зямлі на касманаўтаў!

Ці ж не праўда?!

Першы быў — Пётр Ільіч Клімук. Хлопец з Брэстчыны. Чарнявы, невысокага росту, але моцны ў плячах, крэпкі ўсёй сваёй каржакаватай, бадай што паляшуцкай паставаю. Сінявокі і ўсмешлівы. Прыгожы і абаяльны. Просты і сардэчны. Мы яго не проста палюбілі. Наша ўсеагульная любоў да яго межавала з улюбёнасцю. Кожны, хто сустракаўся, гутарыў з ім (а я належу да такіх шчасліўцаў), несумненна, зведаў гэтае цёплае пачуццё ўлюбёнасці. Абаяльнасць асобы Пятра Ільіча Клімука сапраўды незвычайная. Я неаднойчы бываў у Зорным гарадку, дзе жывуць, вучацца і працуюць савецкія касманаўты, бачыў і адчуваў, з якой любоўю і павагаю адносяцца да Пятра Ільіча яго таварышы, сябры, калегі, як любяць і шануюць яго супрацоўнікі Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў — ад вядучых спецыялістаў да рабочых, і кожны раз пераконваўся, што зусім недарэмна клімукоўская абаяльнасць параўноўваецца з гагарынскай.

Гэтую ўсеагульную любоў да сябе Пётр Ільіч Клімук здабыў яшчэ ў час свайго першага касмічнага

палёту на «Саюзе-13» у 1973 годзе. Потым, у 1975 годзе, быў шасцідзесяцітрохсутачны палёт на «Салюце-4» — разам з Віталіем Іванавічам Севасцьянавым. За час гэтага палёту наша ўсеагульнае пачуццё ўлюбёнасці ў Клімука перарасло ва ўсеагульнае захапленне — захапленне ягонай мужнасцю, стойкасцю, працавітасцю, шырокай і грунтоўнай дасведчанасцю ў многіх галінах навукі і тэхнікі.

Тройчы сустракаў касмічныя світанкі Пётр Ільіч Клімук. Генерал-маёр авіяцыі, двойчы Герой Савецкага Саюза, адзін з самых усебакова падрыхтаваных савецкіх касманаўтаў — такі імклівы, але зусім заслужаны высокі ўзлёт колішняга вясковага хлапчука.

У канцы 1978 года ў Брэсце паўстаў бронзавы бюст героя. На ўрачыстае адкрыццё яго Пётр Ільіч прыехаў разам са сваім пабрацімам, касманаўтам з Польшчы Міраславам Гермашэўскім. Там, у Брэсце, польскі касманаўт даваў інтэрв'ю тэлекарэспандэнтам. Дзелячыся ўражаннямі ад знаходжання на радзіме свайго камандзіра па «Саюзу-30», Міраслаў Гермашэўскі гаварыў:

— Тут, у Брэсце, я сэрцам зразумеў, што гэтая зямля, гэты народ, які жыве на ёй, не маглі не нарадзіць касманаўтаў. Я ўпэўнены, што Беларусь будзе радзімай яшчэ многіх і многіх даследчыкаў космасу...

Мы таксама верым у гэта. Верым, што на зорныя трасы будуць выводзіць касмічныя караблі, мо нават павядуць іх да іншых планет хлопцы, якія нарадзіліся ці народзяцца на берагах Дняпра, Нёмана, Сожа, Прыпяці, Бярэзіны, а можа быць — і на берагах маёй роднай Гайны.

Гэта — будзе!

А пакуль што да зорных вышыняў узняліся два беларусы, і другі з іх — Уладзімір Васільевіч Кавалёнак. І ён з гордасцю стаў побач з праслаўленым Клімуком, стаў па праву зямляцтва — як сын той

самай зямлі, а найперш, можа быць, па праву здзейсненага гераічнага подзвігу. Як бы там ні было, а сёння, гаворачы пра аднаго, нельга не гаварыць і пра другога, ці, правільней будзе, бадай, сказаць наадварот: гаворачы пра другога, нельга не згадаць і першага. Бо лёс — космас — абраў іх абодвух (і ці мае тут значэння, што аднаго — раней, а другога — пазней?), бо другі падхапіў і надзейна панёс далей эстафету першага, бо абодва яны сёння — носьбіты касмічнай славы Беларусі.

Яны падобныя між сабою, Клімук і Кавалёнак. У іх не толькі касмічная, але і чыста чалавечая, брацкая роднасць душ, натур і характараў. Пільней угледзьцеся ў вочы Пятра Ільіча і Уладзіміра Васільевіча. Яны свецяцца адным і тым жа ўнутраным святлом — святлом шчырасці, дабрыні і даверу.

І дзяцінства ў абодвух было аднолькавае. Нарадзіліся ў адзін і той жа цяжкі і грозны год — 1942-гі. Абодва раслі бязбацькавічамі, рана сталі памочнікамі маці па гаспадарцы — аратымі, касцамі. Найбольшай радасцю былі скарынка хлеба і конаўка малака, бўрачкі з чунямі, а то і пяньковыя лапцікі (якія Валодзя Кавалёнак знарок абліваў вадой, каб пасля, як яны залубянеюць на марозе, можна было бегаць у іх праз балотца ў школу). І абодвух вылучала сярод аднагодкаў прага да вучобы (Валодзя Кавалёнак скончыў школу з сярэбраным медалём). І абодва пасля школы падаліся ў вайсковыя авіяцыйныя вучылішчы, куды паклікала іх высокая мара, што выспела ў сэрцы аднаго і другога насуперак усім цяжкасцям, нястачам і нягодам дзяцінства. Потым у абодвух была служба ў авіяцыі — у Клімука ў знішчальнай, у Кавалёнка — у транспартнай, суровая і мужная вайсковая служба, якая яшчэ больш загартоўвала іх характары, вучыла настойлівасці, упартасці, мужнасці ў пераадоленні перашкод.

Далекавата ад вёскі Камароўкі, што ляжыць паблізу дзяржаўнай мяжы з Польшчай, да вёскі Белае ў самым цэнтры Беларусі, у адной з якіх падрастаў Пеця Клімук, а ў другой — Валодзя Кавалёнак. І ў вучылішчы яны патрапілі розныя: Пятро — у Чарнігаўскае, а Уладзімір — у Балашоўскае. Аднак жа адзін лёс вёў хлопцаў па жыцці, адна пуцяводная зорка свяціла абодвум, і неўзабаве сустрэліся яны ў Зорным гарадку.

І вось жа дзіўна. Клімук прыбыў у Зорны восенню 1965 года. Тым жа годам павінен быў прыбыць туды і Кавалёнак, але — не пашанцавала: не прайшоў медыцынскай камісіі. Прыкрая, празмерная, як думалася тады, прыдзірка, аднак нічога не зробіш, галоўнае — не кідацца ў роспач, пераадолець сябе! І Кавалёнак пераадолеў: праз два гады пасля першай спробы, у 1967 годзе, ён усё ж быў залічаны ў атрад касманаўтаў...

Іх шлях у космас таксама быў нялёгкі і няпросты. Восем доўгіх гадоў чакаў Клімук свайго першага касмічнага старту. Ды не, не чакаў — старанна, упарта, настойліва рыхтаваўся. «Скрозь церні — да зор!» Гэтыя словы напісалі яму сябры ў Зорным гарадку на сувеніры, які падаравалі ў дзень яго нараджэння. Яны сталі ягоным дэвізам. І Пётр Ільіч, кіруючыся ім, паспяхова браў адну касмічную вышыню за другой.

Кавалёнак ішоў да наступу на космас яшчэ даўжэй — ажно цэлых дзесяць гадоў: з 1967-га па 1977-мы. Ён быў даўно гатовы да свайго галоўнага экзамену — а гэтым экзаменам для касманаўта з'яўляецца касмічны палёт, ён неаднаразова прызначаўся дублёрам, калі ў космас выпраўляліся іншыя экіпажы, а яго ўласная зорка ўсё не ўзыходзіла.

Нарэшце надышоў кастрычнік 1977-га. Уладзімір Васільевіч Кавалёнак — камандзір «Саюза-25»!

Старт быў удалы. Карабель выйшаў на арбіту. Сэрца Уладзіміра Васільевіча, нягледзячы на непрыемныя адчуванні ў першыя гадзіны касмічнай бязважкасці, спявала: мара яго — здзейснілася, ён — на арбіце, над планетай, яму даручана прадоўжыць справу, пачатую несмяротным подзвігам Юрыя Аляксеевіча Гагарына. Яшчэ некалькі папярэдніх, падрыхтоўчых віткоў вакол Зямлі, а затым — стыкоўка з «Салютам-6», на якім пачнецца працяглая — пэўна ж, працяглая! — касмічная работа ў мэтах навукі, на карысць народнай гаспадаркі краіны.

Ён быў упэўнены ў сабе, у сваіх сілах. Напярэдадні старту ён пісаў сваёй былой настаўніцы Ніне Міхайлаўне Валькоўскай: «Я магу лічыць сябе шчаслівым чалавекам. Мне пашанцавала быць удзельнікам галоўных падзей, якія выпалі нашаму пакаленню. Прыемна ўсведамляць, што чалавек сёння аб'ядноўвае свае намаганні, каб ахапіць розумам як мага глыбей гэтае грознае, таямнічае, недасягальнае. І свой абавязак я выканаю, як належыць камуністу...»

Ён бы выканаў! Абавязкова выканаў бы! Ён да кажа гэта пазней, крыху больш чым праз паўгода.

І вось тады, у кастрычніку 1977-га, найбольш, можа, ярка праявіўся байцоўскі (скажам так) характар Уладзіміра Васільевіча Кавалёнка. Яму, пэўна, згадаўся іншы дзень іншага кастрычніка — кастрычніка 1957 года. Ён тады хадзіў у школу ў вёску Зачысце, у дзевяты клас. У тыя дні над Зямлёй пачаў лятаць, пасылаючы ёй пераможныя сігналы, першы штучны спадарожнік. Дырэктар школы М. П. Ціхановіч з дапамогай прымітыўнага, самаробнага «тэлескопа» спрабаваў пры святле карасінавай лямпы паказаць дзецям тую жывую, зіхатлівую, гаманлівую зорачку. І першае пытанне, якое задаў Валодзя Кавалёнак настаўніку, было: «Значыць, калі-небудзь людзі паляцяць у космас?» Не, тады ён, мусіць, наўрад

ці дапускаў і ў думках, што некалі паляціць туды сам. Зрэшты, мо і мільганула такая думка — трымклівай, салодкай, дзіцячай нязбытнай мараю. Справа не ў гэтым. Справа ў тым, што тады ўсё ж нешта зварухнулася ў хлапчуковай душы, і гэтае нешта быццам падштурхнула яго з яшчэ большай упартасцю і настойлівасцю авалодваць ведамі, бо толькі веды — гэта ён, мусіць, найперш і зразумеў тады — адкрываюць чалавеку дарогу да самых смелых і вялікіх здзяйсненняў, у тым ліку і дарогу да зор.

Прынамсі, той жа Н. М. Валькоўскай ён пісаў: «Мне на долю выпала сур'ёзная задача. Вельмі адказны момант, вельмі вялікія, значныя задачы ўскладзены на мае плечы. Упэўнены, што спраўлюся. Можа, пра гэты дзень гаварылі мы тады ў Зачысці пры цьмяным святле карасінавай лямпы. Не ведаю, але размова ішла пра жыццё. У тыя дні неяк выразней сфарміраваўся мой погляд на будучыню. Атрымалася нешта падобнае на тое, калі наводзіш рэзкасць пры фатаграфаванні. Вы ведаеце, што да гэтага дня я ішоў больш чым дзесяць гадоў. Працаваў вельмі шмат. Хачу заданне выканаць на «выдатна»...»

На той раз не атрымалася — карабель не састыкаваўся са станцыяй. Аднак жа паглядзіце, як успрыняў Кавалёнак гэту сваю няўдачу. Вось радкі з яго наступнага ліста да другога свайго настаўніка, да колішняга «школьнага астранома» М. П. Ціхановіча: «Не варта часовыя няўдачы ўспрымаць як паражэнне. Што датычыць мяне, то я не складваю скафандра на доўгае захоўванне». І яшчэ такія радкі былі ў тым лісце: «Я атрымаў шмат добрых слоў ад сваіх землякоў. Хацелася б, каб яны не расчароўваліся. Шлях гэты цярністы. Гэта не толькі трап самалёта і дывановая дарожка. Зусім не! Наша праца, праца касманаўта, тая ж самая праца хлебароба. Мы ўстаём і кладзёмся ў адзін час, разам з сонцам, а на працягу

года ўсе нашы справы падпарадкоўваюцца адной мэце. І іншага быць не можа. Наперадзе ў мяне шмат спраў. Я яшчэ буду лятаць, і лятаць многа...»

Вось так! Вось якая закваска ў крылатага — ужо тады крылатага! — хлопца з вёскі Белае. Самая надзейная закваска — хлебаробская! Ён ішоў да мэты спакойна, упарта, упэўнена, сустракаючы свае світанкі і змярканні з адною думкаю — аб палёце, як хлебароб — аб хлебе. І як урэшце праца хлебароба, аброшаная ранішнімі росамі і паўдзённым потам, вянчаецца важкім, умалотным коласам, так і праца касманаўта, якая таксама не баіцца паху і смаку поту, вянчаецца высокім узлётам — белымі, блізкімі — як узяць у рукі! — зоркамі над галавою.

Гэтым апошнім — працавітасцю, настойлівасцю, упартасцю ў дасягненні мэты, скажам нават так — хлебаробскай цягавітасцю — таксама вельмі падобны між сабою сялянскі хлопец Пятро Клімук і сялянскі хлопец Уладзімір Кавалёнак. Гэта рыса іх характараў добра ўгадваецца ў па-мужчынску цвёрда акрэсленых вуснах, якія, тым не менш, у хвіліны сардэчнай адкрытасці бываюць і зусім па-хлапечы ўсмешлівыя, рухавыя, жывыя...

І яшчэ пра адно, што ў велізарнай ступені аднолькава ўласціва абодвум і без чаго іх высокія чалавечыя якасці ўсё ж не далі б, думаецца, такіх бліскучых вынікаў. Гэта — пачуццё вялікай адказнасці за даручаную справу, адказнасці перад Радзімай, партыяй, народам. Адчуванне таго, што яны ў Сусвеце — пасланцы вялікай сацыялістычнай Радзімы, уласціва ўсім савецкім касманаўтам. У вышэйшай ступені ўласціва яно і касмічным сынам Беларусі. Толькі вялікая ідэя акрыляе чалавека, дае яму сілу выстаяць і перамагчы ў праціборстве з такім магутным, каварным, усё яшчэ не спазнаным да канца праціўнікам, які з'яўляецца бясконцая прастора кос-

масу. Гэта — з аднаго боку. З другога — служэнне вялікай ідэі, высокай мэце несумяшчальнае з самалюбствам, з зазнайствам, з карыслівасцю, з дробязнасцю памкненняў, інтарэсаў і жаданняў. І ці не таму і Пётр Ільіч Клімук, і Уладзімір Васільевіч Кавалёнак — увасабленне чалавечай сціпласці, прастаты, абаяльнасці, пра што гаварылася напачатку? Пэўна ж, так.

У гэтым таксама вытокі нашай любові і пашаны да іх...

## 2

Яго і Аляксандра Іванчэнкава касмічная адысея пачалася 15 чэрвеня, а скончылася 2 лістапада 1978 года. А між гэтымі датамі — 140 дзён і начэй і больш чым 93 мільёны кіламетраў. Гэты самы працяглы на той час пілатуемы палёт быў, несумненна, выдатным поспехам савецкай навукі і тэхнікі, велічным здзяйсненнем усяго савецкага народа.

Гэта, аднак, мы зразумелі пасля. Мы, людзі 80-х гадоў XX стагоддзя, нібы пакрысе страчваем здольнасць здзіўляцца і захапляцца. Віна гэтага, можа быць, і не ў нас саміх, а ў незвычайнай імклівасці навукова-тэхнічнага прагрэсу апошняй чвэрці стагоддзя. Узяць хоць бы той самы космас, дакладней — здзяйсненні ў космасе. Дваццаць восем гадоў назад — лічы, усяго толькі чвэрць веку! — быў запушчаны першы штучны спадарожнік Зямлі, а практычная касманаўтыка за гэты час паспела вырашыць столькі складаных праблем, што колішнія, яшчэ зусім нядаўнія фантазіі аб падарожжах на іншыя планеты набываюць абрысы рэальнасці і верагоднасць іх ажыццяўлення яшчэ ў нашым стагоддзі ўяўляецца зусім магчымай. Ну, а што датычыцца арбітальных палётаў у космас, дык яны сталі для нас даўно ўжо зусім, бадай, звычнымі.

І таму паведамленне ТАСС аб запуску «Саюза-29» на чале з камандзірам Кавалёнкам і бортінжынерам Іванчэнкавым нас ужо, здаецца, узрушыла не так само па сабе, як тым, што сярод членаў экіпажа зоркалёта быў менавіта наш зямляк, хлопец з вёскі Белае. Усе мы чакалі яго другога палёту і шчыра радаваліся, што вось ён нарэшце пачаўся, і ад усяе душы жадалі земляку ўдач і поспехаў.

П. Клімук і В. Севасцьянаў лятаді 63 сутак. Лята́лі так доўга ўпершыню, лята́лі хораша, надзейна, упэўнена, і мы не маглі не захапляцца імі, іх мужнасцю, стойкасцю, вынослівасцю. Потым, праз некаторы час, Г. Грэчка і Ю. Раманенка прадоўжылі касмічную вахту да 96 сутак — пабілі сусветны рэкорд працягласці жыцця і работы чалавека ў бязважкасці. Вярнуліся яны на Зямлю ў добрым здароўі, і мы ці не палічылі ўжо, што так і трэба, што іначай і быць не магло: маўляў, усё ідзе нармальна, назапашванне вопыту і навыкаў адбываецца па ўзрастаючай.

І вось для работы на борце «Салюта-6» выправілася чарговая экспедыцыя. Як доўга яна будзе працаваць там, што наканавана выканаць у космасе Кавалёнку і Іванчэнкаву — гэта нам тады, напачатку, было невядома, і мы, здаецца, досыць спакойна ўспрынялі іх старт і першы, другі, трэці месяц ці не гэтак жа спакойна назіралі за іхняй работай — як за звычайнай, няхай сабе і ў незвычайных умовах, работай. Тым больш што самі касмічныя працаўнікі супакойвалі нас — яны размаўлялі з намі з экранаў тэлевізараў так проста, так шчыра, а часам з такім здаровым гумарам, з такой бесклапотнай усмешкай, што начыста знікала адчуванне ўсялякай экстравагантнасці — хлопцы з космасу ўспрымаліся намі так, нібы знаходзіліся яны недзе куды бліжэй, ну, скажам, на БАМе ці ў запалярным Надыме, у гурце шматлікіх, такіх жа маладых і вясёлых сяброў і сяб-

ровак, нібы жывуць і працуюць яны так, як і мы, як належыць жыць і працаваць людзям.

І толькі недзе тады, калі іх касмічная вахта пераваліла за 100 дзён, мы нечакана спахапіліся, і захваляваліся, і затурбаваліся, і занепакоіліся, чым далей, тым болей расло наша захапленне імі і спадзяванне на іх хуткае і шчаслівае вяртанне на Зямлю.

140 дзён і начэй у космасе... Нават і цяпер, калі гэтыя дні і ночы мінуліся, калі вучоныя і спецыялісты падсумавалі іх першапачатковыя вынікі, калі савецкія касманаўты працавалі на арбіце больш чым 200 дзён, мы з вамі, тыя, каму не суджана зведаць, што такое космас, усё адно не можам з усёй паўнатой уявіць сабе, што гэта такое...

Возьмем усяго толькі адну бязважкасць. Бязважкасць — адсутнасць вагі. Вагі ўсяго акаляючага і сваёй уласнай. Здорава, ці не праўда? Ты вольны як птушка!.. Не і яшчэ раз не! Ты — бездапаможны! Ты — некіруемы!

Ты толькі падумаў падняцца з крэсла, яшчэ, здаецца, не паварухнуўся, а перададзены думкай сігнал прымусіў твае мышцы напружыцца, і гэтага было дастаткова, каб ты нечакана адарваўся ад крэсла і ўсплыў у паветра...

Ты дакладна ведаеш, што вось гэты кантэйнер важыць пяцьдзесят кілаграмаў, аднак — не вер вачам сваім! — ты падымаеш яго лёгкім дотыкам мезенца, як пушынку...

Ты добра памятаеш, што вось толькі паклаў на столік аловак, якім рабіў запісы ў бартавым журнале, а праз хвіліну алоўка таго нідзе няма — «сплыў» кудысьці сам па сабе...

Ты хочаш наліць у шклянку вады, але яна не цячэ ў тую шклянку альбо выскоквае з яе, як жывая, і павісае ў паветры зіхатлівым шарыкам...

А галоўнае, з самім табою ў бязважкасці робіцца нешта незвычайнае. Лёгкасці, на якую ты спадзяваўся, няма. Наадварот, галава цяжкая як бязмен, быццам цябе нейкая нячыстая сіла паставіла ўверх нагамі і не дае вярнуцца ў нармальнае становішча. Ты бездапаможны, як малое дзіця, якое робіць свае першыя крокі, цябе заносіць то ў адзін бок, то ў другі, ты баішся варухнуць нагой ці рукой, бо неасцярожны рух штурхае цябе кудысьці, закручвае на месцы, падымае ў паветра, ты не можаш зразумець, што з табою, дзе ты, і пакутліва чакаеш, калі мінецца, зваліцца з цябе гэтае незразумелае насланнё.

....Гэта я прыгадваю тое, што расказваў мне Пётр Ільіч Клімук пад час, калі мы працавалі над ягонай кнігай «Зоры — побач»,— толькі асобныя дэталі з яго незвычайнага, найцікавейшага расказу пра бязважкасць.

Згадзіцеся, што нават проста жыць у такіх умовах вельмі і вельмі нялёгка. Звычайныя працэсы чалавечай жыццядзейнасці абарочваюцца ў бязважкасці складанымі праблемамі. Паесці —праблема: баршчу з міскі, як на Зямлі, у космасе не пасёрбаеш, уцячэ твой боршч з талеркі ад першага дотыку лыжкі, і даводзіцца той самы боршч запакоўваць у тубу (накшталт цюбіка з зубной пастай) і выціскаць яго, як тую ж зубную пасту, проста ў рот. І вады папіць у бязважкасці — таксама праблема: пап'еш яе толькі з сасуда накшталт гумавай грэлкі са шлангам — шланг у губы, а грэлку паціхеньку сціскай рукамі, каб вада пацякла па шлангу і патрапіла табе ў рот. І паспаць — праблема: прынамсі, не ляжаш там у пасцельку і не накрыешся коўдраю...

Праўда, з цягам часу ты прывыкнеш да бязважкасці: навучышся і есці, і піць, і спаць, навучышся хадзіць (дакладней — плаваць у паветры), выпрацуеш каардынацыю сваіх рухаў і адчуеш сябе фізіч-

на лепей, не так, як у першыя гадзіны і дні бязважкасці,— прынамсі, цябе яна ўжо не будзе так прыгнятаць, аднак жа — яна, бязважкасць, застанецца, і ты нікуды ад яе не ўцячэш, і яна будзе табе напамінаць аб сабе штодня і штохвілінна...

Ну, а яны ж, Кавалёнак і Іванчэнкаў, не проста жылі ў бязважкасці доўгіх 140 дзён. Яны — працавалі. І як працавалі! За 140 дзён палёту яны зрабілі незвычайна шмат. Так шмат, што ажно сумненне бярэ — ці пад сілу гэта двум звычайным, зусім не волатаўскім хлопцам.

Прыгадаем сёе-тое з таго, аб чым паведамлялася ў перыядычным друку і што збольшага вядома ўсім нам.

Незадоўга да пасадкі Кавалёнак і Іванчэнкаў адправілі ў зваротную дарогу — праўда, не на Зямлю, а ў шчыльныя пласты атмасферы, дзе ён згарыць,— грузавы карабель «Прагрэс-3». Яны нагрузілі на яго 850 кілаграмаў адпрацаванага абсталявання, матэрыялаў і іншых адыходаў касмічнай вытворчасці. 850 кілаграмаў толькі адыходаў! Можна ўявіць па гэтым аб'ём самой касмічнай вытворчасці. Яны цалкам выкарысталі 1200 кілаграмаў грузу, што даставіў на борт «Салюта-6» яшчэ «Прагрэс-1», які разгружалі Г. Грэчка і Ю. Раманенка. І самі разгрузілі тры «Прагрэсы». І хоць пануе там бязважкасць, аднак жа разгрузка — занятак не з лёгкіх у самым што ні ёсць прамым сэнсе.

Аднойчы «Фатоны» (такія былі пазыўныя Кавалёнка і Іванчэнкава) адказвалі ў сеансе сувязі на пытанні чытачоў газеты «Правда». Сярод пытанняў было такое: «Напэўна, у бязважкасці лёгка перасоўваць разнастайныя прадметы, ніякіх намаганняў не трэба?» Іванчэнкаў на гэта адказаў сціпла: «Я гляджу на пальчаткі, у якіх мы працуем пры разгрузцы і пагрузцы «Прагрэсаў». Гума ў многіх мясцінах

сцерлася. Так што даводзіцца прыкладаць намаганні...»

Чатырма камерамі розных тыпаў Кавалёнак і Іванчэнкаў адзнялі кіламетры (менавіта кіламетры!) кіна-і фотастужкі, на якой зафіксавалі многае з таго, што адбывалася на паверхні Зямлі, на борце «Салюта-6» і ў касмічнай прасторы. На ўстаноўках «Крышталь» і «Сплаў» правялі больш чым 50 тэхналагічных эксперыментаў, выканаўшы каля 60 плавак і атрымаўшы каля 50 розных рэчываў і іх мадыфікацый. Даследавалі яны 7 тэхналагічных працэсаў. Іх работа ў космасе дала багатую, падчас унікальную інфармацыю біёлагам, медыкам, гляцыёлагам (у прыватнасці, імі выяўлена невядомая раней заканамернасць руху ледавікоў у гарах Лацінскай Амерыкі), пажарнікам («Фатоны» назіралі 7 ачагоў буйных пажараў у Аўстраліі), вулканолагам, акіянолагам, метэаролагам і прадстаўнікам іншых галін навукі, тэхнікі, народнай гаспадаркі.

Разам са сваімі касмічнымі пабрацімамі — П. Клімуком і касманаўтам з Польскай Народнай Рэспублікі М. Гермашэўскім, В. Быкоўскім і касманаўтам з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі З. Йенам — «Фатоны» правялі сумесныя даследаванні і эксперыменты, падрыхтаваныя вучонымі і спецыялістамі сацыялістычных краін.

Акрамя таго, «Фатоны» працавалі ў адкрытым космасе. Яны выходзілі ў космас не для таго, каб ліквідаваць нейкія ўзнікшыя непаладкі — іх не было за час палёту, комплекс працаваў надзейна, а каб па штатнай, гэта значыць, па складзенай яшчэ на Зямлі, праграме палёту праверыць на знешнім баку люка ўкладкі з так званымі герметыкамі, замяніць узоры розных відаў пакрыццяў, праверыць прыбор для даследавання мікраметэарытаў, а таксама замяніць біялагічныя ўзоры — скуру жывёлы, мікробы...

А яшчэ — перастыкоўка «Саюза-31». Што гэта значыць? Трэба было карабель «перавесці» ад аднаго стыковачнага вузла станцыі да другога, які знаходзіцца на супрацьлеглым баку і які вызваліўся пасля адчальвання «Саюза-29», каб мець магчымасць да першага стыковачнага вузла, да агрэгатнага адсека станцыі, прыняць яшчэ адзін грузавік «Прагрэс» з палівам для станцыі. Перастыкоўка ажыццяўлялася ўпершыню ў гісторыі касманаўтыкі. І яе задачы былі большыя, чым проста практычныя. Перастыкоўка ўвогуле патрэбна для работы з «Салютам» і, несумненна, спатрэбіцца для работы з іншымі станцыямі і караблямі. Аперацыя гэта — адно з тэхнічных выпрабаванняў арбітальнай сістэмы. І выканана яна была «Фатонамі» на ўзроўні вышэйшага пілатажу...

Работа ў космасе...

Яна мае не толькі навуковае значэнне. З кожным годам, з кожным новым палётам яна прыносіць усё большую практычную аддачу. Прыгадаем, напрыклад, двухмесячны палёт П. Клімука і В. Севасцьянава. З борта «Салюта-4» яны сфатаграфавалі 5,5 мільёна квадратных кіламетраў тэрыторыі нашай краіны. Эфект толькі гэтай іхняй работы вылічваецца ў 50 мільёнаў рублёў. Касмічныя здымкі ў 9 разоў выгаднейшыя ў параўнанні з іншымі метадамі здымак для картаграфавання. Акрамя таго, яны выкарыстоўваюцца для выяўлення новых месцанараджэнняў нафты, газу і руд, падземных водных басейнаў у пустынях. Касмічныя спадарожнікі аблягчаюць сувязь, даюць магчымасць мільёнам людзей на Поўначы, у Сібіры, на Далёкім Усходзе рэгулярна глядзець тэлеперадачы з Масквы і г. д. А галоўнае, бадай, заключаецца ў тым, што касманаўтыка дала магчымасць чалавецтву ў ходзе навукова-тэхнічнай рэвалюцыі зрабіць прынцыпова новы крок у вывучэнні не толькі

сваёй планеты, але і ў спазнанні ўсёй Сонечнай сістэмы.

Гэтую практычную карысць працяглых палётаў пераканаўча пацвердзілі і «Фатоны». Вось што пісаў у «Правде» кіраўнік палёту, доктар тэхнічных навук, двойчы Герой Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт СССР А. Елісееў пасля 100 дзён палёту Кавалёнка і Іванчэнкава: «На ўстаноўках «Сплаў» і «Крышталь», напрыклад, атрымана больш чым 30 разнастайных рэчываў, вытворчасць якіх у зямных умовах звязана са значнымі цяжкасцямі, а часам і зусім немагчыма. Між тым рэчывы гэтыя неабходны электроніцы, лазернай тэхніцы. Частка з іх перададзена ўжо для вырабу эксперыментальных прыбораў і прылад. За час свайго рэйса Уладзімір Кавалёнак і Аляксандр Іванчэнкаў выканалі каля 3 тысяч фатаграфій зямной паверхні ў шасці спектральных дыяпазонах, гэта значыць, зрабілі каля 18 тысяч здымкаў. Для аэрафотаздымкі такога размаху спатрэбіўся б не толькі непараўнана большы тэрмін, але, што істотна, давялося б атрымаць і апрацаваць у 900 разоў больш кадраў. Які рост эфектыўнасці працы!»

Дзеці Зямлі, яны, трэба думаць, сумавалі па ёй і аддавалі ёй шмат увагі не толькі ў час спецыяльных эксперыментаў і даследаванняў. Яны звярталі свой пагляд на Зямлю і ў нешматлікія вольныя хвіліны — проста любілі паназіраць за ёй, адшукаць абрысы знаёмых, родных мясцін, палюбавацца шчодрымі зямнымі фарбамі. І гэта прыносіла ім вялікае душэўнае задавальненне.

У згаданай ужо своеасаблівай прэс-канферэнцыі борт «Салюта-6» — Зямля, калі «Фатоны» адказвалі на пытанні чытачоў «Правды», Уладзімір Васільевіч Кавалёнак гаварыў:

— У пачатку нашага палёту палі былі зялёныя, пасля пачалі паступова жаўцець. У Казахстане мож-

на заўважыць валкі на палях. Праглядваецца ход жніва ў Сібіры. Відаць, як мяняецца Зямля... Збажына паспела... Дарэчы, сёння падняўся раней і пагледзеў на Растоўскую вобласць: вось дзе перайначылася поле! І на поўдні Украіны... Упэўнены, што недалёка той час, калі касманаўты змогуць больш эфектыўна памагаць працаўнікам сельскай гаспадаркі.

Яны, бадай, як ніхто, вывучылі нашу Зямлю, бо ніхто да іх так доўга і так пільна не ўзіраўся ў яе і праз аб'ектывы фотаапаратаў, і няўзброеным вокам. І часта бачылі на ёй тое, што засмучала. І пра гэта яны таксама гаварылі людзям Зямлі.

Так, у час аднаго з тэлерэпартажаў Уладзімір Васільевіч адзначаў:

— Мы прызвычаіліся, што Зямля нас корміць і поіць. Але адсюль, з космасу, асабліва выразна відаць, што яна мае вельмі вялікую патрэбу ў чалавечай ласцы і клопаце. Мы пралятаем над велізарнымі пустынямі, над бязмежнымі акіянамі, якія час па-гаспадарску асвойваць на карысць чалавецтву. Для гэтага трэба аб'ядноўваць намаганні ўсіх краін, адшукваць сродкі за кошт спынення гонкі ўзбраенняў...

Асобным мясцінам Зямлі «Фатоны» аддавалі асаблівую ўвагу. Напрыклад, Паміру. Ён невыпадкова быў абраным раёнам гляцыялагічных даследаванняў з борта «Салюта-6». Справа ў тым, што тут знаходзяцца самыя буйныя ледавікі нашай краіны. А галоўнае ў тым, што гэтыя самыя гляцыялагічныя даследаванні тут звязаны з практычнымі патрэбамі: каб папярэджваць разбуральныя вынікі магутных водна-лёдавых лавін — селяў. А яшчэ таму, што вывучаць памірскія ледавікі з космасу лягчэй, чым якія-небудзь іншыя,— на Паміры многа сонечных дзён, малая воблачнасць. А працягласць палёту забяспечвала працягласць і рэгулярнасць назіранняў і

фотаздымкаў, што давала магчымасць атрымліваць велізарны і каштоўны матэрыял аб росце, характары і паводзінах ледавікоў.

Працягласць палёту забяспечвала каштоўнасць і многіх іншых навуковых назіранняў. Спрыялі гэтаму і экіпажы наведванняў. Яны забіралі частку вынікаў праведзеных эксперыментаў і дастаўлялі іх на Зямлю, у лабараторыі вучоных. Дзякуючы гэтаму ў вучоных паявілася магчымасць уносіць у далейшае правядзенне эксперыментаў і назіранняў карэктывы і дапаўненні.

Так, у адным з рэпартажаў з Цэнтра кіравання палётам расказвалася аб супрацоўніцтве «Фатонаў» з... рыбакамі. Так, так, са звычайнымі рыбакамі, якія займаюцца промыслам рыбы ў адкрытых акіянах. На аснове фотаздымкаў і візуальных назіранняў «Фатонаў» былі зроблены пэўныя вывады не толькі аб тэмпературы марской вады, аб характары рачных вынасаў, аб назапашванні планктону, але і аб запасах рыбы. У выніку рыбакі атрымалі канкрэтныя рэкамендацыі, дзе лавіць гэтую самую рыбу, куды накіроўваць траўлеры, каб тралы былі паўнейшыя.

140 дзён і начэй...

Зрэшты, для іх — проста 140 зямных сутак, бо яны не ведалі там звычных для нас, зямлян, змен дня і ночы, у іх былі свае, касмічныя рытмы... Гэта — немалы адрэзак часу і для нас, прывыкшых жыць размераным, нармальным жыццём: хадзіць на працу і ў школу, адпачываць, наведваць тэатры і выстаўкі, сустракацца з сябрамі, ездзіць у камандзіроўкі і на экскурсіі ў іншыя гарады і раёны. «Фатоны» былі пазбаўлены ўсяго гэтага. Яны былі толькі ўдвух (не лічачы кароткачасовых адведак членаў экіпажаў «Саюза-30» і «Саюза-31»), у замкнутым асяроддзі, ва ўмовах кароткіх (15 разоў на працягу нашых зямных сутак) змен чорнай начы і зыркага сонца, сярод

няспыннага патрэсквання розных рэле і нямоўчнага шуму сістэм жыццезабеспячэння, у палоне бязважкасці... Якімі доўгімі павінны былі здавацца ім гэтыя 140 сутак! І трэба было нястомна працаваць, ні на хвіліну не расслабляцца, не паддавацца роспачы, пачуццю звычайнай чалавечай стомленасці, несці да канца сваю нязменную рабочую вахту, абапірацца пры гэтым толькі на сябе і на таварыша. Ці ж гэта не мужнасць?!

Кавалёнак і Іванчэнкаў разумелі гэта... І не хвалі таго, што ім было нялёгка. Але толькі пасля, як скончылася іх касмічная вахта, як яны шчасліва прызямліліся. На трэці дзень свайго знаходжання ў Байкануры, у час сустрэчы з журналістамі, камандзір «Фатонаў» на пытанне «Што было самае цяжкае ў рэйсе?» адказаў:

— Работа.— І ўдакладніў: — Работа ў яе жалезнай паслядоўнасці. Уявіце сабе насычаны рабочы дзень на Зямлі. І што на працягу гэтага дня вам трэба ў строга вызначаны тэрмін — ні на мінуту раней, ні мінутай пазней — прайсці дзесяткі часавых пунктаў. Асаблівая пунктуальнасць і даецца цяжэй за ўсё.

А Іванчэнкаў дадаў:

— Цяжка, як заўсёды, самае простае. Цяжка заставацца самім сабой, пастаянна захоўваць той настрой, з якім пакідаў Зямлю. Бо 140 дзён — доўгі тэрмін. Часам думаеш: вось бы сёння не станавіцца на бегавую дарожку. Ці так, злёгку прабегчыся. Але злёгку нельга. Да поту, да салёнага поту! І толькі так...

Яны жылі адным жаданнем: выканаць заданне, апраўдаць высокае давер'е. Нават у тую, несумненна шчаслівую хвіліну, калі іх спускаемы апарат мякка дакрануўся да зямлі, калі ўсе клопаты і трывогі за-

засталіся ззаду, Уладзімір Васільевіч думаў... Зрэшты, вось што ён сам сказаў пра тое:

— Вецярок на пасадцы быў ладнаваты, наш карабельчык паклала набок, так што я апынуўся ўнізе, а Саша наверсе. Усё ж, яшчэ да верталёта, я здолеў адчыніць люк, і такі салодкі зямны дух ударыў у твар, так закружылася галава! І я падумаў: вось цяпер — усё! Усё зроблена! Мы абяцалі справіцца з заданнем — мы справіліся з ім. Якое гэта шчасце, хлопцы: зрабіць усё, што магчыма зрабіць!..

Гэта быў подзвіг! Подзвіг у імя Радзімы, дзеля яе славы і велічы! І здзейснілі яго два звычайныя савецкія хлопцы, мае сучаснікі, можна сказаць нават — равеснікі, бо яны таксама з нашага пакалення, дзяцінства якога было апалена вайной,— беларус Кавалёнак і рускі Іванчэнкаў.

Гэты чалавечы подзвіг паўстае ў яшчэ большым гераічным святле цяпер, калі мы ведаем, што літаральна праз некалькі дзён пасля пасадкі Уладзімір Васільевіч Кавалёнак пачаў... падрыхтоўку да новага касмічнага палёту. І не да кароткага, а да працяглага, бо сам для сябе абраў менавіта такую работу ў космасе.

Аднаго разу ён гаварыў журналістам:

— Бадай, толькі пасля першага месяца палёту я адчуў, што пачынаю працаваць на арбіце на поўную сілу. Больш заўважаеш, можаш паглыблена вывучаць тыя ці іншыя з'явы... Карацей кажучы, я належу да касманаўтаў-стаераў, аддаю перавагу доўгім дыстанцыям...

Ягоным навуковым клопатам пасля 140-сутачнага палёту стала даследаванне з арбіты прыродных рэсурсаў Зямлі. Гэты клопат паклікаў яго ў космас і трэці раз. Стартаваў ён 12 сакавіка 1981 года на караблі «Саюз Т-4» разам з бортінжынерам Віктарам Пятровічам Савіных, каб на другі дзень састыкавац-

ца з арбітальным комплексам «Салют-6» — «Прагрэс-12» і працаваць на яго борце 75 не кароткіх касмічных, а доўгіх зямных сутак.

## 3

140 дзён правялі на арбіце «Фатоны», і ўвесь гэты час нёс кругласутачную вахту Цэнтр кіравання палётам (ЦКП). Кіраўнікі, спецыялісты, аператары Цэнтра рабілі ўсё для таго, каб двое на арбіце паспяхова выканалі праграму палёту, заставаліся іх дарадцамі і памочнікамі, клапаціліся аб тым, каб «Фатоны» былі ў курсе зямных спраў, каб не адчувалі сябе адзінокімі. Экіпажы наведванняў і «Прагрэсы» дастаўлялі на борт «Салюта-6» газеты, пісьмы і паштоўкі ад родных і блізкіх, пасылкі. ЦКП некалькі разоў наладжваў для «Фатонаў» тэлеспатканні з сем'ямі. У Цэнтры не забыліся нават на такую дробязь, каб з адным «Прагрэсаў» пасланць на борт... гітару. Звычайную гітару, якая прынесла шмат радасці бортінжынеру Іванчэнкаву. Факт гэты, сам па сабе, не надта, бадай, і значны. Аднак жа ён красамоўны...

На сённяшнім этапе касмічных даследаванняў іначай нельга. Без цесных узаемадзеянняў з Зямлёй, без такой зямной падтрымкі і ўвагі працаваць у космасе цяжка. І не толькі — на сённяшнім. Гэта будзе мець не меншае значэнне і пасля, калі чалавек выправіцца ў падарожжа да іншых планет Сонечнай сістэмы. Як бы далёка ні сягнуў ён у прасторы Сусвету, яму, сыну планеты Зямля, немагчыма будзе парваць з ёю сувязь. Адчуванне таго, што яго на Зямлі памятаюць, думаюць і турбуюцца аб ім, надасць яму мужнасці, настойлівасці, упэўненасці ў сваёй сіле.

За гэты клопат і ўвагу да іх «Фатоны» былі надзвычай удзячны спецыялістам і аператарам ЦКП.

Калі Валерый Быкоўскі і Зігмунд Йен адляталі з «Салюта-6», дадому, Кавалёнак і Іванчэнкаў папрасілі іх перадаць у ЦКП пісьмо. Гэта быў ці не першы касмічны ліст, дакладней — ліст з космасу, атрыманы на Зямлі. «Фатоны» прызнаваліся ў ім у любві да ЦКП, выказвалі яму гарачую падзяку і ўдзячнасць за сяброўскія клопат і ўвагу. Аднак спецыялістаў Цэнтра найбольш парадаваў не змест пісьма, а яго тон — жартаўлівы, бадзёры, гарэзлівы. Калі «Фатоны» жартуюць, калі бяруць на ўзбраенне гумар — значыць, усё ў іх у парадку. Гумар — прыкмета добрага настрою, бадзёрасці, аптымізму, здароўя!

У касмічным лісце былі такія радкі: «Лятаем мы ад арыенціра да арыенціра, як і на самалёце. Але нам прасцей, чым лётчыкам. Бо калі мы захочам даведацца, дзе ляцім, то ціснем на клавіш і пытаемся ў ЦКП. І заўсёды «праз хвілiначку» адказ: «Ляціце між Еўропай і Азіяй», «Праляцелі Аўстралію, але яшчэ да Камчаткі не даляцелі дробязь з гакам». У лісце было і такое «адкрыццё», сфармуляванае Кавалёнкам і Іванчэнкавым: «Космас — гэта такая мясціна, дзе ніхто, акрамя касманаўтаў, не бываў». І яшчэ — пра апетыт: «Калі дома ясі, што хочаш, дык тут, што ЦКП загадае...» На апетыт «Фатоны» не скардзіліся, але ўсё ж у гэтым жарце адчуваецца сум па незабытых зямных харчах...

Так, так, іх хапала там яшчэ і на тое, каб жартаваць. І гэта — хораша! І гэта — здорава!

Нават аб рэчах сур'ёзных яны часта гаварылі з усмешкай. Напрыклад, пра сустрэчу з метэарытам Уладзімір Васільевіч расказваў Зямлі так:

— У поле зроку трапіў мне аднойчы дзіўны прадмет, «галоўка» яго была з тэнісны мяч. За ім цягнуўся шлейф іскраў. Сфатаграфаваць не паспеў, была поўпач, калі ўсе нармальныя людзі спяць, а я падняўся паглядзець, як праходзіць плаўка ва ўстаноў-

цы «Крышталь». Потым падумаў: усё-такі вялікае шчасце, што метэарыт — а гэта быў менавіта ён — прайшоў міма...

У адным з рэпартажаў з Цэнтра кіравання палётам расказвалася аб тым, як Кавалёнак і Іванчэнкаў разгружалі «Прагрэс-4». К таму часу яны мелі багаты вопыт пагрузачна-разгрузачных работ, і вопыт гэты даваў ім магчымасць працаваць з агеньчыкам.

— Станцыя гатова для прыёму багажу,— перадае Кавалёнак.— Месца для размяшчэння дастаўленага хопіць...

— Рэзервнымі аб'ёмамі станцыі ў нас пераважна Валодзя займаецца,— дадае Іванчэнкаў.— У яго талент знаходзіць, куды змясціць які-небудзь прыбор. Прытым заносіць усё гэта ў вопіс. Так што «бухгалтэрыя» дакладная...

— Правільна, ён гаспадарлівы мужык, салідны чалавек,— смяецца аператар Цэнтра кіравання.

— Гэтай кемнасці нам, на жаль, на Зямлі часта не хапае,— падхоплівае жарт Кавалёнак...

Потым, калі разгрузка была закончана, касманаўты павінны былі прымаць душ — яны называлі яго «касмічнай лазняй». Нечакана Кавалёнак весела дакладвае з арбіты:

— Тут невялікае ўскладненне атрымалася. Вада ва ўстаноўцы «Колас» заставалася, дык, каб яна не прапала, мы яе выпілі. На брата прыйшлося па літра паўтара, баімся цяпер, што ў душавую не ўлезем!

— Ну, здароваму арганізму ўсё на карысць,— суцешыла Зямля.

Гэтыя жарты, сяброўскія кепікі былі добрай аддушынай у той сур'ёзнай, адказнай і велізарнай рабоце, якую выконвалі на борце станцыі касманаўты з дапамогай спецыялістаў ЦКП. У апошнія дні палёту шмат увагі аддавалася падрыхтоўцы «Фатонаў» да вяртання на Зямлю. Яны хутка адаптаваліся да

бязважкасці і да апошняга дня захоўвалі высокую працаздольнасць. Аднак ім трэба было вяртацца на Зямлю і трэба было рыхтавацца да новых выпрабаванняў — да рэадаптацыі, а гэты працэс не менш складаны, чым адаптацыя на арбіце. Кавалёнак і Іванчэнкаў разумелі, што тут многае залежыць ад іх саміх — наколькі дакладна і акуратна будуць яны выконваць парады і рэкамендацыі спецыялістаў. І яны выконвалі гэтыя парады надзвычай старанна і пунктуальна. Даволі сказаць, што «Прагрэс-4» прывёз ім новыя эспандзеры і новы абутак — падэшвы ў старых чаравіках працерліся да дзірак.

У выніку Кавалёнак і Іванчэнкаў пасля вяртання на Зямлю вельмі хутка і досыць лёгка прайшлі шлях рэадаптацыі, ужо на другі дзень пасля пасадкі папрасілі ўрачоў дазволіць ім невялікую прагулку...

А на паўночным усходзе Міншчыны, у вёсцы Белае, што прытулілася да Зялёнай Пушчы, нёс бяссонную вахту другі — мацярынскі — Цэнтр кіравання палётам. Тут яна адна, Вольга Іванаўна, маці Уладзіміра Васільевіча, нязменна дзяжурыла ля «пульта». А пультам гэтым было яе мацярынскае сэрца. Хто і калі падлічыць сеансы гэтай сардэчнай сувязі! Мацярынскі пульт не выключаўся ні на хвіліну, нават тады, калі стома брала сваё і Вольга Іванаўна забывалася ў сне. Ёй і ў сне бачыўся яе сын, там, на арбіце, у халоднай маўклівай пустэчы, і нават у сне сэрца яе сціскалася ад болю, ад прагнага жадання: хутчэй бы, хутчэй бы, хутчэй бы...

Маці касманаўтаў...

Так, яны — маці герояў. Але ж ад таго, што сыны іхнія ўзлятаюць так высока, куды не даляцець і не дайсці, ім не лягчэй. Бо яны — маці.

Маці Клімука, Марфа Паўлаўна, пасля першага сынавага палёту, шчасліва абдымаючы яго, казала:

— Дзянёчкі лічыла, гадзінкі, калі ты ўжо вер-

нешся. І радасна мне было за цябе, сынок, за тое, што ты з неба з усёй краінай, з усімі людзьмі бяседу вядзеш, і боязна. Гэта ж як падумаю, што ў тым тваім «Саюзе» нават крылаў няма, дык сэрца так і зойдзецца...

Так і Вольга Іванаўна — лічыла дзянёчкі і ночкі. А іх, гэтых дзянёчкаў і ночак, было надта ж многа, і доўжыліся яны, здавалася, бясконца. Да яе (і да бабулі Уладзіміра Васільевіча Ульяны Паўлаўны) прыходзілі і прыязджалі людзі, знаёмыя і незнаёмыя, зблізку і здалёку, віншавалі, гаварылі, што яны ганарацца яе сынам, супакойвалі, што ўсё будзе добра, а яна слухала, ківала галавой, дзякавала добрым людзям і, не саромеючыся, выцірала слёзы, а яны каціліся і каціліся...

Сёе-тое пра палёт сына Вольга Іванаўна ведала, канечне. Ведала, што ён сам рыхтаваўся да яго доўга, старанна і ўпарта — яна была ў сына ў Зорным гарадку і бачыла, што часта ён вяртаўся дахаты такім стомленым, быццам ад ранку да вечара махаў касою на лузе; ведала, што і карабель яго старанна рыхтавалі да палёту — сын пра тое расказваў неяк, і што ён там не адзін, а з таварышам, і што яны есці з сабой набралі ўсяго — самых розных бляшаначак і пакецікаў, аднак жа ўсё роўна кожны дзень не магла дачакацца, пакуль убачыць яго ў тэлевізары: каб жа хоць усё добра было ў іх, у тым доме касмічным! І ў галаве матчынай круціліся неадступныя пытанні — а ці ж так пільна ўжо трэба гэтак доўга лятаць, а што ж там можна рабіць столькі дзянёчкаў і ночак, а ці ж ведаў ён, яе Валодзька, што яго на столькі пасылаюць туды, а ці ж можна гэта сказаць, папрасіць каго, каб хутчэй ён з таварышам сваім на Зямлю спусціўся?..

Пэўна, прыходзілі такія думкі да Вольгі Іванаўны. Аднак, думаецца, было і іншае. Жылі ў сэрцы

гонар і радасць за сына: гэта ж не абы-хто, а яе сын так высока лятае, там, адкуль палова Зямлі відаць! І жыла вера ў сына, у яго розум і здольнасці: калі выбралі яго ў гэты палёт, дык, значыць, навучыўся ён кіраваць тым караблём лепш за іншых, значыць, не падвядзе сваіх настаўнікаў, як і раней нікога і ніколі не падводзіў!

І зноў, і зноў, каторы раз, перабірала маці ў памяці ўсе пражытыя яе Валодзькам гады...

Бачыла яго маленькім, немаўлём — як на руках з ім хавалася ад карнікаў у блакаду сорак трэцяга, як з ім жа, двухгадовым, страчала ўлетку сорак чацвёртага доўгачаканых вызваліцеляў...

Бачыла яго першакласнікам — у паркалёвай сарочачцы і картовых штоніках, з палатнянай торбачкай цераз плячо...

Бачыла жэўжыкам-пастушком, заядлым грыбніком і ягаднікам — журавіны на балоце збіраў Валодзя спарней за дзевак каторых...

Бачыла падлеткам — танклявым, хударлявым, што браўся з касой наперагонкі куды са сталейшымі хлопцамі...

Бачыла яго тым годам, калі скончыў ён на «выдатна» школу і паехаў паступаць у Ваенна-марскую медыцынскую акадэмію, ужо быццам і экзамены здаў туды, а пасля раптам перадумаў, забраў дакументы і падаўся ў авіяцыйнае вучылішча — змалку трызніў быць лётчыкам...

Бачыла яго курсантам, а пасля і лейтэнантам — як ён прыязджаў у Белае на пабыўку, і як стараўся ў тыя кароткія дні памагчы ёй і бабулі зрабіць што ў хаце і ля хаты, і як паважна ставіліся да яго суседзі, аднавяскоўцы...

Урэшце, прыгадвала, як жыла ў яго і ў нявесткі сваёй, Ніны, памагаючы глядзець унучку Іначку, і ўжо думала пра іх, пра нявестку і ўнучку — як яны

там, без Валодзі, пэўна ж, таксама чакаюць не дачакаюцца,— і зноў скіроўвала думку ў неба, нават не ў неба, а ў той недасягальны, загадкавы, таемны космас...

І мацерыны пазыўныя сягалі туды, адшуквалі рукатворны касмічны дом, пранікалі скрозь яго надзейную браню-абшыўку і знаходзілі водгук у сынавым сэрцы...

Пэўна, і ў Каваленка там, на арбіце, не было таго дня, каб ён не прыгадваў Беларусь (колькі разоў пралятаў над ёй!), а ў ёй — родную вёсачку Белае, а ў ёй — маці, бабулю, дзядзькоў Івана і Мікалая, суседзяў, колішніх настаўнікаў і аднакласнікаў, сяброў і знаёмых.

А сяброў у яго на роднай Беларусі было шмат яшчэ і да старту, і кожны дзень палёту прыбаўляў новых — няхай для яго невядомых, але шчырых і адданых.

Родны край і людзі, сярод якіх чалавек гадаваўся і рос, застаюцца з ім пазаўсёды. «Мілыя вобразы роднага краю» суправаджаюць яго на ўсіх жыццёвых дарогах — далёкіх і блізкіх. Можа быць, найперш на далёкіх. Самому мне не так і часта надаралася адлучацца ад роднага дому, тым больш — далёка, але і ў тыя кароткія ад'езды вельмі хутка лавіў сябе на думцы, што пачынаю сумаваць па любых сэрцу мясцінах, па дарагіх абліччах, нават, прызнаюся, па гуках роднай мовы. Што ж казаць пра чалавека, які на такі працяглы час апынуўся недасягальна далёка, далей, чым «на самым краі зямлі», увогуле не на Зямлі — у геаграфічным паняцці гэтага слова, а па-за Зямлёю, у касмічнай прасторы?!

Памятаю рэпартаж з касмадрома напярэдадні старту «Саюза-25». У камандзіра карабля хтосьці з карэспандэнтаў спытаў: «Каго б вы хацелі бачыць у гэтыя хвіліны побач з сабою?» І Уладзімір Васілье-

віч Кавалёнак, ні на хвіліну не задумаўшыся, адказаў: «Маю настаўніцу Ніну Міхайлаўну Валькоўскую».

Я пазайздросціў ім абаім — і касманаўту, і ягонай настаўніцы.

Яму — што ў яго была такая настаўніца, выкладчыца роднай мовы і літаратуры, да якой ён праз гады збярог такую любоў, пашану і ўдзячнасць, якой пісаў з Байканура ў час свайго першага старту ў космас вось так: «Да старту засталося два дні. Мае сябры адправяць гэтае пісьмо з касмадрома ўжо тады, калі мой «Саюз» пачне адлічваць віткі вакол планеты Зямля. Аднаму мне вядома, што Вы зрабілі, каб сёння я быў на касмадроме. І цяпер я зноў і зноў прыношу Вам, Ніна Міхайлаўна, сваю шчырую ўдзячнасць за тое, што выклікалі ў маёй душы гэтую невадольную цягу да пазнання прыгожага, якая не пакіне мяне ніколі».

А ёй, Ніне Міхайлаўне Валькоўскай, пазайздросціў таму, што ў яе быў такі вучань. І было прыемна, што яна, дачка загінуўшых мінскіх падпольшчыкаў, канчала наш філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна...

Ну, а пры чым тут Зялёная Пушча, якая папрасілася ў загаловак гэтых маіх нататак пра касманаўта-2 з Беларусі?

Зялёная Пушча — гэта лес паблізу вёскі Белае, у якім Валодзя Кавалёнак збіраў грыбы і журавіны. А з другога боку той жа Зялёнай Пушчы прытуліліся Мачулішчы — вёсачка, у якой нарадзіўся і рос вядомы наш паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, мой аднакурснік і сябар Васіль Зуёнак. Ён таксама бегаў у Зялёную Пушчу ў грыбы, і яго рэха недзе перагуквалася з рэхам Валодзі Кавалёнка, хоць самі яны ў дзяцінстве

і юнацтве так і не сустрэліся, і верш пра Зялёную Пушчу Васіль Зуёнак напісаў ужо тады, калі Уладзімір Васільевіч Кавалёнак другі раз паляцеў у космас, прысвяціўшы яго свайму слаўнаму земляку:

Зялёная Пушча — калыска мая —
Галінкаю памяці ў сэрцы.
Пад шатамі звонкімі хлопчык стаяў,
Кувапне збіраў у вядзерца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зялёнае лета планетай плыло,
У дол прарастала карэннем.
На сцежках лясных распраўляла крыло
Касмічнае пакаленне.
І гэты час выспеў, і год надышоў:
Ракета ўразаецца ў просінь!
А дома — Мядзведзіца зорным каўшом
Зноў мары камусьці прыносіць.
Пад небам лясным — Падбярэззе і Клён,
І Белае — воблачкам тае.
Загадкава кліча ў палёт Арыён,
Зялёная Пушча — вяртае...

Гэты верш разам са сваім зборнікам «Нача» паэт паслаў Уладзіміру Васільевічу ў космас. Яго даставіў на борт «Салюта-6», разам з грузам, поштай, пасылкамі, сувенірамі для касманаўтаў, карабель Прагрэс-3». Уладзімір Васільевіч быў вельмі рады падарунку земляка. Ён з асалодаю чытаў вершы, у якіх натхнёна апеты і яго родны куток бацькоўскай зямлі.

Пасля, у адным з сеансаў сувязі, Уладзімір Васільевіч з хваляваннем гаварыў:

— Я атрымаў томік вершаў з «Прагрэсам» на сваёй роднай беларускай мове. Гэта вельмі для мяне прыемна, тым больш што паэт Васіль Зуёнак мой зямляк. Нашы вёскі побач, і мы ў лес у дзяцінстве хадзілі ў адну і тую ж Пушчу ў грыбы, але, праўда, не былі знаёмыя. І назва «Нача» — родная. Гэта рачулка, якая цячэ непадалёк ад нас. Невялікая, але

вельмі маляўнічая. Прыемны сюрпрыз. Я, калі пралятаю над Беларуссю, заўсёды ўзіраюся ў родныя мясціны, спрабаваў нават знайсці гэтую рачулку Начу. Лічаныя секунды ляцім, а ў думках адразу ўяўляеш яе дубровы, палі, лугі, нават узбалоткі згадваеш, дзе грыбы давялося збіраць...

Зялёная Пушча — калыханка паэтаў і касманаўтаў.

Зялёная Пушча — маленечкі астравок у зялёным моры роднай Беларусі, які намагаўся ўгледзець з касмічнай вышыні Уладзімір Васільевіч Кавалёнак.

Зялёная Пушча, якая акрыляла хлапечыя мары, люляла ягоныя касмічныя сны і гукала, вяртала дадому...



# РАВЕСНІК ЗАВОДА

*Некалькі момантаў з жыццёвай і працоўнай біяграфіі токара кавальскага корпуса МТЗ, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Мікалая Няверкі, згаданыя ім самім*

## ВЫТОКІ

«Пашчасціла мне з часам і месцам нараджэння. Рэдка каму выпадае такое. Бацька, памятаю, жартаваў: «Ты, сынок, ужо днём свайго нараджэння шмат да чаго абавязаны. Абы-кім быць табе не прыстала. Так што — глядзі, матай на вус!..»

Жарты жартамі, а нарадзіцца Першага мая сапраўды сёе-тое ды значыць.

А наконт месца нараджэння, дык яно зноў жа — пашукаць трэба такое месца, як вёска Кассё ў Асіповіцкім раёне. У Кассі жыў я да сёмага класа. Мясціны там надзвычай маляўнічыя. Адна Бярэзіна чаго вартая! На беразе ракі і разлеглася вольна, можа, нават трошачку бязладна, вёска майго маленства. Пасля два гады жыў у Тальцы Пухавіцкага раёна — там бегаў у сёмы і восьмы класы. Талька таксама не абдзелена лёсам — хараша там. Недарэмна паблізу Талькі, на высокім беразе Свіслачы, не адно даваеннае лета правёў наш пясняр Якуб Колас...

Ды толькі ў памяці засталіся роднае Кассё, ціхаплынная Бярэзіна і меднастволыя бары на яе берагах. І шкада, што рэдка даводзіцца бываць там.

Памятаю першы прыезд туды пасля доўгай разлукі. Радасна было сустрэцца з вёскай свайго маленства, а яшчэ больш радасна ад таго, што памятаюць людзі і мяне, і бацьку майго — ён памёр маладым, у 1964 годзе,— колішняга партызана і пасляваеннага ветурача, які спраўна лячыў калгасных і людскіх каровак-карміцелек».

## ДЗЯДЗЬКА МІКАЛАЙ

«Скончыў я восем класаў, і паўстала перада мною пытанне: кім быць? Маці — яна ў мяне мела прыгожы голас, любіла спяваць і іграць на гітары — закарцелася было зрабіць з мяне музыку, нават абяцала купіць баян: па тым часе рэч надта ж дарагую, на якую раскашэльвацца асмельваўся далёка не кожны. Але я, як той казаў, глядзеў не туды. Куды больш даспадобы было мне тое, пра што гаварыў дзядзька Мікалай — мацерын брат. Працаваў ён у Мінску на мотавелазаводзе і часта наведваўся да нас у Тальку. Прыязджаў вясёлы, гаманлівы, чыста апрануты, а вось рукі ўсё адно пахлі металам. Для мяне, вясковага хлапчаняці, пах той быў дзіўны і таямнічы. А дзядзька яшчэ і дадаваў тае таямнічасці, кажучы: «Метал, пляменнічак, бярэ чалавека ў палон назаўсёды. Памацалі, адчулі рукі чыгун ці сталь — следу іх не адмыеш. Хоць крапінкі, ды застануцца. І пах той жа...» Вось дзядзька і параіў маці: «Пусці ты хлопца ў горад. Хай становіцца, як я, слесарам. А мо яшчэ лепш — токарам. Справа гэтая, можаш мне паверыць, надзейная...»

Не ведаю, як маці, я ж дзядзьку Мікалаю паверыў адразу. І апынуўся восенню 1961 года ў базавым

тэхнічным вучылішчы № 94 Мінскага трактарнага завода. Праўда, у групу слесараў мяне не ўзялі. Нягледзячы на мае пятнаццаць гадоў, было замала росту і вагі — усяго нешта каля сарака кілаграмаў. Прынялі ў групу токараў. І хутка рукі ў мяне пачалі пахнуць гэтак жа, як і ў дзядзькі Мікалая...»

## НАСТАЎНІКІ

«У школе мяне Архімедам звалі. За тое, што нібыта задачкі хутка разблытваў. Усё, бывала, Архімед ды Архімед! Але, скажу шчыра, не надта я і варты быў такога ганаровага імя.

А ў вучылішчы настаўнікі былі строгія. І самы строгі сярод іх — Рыгор Гаўрылавіч Лосеў. Дысцыпліну трымаў — вайсковую, вучыў найперш па прынцыпу: «Рабі, як я!» Паставіць нас вакол станка, каб кожнаму было відаць, што сам робіць, і загадае: «Глядзі і варон не лаві, кумекай, што да чаго!»

Пасля, калі ўжо ў кожнага з нас быў свой станок, наш настаўнік таксама вока з нас не спускаў. Ні разу не было такога, каб ён, даўшы заданне, пяць разоў не праверыў, як мы точым болт які-небудзь ці ўтулку. Любіў ён нас. Накрычыць часам, насварыцца, але не зняважыць, не пакрыўдзіць. Да кожнага ўмеў падыход знайсці. І мы яго любілі і паважалі.

У вучылішчы я і зараз часта бываю і заўсёды з вялікай радасцю і ўдзячнасцю сустракаюся з Рыгорам Гаўрылавічам. Правільней — сустракаўся, бо не так даўно пайшоў мой настаўнік на заслужаны адпачынак: што ні кажыце, а часу мінулася нямала — тады мне было пятнаццаць, а цяпер бярэцца пад сорак.

А пасля вучылішча, на заводзе, у тым жа кавальскім корпусе, дзе працую і цяпер, напаткаў я Георгія Канстанцінавіча Сакевіча — надзвычай сціплага,

сардэчнага чалавека і сапраўднага майстра такарнай справы. І першыя мае самастойныя дні, тыдні і месяцы ля станка на заводзе прайшлі пад яго ласкавым і спагадлівым прыглядам. Памагаў ён не толькі парадай. У яго станок — магутны, для апрацоўкі вялізных дэталяў. Дык, пакуль станок рэжа тую дэталь, Георгій Канстанцінавіч падыдзе да мяне, паможа дэталь паставіць, кулачкі зацісну́ць — сілы ў мяне ўсё яшчэ крыху не ставала.

Мы і цяпер працуем побач, і я штораніцы рады бачыць добры, адкрыты твар Сакевіча, з цёплым пачуццём цісну яго сяброўскую мазольную руку.

На добрых людзей мне шанцавала. Ніколі не забуду Рыгора Фёдаравіча Віннікава, колішняга майстра з нашага кавальскага. Памятаю, паставіў мяне ён за новы станок, а я вазьмі ды той станок зламай. Незнарок, вядома: занадта блізка падвёў супарт да патрона, за супарт зачапіўся кулачок, я крутануў неасцярожна, вось і паляцела шасцяронка. Не ведаў, куды вочы падзець: апраўдаў, называецца, давер! Хоць ты плач, хоць за локаць сябе ўкусі! А Рыгор Фёдаравіч адно толькі і сказаў: «Бывае, брат... І не такое бывае. І ў мяне калісьці здаралася... Нарэжам новую шасцярню...» Хіба другі раз падвядзеш такога чалавека?..»

## ПЕРШАЯ ДЭТАЛЬ

«Калі лічыць гады вучобы ў вучылішчы і гады службы ў арміі (служыў я ў авіяцыі тэхнарам, з такарным станком і там не разлучаўся), дык у мяне ўжо з дваццаць гадоў працоўнага стажу. Скажу без пахвальбы, зараз ці не з заплюшчанымі вачамі змагу вытачыць дэталь даволі складанай канфігурацыі. А вось жа, быццам было тое ўчора, бачу перад сабою просценькую дэтальку, нешта накшталт пірамідкі,— можна сказаць, не дэтальку, а нікому не патрэбную

балванячку, якую вытачыў сам пад наглядам Рыгора Гаўрылавіча Лосева. Раз дрыжачай рукой падвёў разец, потым другі, трэці, адвёў супарт, выняў з кулачкоў бліскучую пірамідку, узяў яе ў рукі, а сэрца ледзьве з грудзей не выскоквае: сам, сам, сам...

Дзе яна, тая першая, вытачаная мною пірамідка? Пэўна ж, трэба было б захаваць яе, зберагчы. Хай бы стаяла на кніжнай паліцы ці за шклом серванта, поруч з іншымі, дарагімі мне сувенірамі...»

## ПРАВАЯ І ЛЕВАЯ РАЗЬБА

«Скончыў я вучылішча на «выдатна», атрымаў свой першы рабочы разрад. Працаваў і вучыўся. Да арміі паспеў скончыць сярэднюю школу. У 1968 годзе, пасля арміі, зноў вярнуўся на завод, здаў экзамен на чацвёрты разрад. Здаецца, сёе-тое ўжо ўмеў. І вось недзе той парою пачалі праводзіць конкурсы прафесійнага майстэрства — заводскія, раённыя, гарадскія, абласныя і гэтак далей. Памкнуўся і я. Работу сваю любіў, адчуваў, што пакрысе прыходзіць і вопыт. Вось і рашыўся. Гэта ж, мусіць, і трэба, каб у чалавека нарадзілася аднойчы жаданне паспрабаваць свае сілы, памерацца з іншымі.

Заводскі конкурс праходзіў у майстэрнях роднага для мяне вучылішча. Дэталь была не дужа складаная па канфігурацыі і допусках, з разьбой па канцах. Зрабіў яе хутка, параметры ўсе вытрымаў і ўсё ж у спешцы замест правай разьбы нарэзаў левую.

А суддзі былі строгія...

Адным словам, у лік пераможцаў трапіць не ўдалося. Ды затое зразумеў і запомніў назаўсёды: хуткасць і спорнасць у рабоце — справа нажыўная. Любую рэч трэба рабіць так, каб не было сорамна за сваю работу перад людзьмі і перад самім сабой. Паважаць сябе ў рабоце — найперш!»

## ФОРМУЛА МАЙСТЭРСТВА

«Аднойчы гутарыў са мной адзін журналіст. Пытаецца: «Ад чаго, на вашу думку, залежыць майстэрства рабочага, прадукцыйнасць працы?» Кажу: ад здольнасцей, ад кваліфікацыі і ад адносін да справы. Таварыш гэты ўсміхаецца: «Дык, значыцца, гэта ваша формула майстэрства?» Смешна зрабілася. Чаму — формула? Формул я не складаю. Проста сказаў тое, што думаў, у чым перакананы. Упэўнены, што менавіта ад прафесійнага ўзроўню, ад здольнасцей чалавека і яго адносін да работы залежыць вынік ягонай працы».

## СУСТРЭЧЫ, УРОКІ

«Памятаю раённы конкурс токараў. Праходзіў ён у майстэрнях НДІ аўтапрама. Заняў я там першае месца. А галоўным сапернікам аказаўся Валера Канаш — мой аднакашнік па вучылішчу. Валера і ў вучылішчы быў сярод першых. Кажу яму пасля конкурсу: «Так і думаў, што з табой пазмагаемся». А ён смяецца: «Дык жа і я не сумняваўся, што ў фінале з табой сустрэнуся...»

А ў Гродна, на рэспубліканскім конкурсе, у 1971 годзе, сутыкнуўся са славутым токарам-асам з Брэста Лявонам Дзятлам. Журы прысудзіла перамогу мне. Перамагчы Дзятла — ад гэтага, чэснае слова, можна было б крыху і заганарыцца. Дарэчы, з Лявонам Дзятлам мы сустракаліся на конкурсах неаднойчы.

У тым жа 1971 годзе трапіў я на ўсесаюзны конкурс, які праходзіў у Чэлябінску. Заняў там агульнае — па ачках — шостае месца, але затое быў першы па тэарэтычнай падрыхтоўцы, за што атрымаў спецыяльны прыз — радыёпрыёмнік...»

## ШТО ТРЭБА ТОКАРУ?

«У час сустрэч з сённяшнімі навучэнцамі вучылішча хлопцы часта пытаюцца ў мяне: якімі якасцямі трэба валодаць, каб стаць добрым токарам? Што на гэта скажаш? Ну, патрэбна пэўная сума ведаў, найперш, канечне, тэхнічных ведаў. Для таго, каб чытаць чарцяжы, ведаць уласцівасці металаў і разцоў і гэтак далей. Трэба і неблагое здароўе, бо нагрузка ў часе работы на токара немалая. Патрэбна яшчэ любіць сваю такарную справу, умець захапляцца самім працэсам работы.

Але будучы токар, мне здаецца, павінен мець і яшчэ некаторыя чыста чалавечыя якасці. Я, напрыклад, упэўнены, што ніколі не атрымаецца з чалавека добрага токара, калі гэты чалавек па натуры марудлівы, калі рухі і рэакцыі ў яго запаволеныя, калі ён пазбаўлены здольнасці бачыць у чорнай металічнай балванцы будучую дэталь.

Я, скажу пра сябе, загадзя ведаю, колькі часу затрачу на тую ці іншую дэталь, і таму прыступаю да работы спакойна, з цвярозай развагай і разлікам. Я адчуваю свой станок, упэўнены ў ім, магу даць яму, калі патрэбна, максімальную нагрузку. А чалавек без гэтай унутранай упэўненасці баіцца свайго станка і эксплуатуе яго, так сказаць, папаўсілы: ён і сам недапрацоўвае, і машыну прымушае недапрацоўваць».

## ПЯЦЬ ЗА ТРЫ З ПАЛОВАЙ

«У пачатку дзевятай пяцігодкі — гэта асабліва памятаецца, таму і прыгадваю — разгарнулася ў нас спаборніцтва за датэрміновае выкананне вытворчых заданняў. Мы, камсамольцы аддзела службаў (я тады быў камсамольскім сакратаром), таксама выступілі з ініцыятывай: пяцігодку — за чатыры гады!

У нас, у рамонтнікаў, нялёгка падводзіць вынікі спаборніцтва: ні ў метрах, ні ў тонах нашу работу не вымераеш... Мы выкарыстоўвалі новыя, перадавыя метады і прыёмы працы, кожную, малую ці вялікую, тэхнічную навінку бралі на ўзбраенне, дапамагалі адзін аднаму. Берaглі кожную секунду. Хутчэй перакінуць ручку, хутчэй замяніць разец — вось і лішнія секунды, якія складваліся ў хвіліны. І аказалася (эканамісты падлічылі), што многія мае таварышы справіліся з павышанымі абавязацельствамі, а сам я выканаў пяцігодку за тры з паловай гады.

Ударная вахта працягвалася і ў дзесятай пяцігодцы — пяцігодцы эфектыўнасці і якасці работы. Асабіста для мяне пяцігодка «доўжылася» каля чатырох гадоў — за такі час змог выканаць яе планавыя заданні.

Стараючыся не здаваць пазіцый і цяпер. І хоць кожная новая перамога даецца штораз цяжэй, аднак жа працаваць інакш не магу. Шукаю новыя рэзервы. Праца тады становіцца творчасцю, калі яна па душы».

## СВЯТЫ І БУДНІ

«Вось кажуць: не было б будняў, дык і свята не ў радасць. Пэўна, яно і праўда так. Чалавеку патрэбна свята. Хоць бы для таго, каб у добрым настроі азірнуцца назад, убачыць зробленае і нязробленае і каб, нібы адштурхнуўшыся ад пэўнага рубяжа, смялей, больш упэўнена рушыць наперад. Але ў кожнага чалавека павінна быць яшчэ і сваё асабістае свята. Гэткае, так сказаць, асабістае свята.

У мяне за гады работы было нямала такіх свят. Атрымаць самы высокі прафесійны разрад — хіба не свята? А стаць пераможцам рэспубліканскага кон-

курсу? А ў дваццаць чатыры гады атрымаць за сваю працу Ленінскі юбілейны медаль, у дваццаць шэсць — Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета рэспублікі, у трыццаць — ордэн «Знак Пашаны»?

Але, бадай, самыя радасныя, самыя святочныя дні звязаны ў мяне з камсамольскімі ўзнагародамі. Можа быць, па той простай прычыне, што я дужа моцна, душою парадніўся з камсамолам, які дапамог мне вызначыць сваю жыццёвую дарогу, даў мне крылы для ўзлёту. З 1971 года я нашу ля сэрца білет члена нашай вялікай Камуністычнай партыі, але па-ранейшаму сябрую з камсамолам, у якім прайшоў шлях ад радавога камсамольца, групкамсорга, члена камітэта камсамола кавальскага корпуса і завода да члена гаркома і абкома ЛКСМ Беларусі. І таму з асаблівым душэўным хваляваннем прымаў я залатыя знакі ЦК ВЛКСМ «Малады гвардзеец пяцігодкі» і іншыя камсамольскія ўзнагароды за працоўныя поспехі. У 1973 годзе мне за высокія працоўныя паказчыкі, за ўкараненне перадавых метадаў працы разам з іншымі маладымі перадавікамі вытворчасці была прысуджана прэмія Ленінскага камсамола. Даведаўся аб тым раніцаю ў цэху. Прыйшоў на работу, а таварышы абступілі мяне і віншуюць. З чым? — пытаюся. А яны кажуць: «А ты хіба не ведаеш? Ты — камсамольскі лаўрэат! Па радыё перадавалі...» Гэта быў адзін з самых шчаслівых дзён у маім жыцці!

А ўвогуле, люблю я звычайныя, будзённыя дні. Нават больш скажу: не надта прымаю я гэты падзел на святы і будні. Маўляў, свята ёсць свята, а будні — аднастайныя, невыразныя. Мне здаецца, што чалавек, які любіць сваю работу, так не думае. Будзень рыхтуе, куе, набліжае свята. Таму — слава і пашана ім, працоўным будням!»

## ШЧАСЦЕ

«Што такое шчасце? Адказаць на гэтае пытанне нейкай фармуліроўкай цяжка. Ды і навошта? Ведаю пэўна: я — шчаслівы чалавек. Шчаслівы, што жыву ў краіне, дзе становішча чалавека вызначае, як запісана ў нашай Канстытуцыі, яго грамадска-карысная праца і яе вынікі. Шчаслівы, што шчодра адораны чалавечым даверам і павагай, што жыву з упэўненасцю ў заўтрашнім дні. Шчаслівы нават і таму, што нарадзіўся ў сорак шостым, калі пад Мінскам пачалося будаўніцтва трактарнага, і сталася так, што я, равеснік завода, рос разам з ім.

І, канечне ж, шчаслівы ад таго, што ёсць у мяне любімая работа, што растуць у мяне сыны. Пакуль што Віктар і Саша адзінадушна заяўляюць, што будуць лётчыкамі. Падрастуць, то, можа, захочуць стаць інжынерамі, урачамі, будаўнікамі ці, як іхні бацька, металістамі-токарамі. За іх будучыню я не хвалююся. Толькі каб быў на зямлі мір! У іх ужо ёсць адно вялікае званне — грамадзянін Савецкага Саюза. А гэта, гаварыў аднойчы Юрый Аляксеевіч Гагарын, самае высокае і ганаровае званне».



# І ДРЭВА, І МЕТАЛ, І ВЕРШ

Спачатку знаёмства было завочнае...

Зрэдзь часу ў рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва», дзе я працую і зараз, прыходзілі лісты, у якіх былі вершы і скупыя радкі са зваротам да «шаноўнай рэдакцыі»: маўляў, так і так, зноў асмельваюся патурбаваць вас, сам разумею, што паэт з мяне невялікі, ды і часу не маю на тое, каб абрабляць вершы з цярпеннем, аднак — пачытайце, памяркуйце, можа, што-кольвечы з дасланага льга пусціць у свет.

Гэтыя кароткія лісты-прыпіскі сведчылі, што аўтар іх — чалавек сціплы, памяркоўны, разважлівы, што вершаскладанне для яго — не забаўка, хоць, пэўна, і не галоўнае ў жыцці (з лістоў было вядома, што працуе ён слесарам у чыгуначным дэпо і ўжо размяняў пяты дзесятак). І мо па гэтай прычыне лісты яго прывабліваЛі.

ПрывабліваЛі і вершы — пры ўсіх сваіх недахопах. Перш за ўсё — непасрэднасцю, шчырасцю пачуцця. А яшчэ — трапнасцю, тонкасцю назіранняў, удалымі знаходкамі. Сярод строф верша, запоўненых досыць сцёртымі, агульнымі словамі, сярод строф, пазбаўленых адзнак чалавечай асабістасці, нечакана можна было прачытаць і такія, напрыклад, радкі:

Як дзяўчаты, прыціхлі бярозы,
Сумна звесіўшы косы на дол.
Плача восень па леце, і слёзы
Туманом разліліся наўкол.

Альбо:

Гоняць цяпло ўдалячынь
Спозненых кос перазвоны,—
Першая чырвань асін,
Першае золата клёнаў...

Ці:

Ноч прыйшла — часіна мараў
Па дзённай спякоце.
Лысы месяц вісне ў хмарах,
Як гарбуз на плоце...

Гэта, несумненна, паэзія, няхай сабе і не самай вышэйшай пробы.

Пісьмы прысылаў у рэдакцыю Уладзімір Зянько з Маладзечна. Карцела пазнаёміцца з ім. І аднойчы, выкраіўшы час, паехаў у Маладзечна, адшукаў дом № 25 па І-м Сухім завулку.

Гаспадар — невысокага росту, хударлявы — усміхнуўся жывымі, хоць і стомленымі вачамі:

— Чым абавязаны такімі турбацыямі?

Але ў ягоным голасе — глухаватым, мяккім — не было найгранасці ці іроніі: адна прастата і шчырасць.

Неўзабаве мы разгаварыліся.

Уладзімір Барысавіч нарадзіўся ў вёсцы Селяўцы Валожынскага раёна. Дзяцінства было нялёгкае — звычайнае для былой заходнебеларускай вёскі халадечае дзяцінства, з самых малых гадоў пазначанае пастушковай торбай і пугай. А тут яшчэ памёр, надарваўшыся ў лесе, бацька, маці прыняла прымака. Добра, што айчым аказаўся харошым, спагадлівым чалавекам, шкадаваў, поруч са сваімі дзецьмі, і малога Уладзіка. Нават неяк здолеў выпраўляць яго чатыры гады ў польскую школку. На гэтым навука для хлопца і скончылася, калі не лічыць таго, што ў саракавым годзе пабегаў некалькі тыдняў у школу

для дарослых (ужо ў савецкую), каб асвоіць наш шрыфт, навучыцца чытаць і пісаць на роднай мове.

Потым былі гады вайны. У сорак чацвёртым, пасля вызвалення, апрануў шынель і не скідаў яго аж да пяцідзесятага. Дэмабілізаваўшыся, прыйшоў у Маладзечанскае чыгуначнае дэпо, сеў за руль ужо і тады старэнькай, дабітай палутаркі — у арміі набыў спецыяльнасць шафёра — і васемнаццаць гадоў не развітваўся з ёй. Сумленна служыла бабулька-палутарка стараннаму, руплівому гаспадару. Пэўна, усе яе сяброўкі даўно пайшлі на спачын, а яна ўсё сноўдалася па маладзечанскіх вуліцах і завулках, аж пакуль не здарылася з яе гаспадаром няшчасце — адхапіла пілой Уладзіміру Барысавічу пальцы на левай руцэ. Пакуль лячыўся, спісалі палутарку, а яе гаспадар, акрыяўшы, перайшоў у дэпоўскія майстэрні — пачаў слясарыць. Бо Уладзімір Барысавіч здатны і да металу, і да дрэва. Доказ таму — пяты працоўны разрад, які прысвоены слесару Уладзіміру Зянько. А яшчэ — на свае вочы бачыў дом і ўсё ў доме, зробленае яго ўласнымі рукамі, бачыў самаходную трохколку, сабраную, скляпаную ім немаведама з чаго.

Ну, а вершы?

— Гэта, хутчэй, мой адпачынак,— кажа Уладзімір Барысавіч.

Ён дастае з шафкі сшытак у чорнай вокладцы і пачынае чытаць:

Радно сівое хмар халодных
Парвалася, сплыло удаль.
І рэжа бусел — госць прылётны —
Блакіту чыстага крышталь.

Вятрыска ласкавым павевам
Азваўся з цёплай стараны.
Вясна чароўным сваім спевам
Зімовыя прагнала сны.

І днём жаданым дожджык росны
Штурхне з нябёс вясновы гром,
Маланка росчырк свой дзівосны
Агністым правядзе пяром...

Я слухаю і міжволі лаўлю сябе на думцы, што захапляюся і здзіўляюся. Так, вершы цяпер пішуць многія. Як сцвярджаў паэт — палова Расіі. І ў тым, што студэнт універсітэта ці нават школьнік досыць прыстойна зарыфмоўвае нейкі абразок альбо думку, няма нічога дзіўнага. Тут жа — штосьці іншае. Адкуль, якім чынам у душы гэтага сціплага, адвечнага працаўніка, чалавека з пачатковай адукацыяй узнікае, нараджаецца паэзія? Пэўна ж, прыгожай, паэтычнай павінна быць гэтая душа!

Паспрабаваў спытацца пра гэта — вось так проста, адкрыта — ва Уладзіміра Барысавіча. Ён бянтэжыцца, маўчыць, потым гаворыць:

— Што сказаць, дык і сам не ведаю. Калі шчыра, дык... От нешта як быццам зашчыміць, заспявае ў душы. Ці то радок які ўкінецца, ці то думка, настрой прыклеіцца. Ходзіш, робіш што-небудзь, а яна з галавы не йдзе, не выходзіць. І адчуваю, што не магу я таго іначай выказаць, як у вершы. Аж пакуль не ўлучыш хвіліны (часцей вечарам, калі з клопатам скончыш, калі жонка і дзеці палягуць спаць) і не сядзеш за паперу. І радасна, калі на паперы нешта тое атрымліваецца, што ўнутры трапяталася... Вось, нядаўна напісалася. Вячэрні восеньскі матыў:

Вечар зямлю атуляе,
Падае долу лісцё.
Песня ў душы узнікае,
Ціхая, як забыццё.

Першыя ласкі кахання,
Позірк жаданых вачэй,
Салодкая горыч расстання,
Мроі бяссонных начэй,
Скрыпкі чароўнай напевы,

Гук абарванай струны,
Ціхага ветру павевы,
Радасці першыя сны...

Вечар зямлю атуляе.
Падае долу лісцё.
Песня ў душы замірае.
Кволае сэрца біццё.

Зрэдзь часу, як я ўжо гаварыў, Уладзімір Барысавіч пасылае свае вершы ў рэдакцыі газет. І, здаецца, не крыўдуе, калі атрымлівае адмоўныя адказы. Толькі, бадай, аднойчы, калі прачытаў адказ з крыўднымі папрокамі ў непісьменнасці, у яго вырваліся горкія радкі:

Вінаваціш мяне, што я кепска пішу,
Слабавата граматыку знаю.
Зверху бачыш ты ўсё, ды не бачыш душу,
Што па частках ў радок я ўкладаю.
Хіба ж я вінават, што мне доля калісь
Замест маці ды мачыхай стала,
Што балючай рукою на скуры маёй
Курс граматыкі іншы пісала?..

Можа быць, і гэтыя радкі таксама падштурхнулі мяне расказаць пра Уладзіміра Барысавіча Зянько — сціплага, сумленнага працаўніка, чалавека, якому паслухмяны і метал, і дрэва, і верш. Пра паэта ў працы і ў жыцці.

Пасля той сустрэчы некалькі гадоў мы не бачыліся. Чуць-то пра Уладзіміра Барысавіча я чуў, ведаў, што ён па-ранейшаму працуе ў Маладзечанскім чыгуначным дэпо і па-ранейшаму піша вершы, па-ранейшаму актыўнічае ў літаратурным аб'яднанні пры Маладзечанскай раённай газеце і апантана прапагандуе родную кнігу сярод сваіх таварышаў па рабоце. А спаткацца давялося другі раз не ў Маладзечне, а ў Мінску — аднойчы Уладзімір Барысавіч

нечакана паявіўся на парозе майго рэдакцыйнага пакоя.

— Вось, надарылася лішняя хвіліна, дык парашыў забегчы,— сказаў ён, сядаючы па чыста сялянскай звычцы на край крэсла.— Колькі разоў быў у Мінску, і ўсё не выпадала зайсці. Ды і надакучаць не хацеў...

— Заўсёды рады вас бачыць, Уладзімір Барысавіч.— Я ажно збянтэжыўся.— Як жывяце-маецеся?

— Памаленьку. Жывём, як кажуць, хлеб жуём...

— З вершамі нешта даўно не адгукаецеся?

— А, такой бяды! Якія там і вершы ў мяне! Хоць — пішуцца пакрысе... У мяне цяпер, калі па шчырасці, іншы клопат. Вось і забег параіцца. Запісаў ад маці некалькі соцень песень. Словы — алоўкам, а напеў — на магнітафон. Вось сяджу зараз вечарамі і маракую над імі, даводжу да ладу. Мо ўдасца кніжку зрабіць? Гэта ж скарб наш неацэнны, народная песня. Ці не праўда?

Дальбог жа, пацяплела ў мяне на душы ад гэтай новай сустрэчы. Хораша было глядзець на Уладзіміра Барысавіча і слухаць яго няспешную, чыста маладзечанскую (маладэчанскую!) па мелодыцы і па вымаўленню гаворку.

— Дык мо і ў Мінск прыехалі па гэтай патрэбе?

— Дзе вы бачылі! Гэта ж на злёт прыязджаў. На злёт перадавікоў-рацыяналізатараў Беларускай чыгункі. Во, грамату і знак дадому вязу. Хай жонка і дзеці падзівуюцца...

Уладзімір Барысавіч усміхнуўся добра, молада, быццам нават трошачкі гарэзліва.

Жыве паэтычная душа!



# «НАШ ДАРАГІ ПІСЬМЕННІК...»

## I

Шчаслівы, зайздросна шчаслівы лёс, які не так і часта выпадае на долю пісьменнікаў!

Ужо ў няпоўныя трыццаць гадоў да яго прыйшла шырокая — ці не ўсесаюзная — слава. І — прызнанне чытачоў.

З той пары слава гэтая расла і шырылася, даўно перасягнуўшы межы нашай неабсяжнай краіны. Кнігі яго знайшлі шырокую чытацкую аўдыторыю. Не ведаю, ці ёсць дзе-небудзь падагульняльныя звесткі аб колькасці ягоных чытачоў у Беларусі і ў краіне, толькі ўпэўнены, што колькасць гэтая вымяраецца дзесяткамі і дзесяткамі мільёнаў: вось ужо добрыя тры дзесяцігоддзі ён належыць да самых чытальных, самых папулярных савецкіх пісьменнікаў.

Лёс, вядома, быў да яго спагадны, аднак жа...

Яшчэ ў 1945 годзе, калі яму было ўсяго дваццаць чатыры, ён вызначыў для сябе задачу на ўсе наступныя гады: «пісаць, пісаць і яшчэ раз пісаць, не спыняцца ні на хвіліну». І ўсе наступныя гады цвёрда прытрымліваецца гэтага свайго самазапавету. Па здзіўляючай працавітасці і, натуральна, па дзівоснай

шчодрасці свайго творчага плёну з ім наўрад ці можна каго параўнаць. За амаль чатыры пасляваенныя дзесяцігоддзі (а гэта гады яго творчай дзейнасці, бо першая аповесць апублікавана ім менавіта ў пераможным сорак пятым) ён напісаў надзвычай шмат. Так шмат, што нават ягоныя блізкія сябры (пра гэта не раз даводзілася чуць) часам здзіўляліся і здзіўляюцца: як ён паспявае, як выкройвае час сярод сваёй заўсёднай занятасці, як яго стае на такую знясільваючую працу пры ягоным далёка не волатаўскім здароўі?

«Пісаць і яшчэ раз пісаць...» Гэтыя словы сталі дэвізам ягонага жыцця не ад юначага самалюбства, не ад жадання што б там ні было здабыць вядомасць і славу. У дваццацічатырохгадовага настаўніка і сакратара сельсавецкай партарганізацыі за плячамі былі гады вучобы і працы і чатыры гады вайны (ваяваў на Поўначы, перамогу сустрэў на Одэры) — гады горычы і болю, страт і пакут, гады подзвігаў і велічы чалавечага духу, гады цяжкіх роздумаў, заўчаснай сталасці і суровых пераацэнак многіх ранейшых каштоўнасцей. Гады вайны былі для яго адначасова і гадамі літаратурнай вучобы — у зацішныя між баямі хвіліны ён шмат пісаў (найбольш вершы, па-беларуску і па-руску, друкуючы апошнія ў армейскіх газетах, пісаў між радкамі руска-фінскіх слоўнікаў, якія купіў у Кандалакшы некалькі штук, бо з паперай па тым часе было цяжкавата).

З маладой апантанасцю акунуўся ён і ў мірную працу. Яго хапала на ўсё. Удзень працаваў у школе, увечары ішоў у адзін з шасці калгасаў сельсавета, каб сустрэцца з камуністамі, пагутарыць з імі, правесці сход ці семінар агітатараў. А ўначы — пісаў. Пісаў пры газнічцы, пры акне, праз якое дзьмуў халодны вецер і на стол церусіўся снег, бо палову

шыбак у акне замяняла фанера, а рэшта была злеплена з розных кавалачкаў шкла...

Затое пазней, калі прыступаў да напісання рамана пра пасляваеннае жыццё вёскі, ён меў багата жыццёвага матэрыялу. У аўтабіяграфіі, змешчанай у кнізе «Пяцьдзесят чатыры дарогі», напісанай ужо ў верасні 1962 года, ён адзначыў: «У мяне быў вагон цудоўнага матэрыялу для рамана аб першых пасляваенных гадах вясковага жыцця (я гэта перажыў сам)».

Той малады імпэт — быць у курсе жыцця, прага сустрэч з самымі рознымі людзьмі, ведаць іх клопаты, радасці і турботы, жыць адным жыццём з народам і краінай — спадарожнічае яму ўсе гады, і менавіта гэтая яго чалавечая і грамадзянская няўрымслівасць давала і дае яму багаты і цікавы матэрыял для яго раманаў і апавяданняў, п'ес і аповесцей. І гэтая ж няўрымслівасць, глыбокая зацікаўленасць жыццём народа і краіны нараджала пафас ягоных кніг, вызначала іх надзвычайную надзённасць і актуальнасць.

Жыццё не стаіць на месцы. Яно ніколі не стаяла на месцы. Але асабліва бурны і імклівы яго поступ у наш рэактыўны, атамны, касмічны, электронны дваццаты век. Куды ні кінь вокам, паўсюль адбываюцца дзівосныя, часта жаданыя, а зрэдзь часу не зусім жаданыя, перамены. Перамены не толькі вонкавыя, але і ўнутраныя. Перамены не толькі ў побыце, у звычках і паводзінах людзей, але і ў іх псіхалогіі, светаўспрыманні. На вачах мяняецца тое, што яшчэ зусім нядаўна ўяўлялася непарушным, непадуладным ніякім зменам.

Вось, калі ласка. Мы, нядаўнія дзеці вёскі, вяртаючыся ў яе сёння, ужо не знаходзім яе, вёскі нашага пасляваеннага дзяцінства. Не пазнаём часта, на жаль, і людзей, якіх ведалі, здавалася, надта

добра і блізка. У вёсцы за апошнія гады вырас новы чалавек — адукаваны, дасведчаны, культурны, узброены першакласнай тэхнікай, сапраўдны гаспадар зямлі і свайго лёсу. А мы па звычцы бачым сваіх землякоў усё тымі ж колішнімі дзядзькамі Тодарамі ды цёткамі Марылямі. Занадта часта нас, і старэйшых, і маладзейшых літаратараў, абганяе хуткаплынны час.

Затое яго, нашага пісьменніка, папракнуць у такім граху ніяк нельга. Бо няма ў нас, бадай, нікога, хто б так чуйна адгукаўся на покліч жыцця, як ён. Хто б так аператыўна заўважаў парасткі новага ў нашым жыцці, як ён. Хто б так дакладна акрэсліваў новыя, спароджаныя часам, канфлікты і праблемы, як ён. Хто б так мэтанакіравана і з усёй самааддачай змагаўся за вырашэнне гэтых канфліктаў і праблем, як ён.

Гэта — адна з самых характэрных адметнасцей яго ваяўнічай — у самым добрым сэнсе гэтага слова — творчасці. Ужо гэтай сваёй рысай яго творчасць прыцягвае пільную ўвагу чытача. Сваю ж сапраўдную вартасць яна набывае ў спалучэнні з другой сваёй адметнасцю. Пісьменнік на покліч жыцця адгукаецца не аднадзёнкамі, не бяскрылымі агіткамі, а паўнакроўнымі мастацкімі творамі, у якіх дзейнічаюць не выдуманыя героі, не носьбіты пэўных якасцей, лозунгаў дня ці аджыўшых уяўленняў, а выхапленыя з жыцця рэальныя чалавечыя асобы, характары і тыпы, пададзеныя з тонкім разуменнем складанасці чалавечага жыцця, людскіх лёсаў, спраў і ўчынкаў. Многія з герояў яго кніг выпісаны з такой сілай мастацкага абагульнення, іх вобразы з такой паўнатой выявілі тыя ці іншыя з'явы нашага жыцця, што, прыйшоўшы з кніг, сталі назыўнымі імёнамі гэтых з'яў у рэальным жыцці.

І трэцяе, што спрыяе незвычайнай папулярнасці кніг пісьменніка сярод чытачоў,— іх займальнасць. Пісьменнік надзелены зайздросным умельствам пісаць цікава. У ніводнай з ягоных кніг не знойдзеш паўзучай апісальнасці, сюжэтнай нявыверанасці, кампазіцыйнай рыхласці. Яго кнігі чытаюцца з захапленнем ад першай да апошняй старонкі. Часам нават здаецца, што пісьменнік ці не занадта шмат увагі аддае сюжэтна-кампазіцыйнай будове сваіх твораў, ці не знарок са здзіўляючай віртуознасцю падтрымлівае чытацкі інтэрас «а што далей?». Можа быць, і так. Але затое — і гэта вельмі і вельмі немалаважна — чытач над старонкамі яго кніг не сумуе.

Хто ж гэты пісьменнік?

Чытач, напэўна, даўно здагадаўся. Так, гэта народны пісьменнік рэспублікі Іван Пятровіч Шамякін, аўтар кніг «Глыбокая плынь», «У добры час», «Крыніцы», «Трывожнае шчасце», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», «Гандлярка і паэт», «Шлюбная ноч», «Вазьму тваю боль», «Петраград — Брэст»... Бадай, кожная з іх па меры выхаду ў свет станавілася не проста з'явай нашага літаратурнага жыцця, а набывала шырокае грамадскае гучанне, выклікала ўсеагульную і гарачую зацікаўленасць самага масавага чытача.

У Івана Пятровіча ёсць, і гэта таксама шчасце пісьменніка, свой чытач — надзейны, даверлівы, адданы. Пра тое, як нараджаўся і мацаваўся гэты ўзаемны чытацка-пісьменніцкі давер, пра пісьменніцкую пошту Шамякіна, пра яго ўзаемадачыненні з чытачом — гэты расказ.

## II

У розны час чытач адкрывае свайго пісьменніка. Адкрывае часам і выпадкова. Але калі гэтае адкрыццё адбываецца, калі чытач сапраўды ў нейкі момант

адчуў, што аўтар той ці іншай кнігі — «яго» пісьменнік, тады гэты чытач не праходзіць міма ніводнай наступнай кнігі, напісанай гэтым пісьменнікам.

Да Шамякіна ягоны чытач, як я ўжо казаў, шчасліва прыйшоў з першай кнігай — «Глыбокай плынню». Раман не мог не прыцягнуць увагі хоць бы ўжо тым, што гэта была адна з першых кніг пра партызанскую барацьбу на Беларусі. Менавіта тады, пасля «Глыбокай плыні», атрымаў малады яшчэ аўтар першыя чытацкія пісьмы. Яны ўсцешылі яго, трэба думаць, не менш, чым добрыя словы крытыкаў і старэйшых таварышаў па пяру, бо разуменне таго, што прызнанне чытача — самая вышэйшая і самая сапраўдная ацэнка вартасці пісьменніцкай працы, прыходзіць да літаратара яшчэ задоўга да паяўлення ягонай першай кнігі.

Зрэшты, мне не варта, бадай, і рабіць тут гэтае дапушчэнне. Пісьменнік з першых крокаў сваёй літаратурнай работы, канечне ж, думаў пра свайго чытача. Думаў не для таго, каб падладзіцца пад яго, патрапіць яму, заваяваць яго сімпатыі і давер. Думка пра чытача стрымлівала яго ў хвіліны, калі раптам бег пяра па паперы рабіўся занадта лёгкі; падбадзёрвала ў час, калі вочы змружвала стома; натхняла і падтрымлівала тады, калі хацелася кінуць-рынуць усё і ніколі больш не сядаць за стол — бываюць у пісьменнікаў і такія хвіліны. Ён думаў пра чытача, бо спадзяваўся, бо хацеў, каб ягонае слова адазвалася жывым водгукам у чыёйсьці душы, каб узышло там добрым зернем цеплыні, дабрыні, справядлівасці. І чытач адказаў яму даверам на давер, сказаў першае «дзякуй», якое напачатку асабліва дарагое і патрэбнае пісьменніку.

Пра сваіх чытачоў Іван Пятровіч гаворыць і піша з вялікай павагай, нават з любоўю. Мне неаднойчы даводзілася гутарыць з пісьменнікам, браць у яго

інтэрв'ю. І, памятаю, заўсёды, калі заходзіла гаворка пра ягоныя пісьменніцкія ўзаемадачыненні з чытачамі, твар яго святлеў, паяўлялася на ім тая добрая шамякінская ўсмешка, якая заўсёды паяўляецца тады, калі пісьменнік прыгадвае ці гаворыць пра дарагіх для сябе людзей — пра сяброў і блізкіх.

Не, ён не перабольшвае значэння і вартасці чытацкіх пісьмаў. Вядома, прыемна ведаць, што цябе чытаюць, што твае кнігі любяць, што зусім незнаёмыя людзі прысылаюць табе добрыя словы ўдзячнасці, зычаць здароўя, новых творчых здабыткаў. Аднак жа тыя чытачы, што пішуць, дакладней — асмельваюцца пісаць пісьменніку, бываюць і надакучлівыя, і бесцырымонныя (пра гэта — пазней). Іван Пятровіч куды з большай ахвотай гаворыць пра чытача ўвогуле, пра тых безыменных і зусім незнаёмых людзей розных узростаў, заняткаў, становішча ў грамадстве, якія сам-насам разгортваюць ягоныя кнігі і твораць над ім, пісьменнікам, свой маўклівы і строгі суд. І дарма, што кожны такі канкрэтны прысуд застаецца невядомы пісьменніку. Затое яго сумарны водгук усё ж — рана ці позна — вяртаецца да пісьменніка, вяртаецца рознымі шляхамі і ў рознай форме. Найперш вяртаецца той агульнай думкай, якая паступова перарастае ў грамадскую ацэнку ягонай творчасці.

Вось найперш гэтага масавага чытача і шануе Іван Шамякін, яго ён меў на ўвазе, калі назваў кнігу сваіх артыкулаў, выступленняў і дзённікавых запісаў «Размова з чытачом».

На адной са старонак гэтай кнігі пісьменнік з уласцівай для яго шчырасцю піша: «Нядаўна я недзе прачытаў, што пісьменніку ўсё творчае жыццё прыходзіцца трымаць экзамен. Як вечнаму студэнту. Гэта сапраўды так. Кожная кніга, кожны твор і, нарэшце, кожная сустрэча з чытачамі ў любой іншай

форме — гэта экзамен. I такое ж хваляванне, як у студэнта, толькі, відаць, больш працяглае і моцнае. Адным словам, усё жыццё на нервах.

Праўда, усе мы розныя як чалавечыя асобы. Адны стараюцца трымаць гэты экзамен перад крытыкамі. Іншыя ж аддаюць перавагу чытачам, перад якімі экзаменуюцца. Я, напэўна, належу да апошніх. Ведаю, што некаторыя крытыкі-прафесіяналы такім пісьменнікам кідаюць папрокі: маўляў, працуюць на чытача. Але што зробіш — такая асаблівасць, народжаная ці выхаваная — цяжка сказаць. Я — грэшны, прызнаюся — стараўся працаваць на чытача. Па ўзору партыйных прапагандыстаў. Відаць, сапраўды гэта выхавана ў мяне, бо я ўсё жыццё быў прапагандыстам: сакратаром камсамольскага бюро ў тэхнікуме, камсоргам і парторгам у арміі, сакратаром партарганізацыі ў сельсавеце, сакратаром партбюро СП і, нарэшце, пасада сакратара праўлення СП, якую я займаю многа год,— гэта таксама ў пэўнай ступені абавязкі партыйнага прапагандыста ў творчай арганізацыі».

Гэта Іван Пятровіч гаварыў яшчэ ў 1971 годзе, на ўрачыстым вечары, прысвечаным свайму 50-годдзю. «Стараўся працаваць на чытача...» Прызнанне прагучала як своеасаблівае падсумаванне зробленага, як акрэсленае пісьменніцкае крэда. А кіраваўся ён ім, зазначу яшчэ раз, здаўна, з самага пачатку. Не ўвага літаратурных снобаў, можа, нават не ўвага прафесіянальных крытыкаў трывожыла, турбавала яго, дадавала ахвоты працаваць. Найпершым клопатам яго была ўвага чытача, чытацкая ацэнка і разуменне.

У 1954 годзе ён гаварыў з трыбуны III з'езда пісьменнікаў Беларусі: «Мы не маем права пісаць нецікава. Па ўласнаму вопыту кожны з нас добра ведае, што кніжка, якая чытаецца з цяжкасцю, праз кожныя дзесяць старонак якой хочацца пакурыць,

адпачыць і перакусіць,— такая кніжка губляе сваё эмацыянальнае ўздзеянне на чытача, а значыцца, губляе сваё выхаваўчае значэнне. Сумныя творы могуць прыносіць карысць толькі адной катэгорыі людзей, а іменна тым, якія пакутуюць ад бяссонніцы.

Не на такога чытача мы павінны арыентавацца, а на чытача здаровага целам і духам, бадзёрага, уражлівага і ўдзячнага за ўсё тое добрае, што мы, пісьменнікі, адкрываем яму.

Мы павінны пісаць такія творы, пры чытанні якіх у чытача, асабліва маладога, учашчаўся б пульс і ён забываўся б на ўсё і не здолеў бы закрыць кніжку да таго часу, пакуль не прачытаў бы апошнюю старонку, а пасля некалькі дзён хадзіў бы пад уражаннем прачытанага. Мне здаецца, толькі такія творы, безумоўна, напісаныя з пазіцый сацыялістычнага рэалізму, акажуць дзейсную дапамогу нашай партыі ў высакароднай справе выхавання маладога пакалення».

Я прывёў гэтую даўгаватую цытату таму, што яна мае дачыненне не толькі да прадмета нашай гаворкі: Шамякін і яго чытач. Ягонае пажаданне не страціла свайго значэння і сёння, а можа, гучыць нават яшчэ больш актуальна, чым у 1954 годзе. Будзем шчырымі і пагодзімся, што многія нашы кнігі занадта падоўгу спакойна стаяць на паліцах бібліятэк і не трапляюць да чытача часта менавіта па той прычыне, што напісаны яны нецікава, што ў іх замала неабходнай — здаровай, канечне — займальнасці.

І. Шамякін, з павагі да свайго чытача, ніколі не дазваляў сабе апускацца да простай фіксацыі жыццёвых з'яў і выпадкаў. Ён распрацоўвае сюжэты кожнай сваёй кнігі. Пытанні формы мастацкага твора ён лічыць прынцыпова важнымі, яны займаюць яго пастаянна. І ў кожнай яго развазе, у ягоных турботлівых клопатах пра літаратурную творчасць — сваю і сваіх калег-таварышаў — заўсёды на першым

плане чытачы, тыя, каму ён самаахвярна служыць кожным сваім радком, ад каго спадзяецца пачуць сардэчнае і самае справядлівае — бо аб'ектыўнае, не залежнае ні ад якіх павеваў моды і кан'юнктуры — слова ўдзячнасці, разумення і падтрымкі.

Пісьменніцкая пошта І. Шамякіна надзвычай аб'ёмістая. Яму пісалі і пішуць з самых розных куткоў краіны. Ён у гэтым сэнсе, канечне, не нейкае выключэнне. Пастаянная і цесная сувязь пісьменніка са сваімі чытачамі — самая адметная, самая характэрная рыса савецкай літаратуры. У капіталістычным грамадстве ніводзін пісьменнік не сустракаецца так часта са сваімі чытачамі (прыгадаем шматлікія чытацкія канферэнцыі, творчыя вечары, шматлюдныя кніжныя базары, літаратурныя дні, тыдні і дэкады, розныя іншыя сустрэчы і кантакты пісьменнікаў з чытачамі) і не атрымлівае столькі чытацкіх пісьмаў, як савецкі пісьменнік. За гады Савецкай улады ў нашай краіне выхаваны прынцыпова новы чытач, які даўно і начыста адкінуў колішнюю форму ўзаемаадносін пісьменнікаў і чытачоў: пісьменнік напісвае, чытач пачытвае. Наш савецкі чытач ведае, што пісьменнік працуе для яго, і таму лічыць не толькі сваім правам, але і абавязкам напісаць пісьменніку, падзяліцца з ім сваімі думкамі і развагамі аб прачытаным творы, атрымаць ад пісьменніка адказы на пытанні, што ўзніклі ў яго пры знаёмстве з кнігай.

Напачатку Іван Пятровіч стараўся адказваць на кожнае пісьмо чытачоў. Але з цягам часу пісьмаў пачало прыходзіць столькі, што адказваць на ўсе ўжо не было магчымасці — не хапала ні часу, ні фізічных сіл. Асабліва багатую чытацкую пошту меў раман «Сэрца на далоні»: пасля яго выхаду ў свет пісьменнік штодня атрымліваў дзесяткі пісьмаў. І тады, каб не крыўдзіць сваіх чытачоў няўвагай, пісьменнік парашыў адказаць ім праз газету.

Так у 1965 годзе нарадзіўся ягоны артыкул «Размова з чытачом», які спачатку быў апублікаваны ў газеце «Советская Белоруссия», а ў 1973 годзе ўвайшоў у згаданую ўжо аднайменную кнігу. У «Размове з чытачом» І. Шамякін адказвае галоўным чынам на чытацкія пытанні адносна рамана «Сэрца на далоні», аднак шмат гаворыць і наогул аб сваіх узаемадачыненнях з чытачамі, а таксама, задавальняючы іх неспатольную цікаўнасць, прыадчыняе дзверы ў сваю творчую лабараторыю.

Пытанні, з якімі чытачы звярталіся да пісьменніка, былі самыя розныя. Часта пісалі не толькі пра раман. Многія карэспандэнты пісьменніка, усхваляваныя драматычнымі калізіямі твора, прыгадвалі нешта падобнае, што адбывалася з імі самімі ці з іхнімі знаёмымі, дзяліліся з аўтарам гэтымі згадкамі, шукалі ў яго адказу на свае сумненні, прасілі парады, чакалі спагады і падтрымкі. А што да рамана, то пытанні былі ў асноўным падобныя: раскажыце, як вы пісалі свой раман, як узнікла задума, як збіралі матэрыял, з чаго ўсё пачалося, у якой меры падзеі ў рамане адпавядаюць падзеям у жыцці і яго вобразы — канкрэтным людзям і г. д.

«У іх, у гэтых пытаннях,— пісаў І. Шамякін у артыкуле,— відно прагнае жаданне чытачоў пранікнуць у творчую лабараторыю пісьменніка. Матывы такога жадання розныя. У адных — добрая інтэлігентная зацікаўленасць усё ведаць, другія думаюць, што ёсць асаблівы «пісьменніцкі» сакрэт, здабыўшы які можна самому лёгка і проста напісаць кнігу. Трэцім гэта патрэбна для сур'ёзнай практычнай работы, настаўнікам, напрыклад, выкладчыкам літаратуры».

Разумеючы ўсё гэта, пісьменнік тым не менш вядзе з чытачом гаворку памяркоўную, спаважную, засяроджаную і адказную. Перш чым адказаць на тое ці іншае канкрэтнае пытанне, ён шмат разважае аб

прыродзе мастацкай творчасці наогул, падкрэслівае, што асноўны пісьменніцкі матэрыял — мільённаграннае, няспыннае ў сваёй імклівай плыні жыццё, якое і «дае мастаку і тэму, і ідэю, і вобразы, і фарбы мовы, гукі, палітру, і падказвае архітэктоніку — сюжэт, кампазіцыю».

І тут жа шчыра прызнаецца: «Напісаўшы некалькі раманаў, аповесцей, п'ес, дзесяткі апавяданняў, я не адважваюся з гэткай лёгкасцю сказаць, з чаго пачаўся той ці іншы твор, як з'явіўся зародак сюжэта ці вобраза і што было першае — тэма, ідэя, сітуацыя, характар. Усе гэтыя, на першы погляд, простыя рэчы на самой справе з'яўляюцца даволі глыбокімі аспектамі псіхалогіі творчасці».

Далей пісьменнік пераходзіць да размовы непасрэдна пра раман. З чаго і як пачалася работа над «Сэрцам на далоні»? — паўтарае ён пытанне чытачоў. І адказвае: «З маёй чалавечай, пісьменніцкай, партыйнай цікавасці да адной з гераічных старонак Вялікай Айчыннай вайны — гарадскога падполля, да гэтай своеасаблівай галіны ўсенароднай партызанскай барацьбы супраць акупантаў».

Падрабязна расказвае пісьменнік пра тое, як шукаў форму рамана, як дамагаўся таго, каб раман не расцягнуўся ў хроніку, не распаўся на часткі па перыядах жыцця — вайна і пасляваенны час, на што падштурхоўваў сам характар жыццёвага матэрыялу, які лёг у яго аснову.

«Я прыхільнік і дынамічнага сюжэта і адпаведна гэтакай жа дынамічнай кампазіцыі,— заўважае пісьменнік.— І мне прыйшлося патраціць яшчэ нямала часу, каб сканструяваць той каркас, які пасля і склаў сюжэтную аснову «Сэрца на далоні».

Мой метад: я не магу сесці за стол і «будаваць» з усімі «аддзелкамі» да таго часу, пакуль не маю ў галаве гэтага «сюжэтнага каркаса».

Гэтак жа падрабязна адказвае пісьменнік і на пытанні чытачоў аб адпаведнасці сітуацый рамана жыццёвым фактам, аб прататыпах асноўных герояў твора. З той жа шчырасцю і даверлівасцю ўводзіць чытача ў сваю «пісьменніцкую кухню», расказваючы аб рабоце над раманам, аб тым, у прыватнасці, як вывучаў працу хірургаў і працу маладых рабочых на заводзе.

Аб вялікім даверы пісьменніка да свайго чытача надзвычай красамоўна сведчаць яго наступныя радкі: «Многія чытачы, ды і многія крытыкі, сцвярджаюць, што медыкаў аўтар вывучыў лепш, чым брыгаду камуністычнай працы. Не буду спрачацца з імі. Скажу толькі, што ў працэсе гэтага вывучэння я зрабіў для сябе многа цікавых высноў, практычных і тэарэтычных. У асяроддзі маладых рабочых я зрабіў «адкрыцці» (бяру гэтае слова ў двукоссе таму, што адкрыцці такія вядомы многім), якія не лезлі ў даны раман, але, безумоўна, спатрэбяцца для будучай работы. З тэарэтычных высноў галоўная — гэта пацвярджэнне думкі, якую кожны з нас неаднойчы чытаў у сваіх настаўнікаў — вялікіх мастакоў мінулага: каб пранікнуць у сутнасць з'яў жыцця пэўнага сацыяльнага асяроддзя, пісьменнік павінен сам пажыць з гэтымі людзьмі, гэтым жыццём, а не вывучаць яго з пазіцыі староннягa сузіральніка».

Перапіска з чытачамі прыносіць пісьменніку, вядома, нямала клопатаў, адрывае ад працы, забірае дарагі час. Але ж яна прыносіць і вялікае задавальненне. І не толькі задавальненне. Такія непасрэдныя кантакты з чытачом даюць пісьменніку магчымасць яшчэ і яшчэ раз пераканацца ў справядлівасці тых ці іншых сваіх высноў, у плённасці тых ці іншых сваіх мастакоўскіх пошукаў і знаходак, адкінуць тыя ці іншыя свае сумненні, бо, урэшце, менавіта чытачы —

самыя дакладныя барометры творчай працы пісьменніка.

Часам жа чытацкія пісьмы даюць пісьменніку і нешта большае — узбагачаюць іх, напрыклад, жыццёвымі ўражаннямі і назіраннямі. Дзелячыся з аўтарам кнігі ўражаннямі аб прачытаным, асобныя чытачы як бы дапаўняюць кнігу сваімі расказамі пра жыццё, нават, здараецца, прапануюць пісьменніку цэлыя жыццёвыя сюжэты. Такія пісьмы могуць быць для літаратара штуршком для задумы, а то і для напісання твора.

У «Размове з чытачом» І. Шамякін, напрыклад, прызнаецца: «...сюжэт аповесці, над якой я працую зараз, быў падказаны пісьмом настаўніцы: мне нават мала што прыйшлося мяняць у яе расказе, толькі... трансфарміраваць яго на больш высокае эмацыянальнае напружанне, што звычайна дасягаецца абвастрэннем канфлікту, увядзеннем больш моцнага «праціўніка», пошукамі пэўных дэталяў у абмалёўцы характараў, пейзажаў і г. д.». (Пісьменнік у той час працаваў над аповесцю «Ах, Міхаліна, Міхаліна...».)

І, канечне, не застаецца пісьменнік абыякавы да тых крытычных заўваг, якія выказваюць чытачы ў сваіх пісьмах.

І. Шамякін пра гэта гаворыць так: «Яны бываюць самыя розныя: трапныя і слушныя (часам пільнае вока простай, але разумнай хатняй гаспадыні заўважае тое, чаго не прыкмеціць нават ніводзін прафесійны крытык), а бываюць і вельмі недарэчныя. Калі такія недарэчнасці піша чалавек малапісьменны, аўтару застаецца толькі ўсміхнуцца і прабачыць свайму чытачу. Але здараецца, што рэчы наіўныя і недарэчныя выказваюць людзі з сярэдняй і нават вышэйшай адукацыяй. Тады, прызнаюся, мне робіцца сумна і балюча...»

Пісьменніцкія кантакты з чытачамі не абмяжоў-

ваюцца, вядома ж, чытацкімі пісьмамі. Іван Пятровіч шмат ездзіць па рэспубліцы і па краіне, дзе сустракаецца і гаворыць з дзесяткамі і сотнямі людзей — з партыйнымі і савецкімі работнікамі, і кіраўнікамі калгасаў і саўгасаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, з рабочымі, калгаснікамі, студэнтамі, вучнямі, воінамі Савецкай Арміі. А гэта ж — таксама ягоныя чытачы. Чытачы часта (мо занадта часта) запрашаюць яго на чытацкія канферэнцыі па ягоных кнігах, на розныя вечары і сустрэчы. Урэшце, яму даводзіцца мець справу з многімі людзьмі — таксама сваімі чытачамі — па лініі сваіх грамадскіх і службовых абавязкаў: як дэпутату, Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі, як галоўнаму рэдактару выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя П. У. Броўкі», як аднаму з кіраўнікоў пісьменніцкай арганізацыі Беларусі.

І ўсе гэтыя людзі лічаць Івана Пятровіча сваім чалавекам, прынамсі — не чужым, бо неаднойчы сустракаліся з ягонымі кнігамі, неаднойчы зведвалі шчаслівыя, хвалюючыя хвіліны параднёнасці з героямі гэтых кніг, калі іхнія душы поўніліся ягонымі, пісьменніцкімі, замілаваннем, радасцю, гневам, абурэннем.

Мне думаецца, што і Іван Пятровіч, разумеючы гэта, сваіх чытачоў таксама лічыць блізкімі, знаёмымі людзьмі і па гэтай прычыне аддае ім так шмат свайго дарагога і заўсёды недастатковага часу.

## III

З дазволу пісьменніка, пагартаем некаторыя з пісьмаў, дасланых І. Шамякіну ў розныя гады.

Перадаючы іх мне, Іван Пятровіч заўважыў:

— Я не рабіў тут ніякага адбору. Па праўдзе кажучы, няма часу, каб рабіць нейкі адбор, класіфіка-

ваць іх. Проста адказаць на пісьмы і то занадта шмат клопату... Пазнаёмцеся, калі ёсць такое жаданне і неабходнасць, хоць, шчыра скажу, я не надта ўпэўнены, што гэта будзе некаму цікава...

Я пазнаёміўся з пісьмамі, уважліва прачытаў іх і рашуча не пагадзіўся з апошняй заўвагай Івана Пятровіча: чытацкія пісьмы да яго выходзяць далёка за межы прыватнай перапіскі і ўяўляюць несумненную цікавасць для нашай літаратурнай — ды і не толькі літаратурнай — грамадскасці.

Само сабой, канечне, зразумела, што сярод некалькіх дзесяткаў пісьмаў, з якімі я пазнаёміўся, найбольш такіх, у якіх чытачы проста дзеляцца з пісьменнікам сваёй радасцю ад сустрэчы з ягонымі кнігамі. Такі ліст, напрыклад, напісала пісьменніку маладая чытачка (хутчэй за ўсё вучаніца) з сяла Маскоўскае Стаўрапальскага краю: «Паважаны Іван Пятровіч! Я чытала Вашы раманы «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Крыніцы». Але вось у «Раман-газеце» я ўбачыла Вашы аповесці і вельмі ўзрадавалася. Чытала іх і жыла жыццём герояў, хвалявалася за іх, перажывала разам з імі. Прайшло ўжо некалькі дзён, як я прачытала Вашы творы, а перад вачамі ўсё тыя ж Вольга Ляновічыха і партызанка Валя (і нават зараз, калі я пішу Вам ліст). І бачу я Вольгу не такой, якой яна была раней, а такой, якой яе зрабіла каханне да Алеся — чалавека, на мой погляд, духоўна багатага і чыстага, які надзелены пачуццём патрыятызму і аптымізму... Я вельмі рада, што прачытала гэтыя дзве Вашы аповесці. З нецярпеннем чакаю ўсё новых і новых».

Ветэрана вайны, былога разведчыка, армяніна па нацыянальнасці, які жыве ў Туапсэ, таксама ўсхвалявалі аповесці пісьменніка «Гандлярка і паэт» і «Шлюбная ноч», і ён не ўстрымаўся, каб не напісаць пісьменніку па-паўднёваму эмацыянальны ліст: «Да-

рагі Іван Пятровіч, добры дзень! Прашу дараваць мне за турботы і за тое, што адбіраю ў Вас час. Да Вас звяртаецца Ваш чытач. Я прачытаў Вашы аповесці. Яны нагадалі мне маіх дарагіх хлопцаў, саслужыўцаў-аднапалчан. З якой вялікай душой і веданнем справы пішаце Вы пра сціплых людзей, якія служылі справе роднай партыі і Радзіме. Чытаючы аповесці, я ў Вашых героях бачыў сваіх баявых сяброў. Вялікае Вам дзякуй ад сябе і ад маіх сяброў, жывых і загінуўшых. Будзьце здаровыя і шчаслівыя, усяго Вам найлепшага і творчых поспехаў! Пішыце як мага больш: Вас людзі, чытачы, цудоўна разумеюць; справу, пра якую Вы пішаце, ведаеце выдатна!..»

Пенсіянерка, жыхарка Ленінграда, дзеліцца думкамі пра раман «Атланты і карыятыды»: «Раман гэты — твор сапраўднага майстра, магутнага таленту. Раман чытаецца з хваляваннем ад пачатку да канца. Чытаючы кнігу, жывеш жыццём герояў, бачыш жывых людзей, пакутуеш за іх, абураешся разам з імі. Можа быць, гэта і ёсць галоўная вартасць мастацкага твора? Разумець эпоху, памагчы чалавеку разабрацца ў супярэчнасцях жыцця, а часам і ва ўласных памылках — значыць сляпому паказаць дарогу. Ва ўсе часы мастацтва служыла менавіта гэтай мэце. Дык, можа, гэта галоўная вартасць твора?..»

Студэнтка Магілёўскага педінстытута прыслала чыста «рабочы» ліст: «Паважаны Іван Пятровіч! Тэма маёй курсавой работы — «Праблема аўтабіяграфічнасці ў творчасці Івана Шамякіна». Працуючы над гэтай тэмай, я сустрэла некаторыя цяжкасці. Іван Пятровіч, я Вас вельмі прашу параіць мне, да якога матэрыялу мне лепш за ўсё звярнуцца, якія Вашы творы пакласці ў аснову сваёй работы. Вельмі прашу адказаць на маё пісьмо».

Ёсць сярод лістоў і такія, пра якія Іван Пятровіч у артыкуле «Размова з чытачом» гаварыў, што яны

выклікаюць проста паблажлівую ўсмешку. Так, адзін з жыхароў вёскі Вялікі Гразівец Чавускага раёна паведамляе пісьменніку, што пасля прачытання рамана «Снежныя зімы» ён «зжаліўся над пакутамі Надзеі Пятроўны і яе дачкі Віталіі» і просіць: «Калі яна была і ёсць, дык, калі ласка, напішыце мне яе дакладны адрас».

Пісьмы сапраўды надзвычай розныя. Адна чытачка просіць пісьменніка апрацаваць успаміны бацькі; члены літаратурнага клуба «Брыганціна» з горада Арцёмаўска просяць у Івана Пятровіча «ўспамінаў, апавядання пра самую важную ў Вашым жыцці падзею, фотаздымкаў, кніг і іншых матэрыялаў»; чытачка просіць дазволу напісаць на аснове адной аповесці пісьменніка п'есу.

А вось ужо зусім іншы ліст. Прыслаў яго з Рагачоўскага раёна арганізатар грамадскай бібліятэкі. Ён піша: «Сёлета выйшла з друку Ваша кніга «Гандлярка і паэт». Усе нашы спробы набыць Вашу кнігу праз мясцовыя магазіны і магазіны «Кніга — поштай» не прынеслі жаданага выніку. І вось мы парашылі звярнуцца да Вас, Іван Пятровіч. Калі ёсць магчымасць у Вас, будзьце ласкавы, вышліце на наш адрас сваю кнігу «Гандлярка і паэт».

Пісьменнік знайшоў такую магчымасць: на пісьме ёсць паметка, зробленая рукою Івана Пятровіча, што кніга выслана. Аднак жа пісьмо гэтае наводзіць на сумны роздум. Чым вытлумачыць, што чытачы ў Рагачоўскім раёне не змаглі набыць кнігу і вымушаны былі турбаваць пісьменніка? Хто ў гэтым вінаваты?

З цікавасцю чытаў я ліст інваліда вайны з пасёлка Першамайскі Выбаргскага раёна Ленінградскай вобласці: «Паважаны Іван Пятровіч! Заказную бандэроль з двухтомнікам Вашых выбраных твораў, высланую Вамі мне, я атрымаў, за што, канечне, сардэчна і вельмі дзякую. Іван Пятровіч, прашу праба-

чыць мне за турботы, але я старэйшы за Вас на 12 гадоў і прытым быў цяжка паранены, у выніку аднята зусім левая нага (вышэй калена) і паранена правая. Большасць часу я ляжу ў пасцелі і чытаю кнігі. Вось, дзякуючы Вам, зараз буду знаёміцца і з Вашымі творамі. Праўда, на вельмі кароткі час. Я іх хутка прачытаю. А далей зноў буду галодны на літаратуру. Іван Пятровіч, прачытаў прадмову А. Адамовіча да Вашых кніг. І даведаўся, што ў Беларусі ёсць шмат пісьменнікаў, як, напрыклад, В. Быкаў, І. Мележ, Я. Брыль, І. Чыгрынаў, і больш маладыя: М. Стральцоў, В. Адамчык, Я. Сіпакоў, А. Кудравец і іншыя, пра якіх я паняцця не маю. Праўда, В. Быкава чытаў у «Роман-газете», як, напрыклад, «Воўчая зграя», але кніг ягоных няма. Хацеў бы мець і яго. Дайце мне яго адрас. Паспрабую напісаць і яму ліст...»

Гэтае пісьмо не можа не ўсхваляваць, за ім паўстае лёс чалавека, якому творы літаратуры памагаюць жыць, даюць сілу пераадольваць пакуты.

Аднак у гэтым пісьме ёсць і тое, што нас засмучае. Чалавек шмат чытае, а вось нашых пісьменнікаў адкрывае для сябе ўпершыню, і таму даруем яму з гэтай прычыны ягоны падзел на старэйшых і маладзейшых. Відаць, тут таксама ёсць над чым задумацца. Пэўна, усім трэба праяўляць больш клопату аб тым, каб наша літаратура шырэй выходзіла да ўсесаюзнага чытача, тым больш што яна варта гэтага.

Нельга не сказаць, зноў жа, і пра гэтыя просьбы да пісьменніка — прысылаць кнігі. Справа ў тым, што ў чытацкіх пісьмах, адрасаваных І. Шамякіну, такіх просьбаў надзвычай шмат. На многія з іх Іван Пятровіч адгукаецца — напрыклад, на просьбы грамадскіх бібліятэк, на просьбы настаўнікаў і вучняў.

Аднак жа ёсць і іншыя кнігалюбы. Яны не так просяць, як патрабуюць, вымагаюць тую ці іншую

кнігу. Праўда, сваім патрабаваннем яны стараюцца надаць ветлівую форму, накшталт: «Будзьце ласкавы, выканайце маю просьбу. Кнігі пастаянна напамінаюць мне аб той вялікай дружбе, якая ў нашай краіне звязвае пісьменнікаў з чытачамі». Так пісаў адзін надта «дасведчаны» кнігалюб з горада Рэўда Свярдлоўскай вобласці. Кнігалюб з рабочага пасёлка Грыбанаўка Варонежскай вобласці таксама просіць прыслаць кнігі, але ўжо націскае, так сказаць, на іншае: маўляў, я рабочы чалавек, а рабочаму чалавеку вы не адмовіце. Канечне ж, сапраўдны рабочы чалавек не будзе спекуляваць на гэтым сваім высокім званні. А нехта К. Хромаў з Сумгаіта ажно ці не «спакушае» пісьменніка гонарам быць прадстаўленым у яго калекцыі: «У мяне ў бібліятэцы звыш 2200 кніг з аўтографамі савецкіх пісьменнікаў. Хочацца мець і Ваш аўтограф...» Няйначай, гэты «кнігалюб» рассылае такія просьбы пад капірку, карыстаючыся пісьменніцкім даведнікам...

І добра, што такіх аматараў літаратуры, мяркуючы па пісьменніцкай пошце І. Шамякіна, у нас няшмат. Большасць чытачоў піша зусім іншыя пісьмы.

Вось надзвычай хвалюючы ліст, які прыслала ад імя сваёй сям'і жанчына з Еўпаторыі: «Наш дарагі пісьменнік! Даруйце, што звяртаемся афіцыйна, на жаль, не ведаем Вашага імя па бацьку, вельмі доўга раіліся ў нашай сям'і, як напісаць, ні да чаго не прыйшлі і пішам вось так. Наша сям'я нізка кланяецца Вам за Вашы кнігі. Нам пашчасціла прачытаць Вашы дзве кнігі — «Трывожнае шчасце» і «Глыбокая плынь». Прачытаўшы першую, мы спачатку падумалі, што гэта кніга напісана пра нашу маму, розніца толькі ў тым, што мы жылі ў Еўпаторыі. Наша мама тройчы была прыгаворана да расстрэлу і цудам уратавалася. Зараз яна старэнькая, але не ўяўляе свайго жыцця без працы і ўсё працуе простай рабочай. Мне

было сем гадоў у вайну, але добра памятаю, як пачалася вайна, як праводзілі на фронт бацьку, памятаю ўсе ваенныя гады, горыч адступлення, гібель бацькі. Хацелася б, каб нашы дзеці не ведалі жахаў вайны».

Чытач з Сімферопаля піша: «Зусім нядаўна мне пашчасціла прачытаць напісаную Вамі кнігу «Сэрца на далоні», выдадзеную ў 1964 годзе. У канцы кнігі ёсць зварот ад выдавецтва да чытачоў з просьбай прысылаць водгукі і пажаданні. Мне б хацелася напісаць водгук і пажаданне аб гэтай кнізе асабіста Вам і паведаміць некаторыя факты, падобныя на тыя, якія выкладзены ў Вашай кнізе. Калі за даўнасцю часу гэтае пытанне не страціла свайго сэнсу, прашу паведаміць мне...»

Такіх пісьмаў, у якіх чытачы як працягваюць ці дапаўняюць тое, пра што прачыталі ў кнігах, пісьмаў, накшталт пісьма настаўніцы, якая падказала І. Шамякіну сюжэт аповесці «Ах, Міхаліна, Міхаліна...», у пошце шмат. Пішуць іх звычайна людзі пажылога ўзросту, ветэраны вайны і працы.

Мяне асабіста, бадай, найбольш узрушыла пісьмо чытача з горада Пярмі (юрыст, капітан Савецкай Арміі, 1939 года нараджэння). Яго ліст хочацца прывесці цалкам: «Дарагі Іван Пятровіч! Неяк так сталася, што раней мне не давялося чытаць Вашых кніг, а тут я хварэў, і мне прынеслі «Гандлярку і паэта» ў часопісе «Молодая гвардия». Прачытаў, як кажуць, на адным дыханні і адразу ж дастаў усё, што мог, з Вашых кніг. Прачытаў і «Крыніцы», і «Сэрца на далоні», і «Атланты і карыятыды». Што я магу сказаць? Так, напэўна, і жыў бы, і лічыў бы сябе культурным чалавекам, аматарам літаратуры і мастацтва, не ведаючы, што, акрамя Сіманава, Трыфанава, Астаф'ева і іншых праслаўленых празаікаў, у Мінску жыве і працуе цудоўны, непаўторны, сапраўды выдатны пісьменнік. Дарагі Іван Пятровіч! Усе Вашы

героі — гэта жывыя і непаўторныя людзі, мне часам здаецца, што Шыковіча, Лемяшэвіча, Бародку, Гукана, Карнача, Сасноўскага, Макаеда я ведаю асабіста, і ведаю вельмі даўно. Нават, здавалася б, другарадныя Вашы персанажы — і яны жывыя, яркія індывідуальнасці. Той жа Адам Рагойша, тыя ж Прабабкіны, пракурор з «Крыніц», сакратар гаркома камсамола Грыбок з «Сэрца на далоні». Вашы кнігі, Іван Пятровіч, так мне спадабаліся, што я прыняў цвёрдае рашэнне не толькі грунтоўна пазнаёміцца з беларускай літаратурай, якую я, на жаль, ведаю куды горш за ўкраінскую, але і абавязкова ў час адпачынку прыехаць у Беларусь, пабываць у Мінску, у іншых гарадах, на Хатынскім мемарыяле. Летам ці, наадварот, зімою абавязкова прыеду...»

Ліст гэты — жывое сведчанне той радасці, якую прыносіць чалавеку далучэнне да высокага мастацтва! Сведчанне жыватворнага ўздзеяння літаратуры на чытача!

І ў гэтым, відаць, галоўнае шчасце мастака. Шчасце літаратара Савецкай краіны, дзе ганаровае званне народны пісьменнік так красамоўна пацвярджаецца ўсенароднай увагай, любоўю і пашанай, дзе чытач звяртаецца да аўтара сваіх любімых кніг вось так: «Наш дарагі пісьменнік!..»



# ПАСЕЯНАЕ — УЗЫДЗЕ

*Раказ пра аднаго харошага чалавека з лірычнымі і не зусім лірычнымі адступленнямі*

## I

«Мы лянотныя і нецікаўныя...»

Зусім не весела (услед за Пушкіным) прызнавацца ў гэтым, ды што зробіш, калі яно і праўда так. Не весела ў гэтым прызнавацца, аднак яшчэ горш, мусіць, шукаць прычыны, каб апраўдваць і гэтую сваю лянотнасць, і гэтую самую нецікаўнасць. Але ж — і прызнаёмся, і шукаем. Што да прычын, дык іх і шукаць не трэба — вунь колькі! І ўсе самыя што ні ёсць аб'ектыўныя і ўважлівыя. Тут і работа з яе штодзённым клопатам, і сямейныя турботы, і наогул уся гэтая бясконцая, спароджаная нашым вірлівым — на скрут галавы! — векам, патрэбная, а часам жа і не надта патрэбная мітусня, што змушае цябе круціцца ад панядзелка да пятніцы.

Мітусня дзён, мітусня спраў... Ад яе, мусіць, і праўда немагчыма сёння ні ўцячы, ні схавацца кудынебудзь. Ды толькі ж ці не яна, гэтая мітусня, і спрыяе таму, што ты раптам, як спахапіўшыся, убачыш

нешта неяк асабліва абвострана, свежа, па-маладому, і задумаешся над гэтым імклівым кругабегам дзён, і здзівішся зусім шчыра і наіўна, як у дзяцінстве, не яму, гэтаму кругабегу, а таму, што ў ім, аказваецца, ёсць яшчэ і нешта надта ж пастаяннае і харошае, і тады знячэўку прыйдуць у душу ціхая радасць, і добрая замілаванасць, і шчаслівае супакаенне, і зайздросная прага новага, чыстага, светлага, чалавечага...

Можа быць, на добры лад, пра ўсё гэта і гаварыць не трэба было б. Мо варта было б адразу, як кажуць, браць быка за рогі і пачынаць свой абяцаны расказ пра аднаго харошага (у тое я паверыў яшчэ да сустрэчы) чалавека. Ды толькі здаецца мне, што калі б не было спачатку той нечаканай узрушанасці, таго радаснага здзіўлення, той шчырай душэўнай прасветленасці, дык не было б ні самой сустрэчы з тым харошым чалавекам, ні гэтых маіх радкоў.

А быў спачатку звычайны каляндарны лісток, адарваны па звычцыранічкаю. За многія гады выпрацавалася ў мяне такая звычка — пачынаць новы дзень вось з гэтага: адарваць учарашні каляндарны лісток, кінуць вокам на тое, колькі дзён прабегла ад пачатку года і колькі засталося яшчэ тых, што таксама прамільгнуць гэтак жа незаўважна і імкліва (з гадамі дні бягуць усё імклівей), паглядзець, на колькі хвілін падоўжыўся (ці пакарацеў) прамежак паміж усходам і заходам сонца, калі наступіць чарговая квадра месяца (засталіся са мною назаўжды спадзяванні маці, што са зменай квадры прыйдзе і змена надвор'я), і, нарэшце, зазірнуць на другі бок лістка і хуценька прабегчы вачамі кароткую, чыста інфармацыйную, як з энцыклапедычнага слоўніка, заметачку пра тое, што мела (альбо не мела) дачыненне да пражытага дня.

Дык вось, на адвароце таго каляндарнага лістка я ў той дзень нечакана прачытаў, што ветэран Мінскага трамвайнага парка вадзіцель Ніна Казіміраўна Лютынская водзіць трамвай па вуліцах роднага горада вось ужо... Колькі б вы думалі? Пяцьдзесят гадоў! Я спачатку ажно вачам не паверыў, ажно паднёс лісток бліжэй да носа, каб лепш разгледзець драбнюткі (таксама энцыклапедычны) шрыфт. Памылкі не было: пяцьдзесят гадоў!

Чакай, чакай, сказаў я сам сабе, хіба можа такое быць? Тут жа прыйшло на памяць:

Добры дзень, аснежныя прасторы,
добры дзень, сталіца хараства!
Скора ў бляску вечара, ой скора
празвініць на вуліцах трамвай...

Гэта — Паўлюк Трус, яго «Дзесяты падмурак». Паэма, напісаная ў канцы 1928 года, напярэдадні першага дзесяцігоддзя БССР. А тым часам мы паспелі адзначыць 60-гадовы юбілей роднай рэспублікі. Паэму Паўлюк Трус напісаў, калі яму было дваццаць чатыры гады, а неўзабаве мы будзем адзначаць яго васьмідзесяцігоддзе. Час, сапраўды, бяжыць імкліва!

Не памятаю ўжо, у якім класе «праходзілі» мы паэму «Дзесяты падмурак» і наогул Паўлюка Труса. Памятаю толькі, што я вельмі захапіўся яго паэзіяй. Найбольш хваляваў мяне верш «Не заспі — пабудзі мяне рана...». Калі чытаў яго, штораз на вочы нагортваліся слёзы...

Але гэта — між іншым, к слову...

І вось жа прызнаюся. Той парою, калі мы вывучалі П. Труса ў школе, я ўжо бываў у Мінску, не адзін раз катаўся на трамваі, і хоць кожны раз згадваліся мне Трусавы радкі пра бляск вечара, у якім скора празвініць на вуліцах трамвай, я ўсё ж не надта падзяляў паэтава захапленне гэтай падзеяй. Падумаеш — трамвай! Грукоча, скрыгоча па рэйках

на ўсю вуліцу, паўзе памалу, як чарапаха, ад прыпынку да прыпынку, толькі зрэдку разгоніцца, дык і то тады цябе кідае, шпурляе з боку ў бок так, што ледзь на нагах утрымаешся! Аўтобус, легкавік — гэта сіла, гэта любата! А трамвай...

Яшчэ больш змізарнеў у маіх вачах трамвай, калі ў Мінску, у 1952 годзе, быў пушчаны тралейбус. Мякка, ціха, бяздымна — едзь, куды табе трэба, і не вылазь!..

Тым не менш, прачытаў я той каляндарны лісток, і быццам нейкае ўтрапенне на мяне найшло. Вось табе і маеш: мінскі трамвай, аказваецца, адсвяткаваў ужо сваё пяцідзесяцігоддзе! А галоўнае, сярод тых, хто водзіць гэты самы трамвай, ёсць вадзіцель з пяцідзесяцігадовым стажам! Уяўленню гэта не паддавалася.

Не сустрэцца з Нінай Казіміраўнай я не мог...

## 2

— Не верыце? Не такая, кажаце, я і старая, каб паверыць, што пяцьдзесят гадоў за рулём? Гэта ж, дайце веры, памаладзела пад старасць. Мне многія кажуць: ну, Казіміраўна, ніколі не дасі табе тваіх гадоў, выглядаеш на пяцьдзесят, не болей! А я смяюся: ага, нарадзілася і проста з пялёнак за трамвай села...

А я ж, каб вы ведалі, у трыццатым годзе, як за трамвай села, ужо і замужам была, і дачушку мела, хоць самой, праўда, усяго васемнаццаць было.

Ага, дык от кажуць: не старэеш ты, Казіміраўна! А я, дзякаваць богу, і праўда не старэю. Камісію нядаўна праходзіла, дык і ціск нармальны, як у маладой, і вочы добра бачаць, і нервы спакойныя... А ўжо ж, калі на тое пайшло, дык прызнаюся вам, што па дакументах я яшчэ больш старэйшая — не

дванаццатага года, а восьмага. Пасля вайны ніякіх папер не збераглося, усіх пасылалі, каб пашпарт палучыць, на наружны від. Ну, і мяне паслалі. А сама худая, учарнелая, змэнчаная — ведама, пасля бядоты і гора такога. Дык яны, каторыя ў камісіі, не паверылі і запісалі мяне з восьмага года нараджэння, па чатыры гады старэйшай зрабілі. І ліха з імі! Абы мне добра было. А я во езджу ўсё і езджу, і на пенсію нізавошта не хачу. Што буду я рабіць без свайго трамвая? От вы самі памяркуйце, ці лёгка гэта — падумаць нават, не тое што зрабіць,— каб пасля стольких гадоў без любімай работы застацца? Хто ж вытрывае? Не, пакуль магу, дык і буду рабіць, па сваім маршруце ездзіць. Хіба ж толькі здароўе падвядзе, няўрокам кажучы, бо вось жа каторы дзень дома сяджу — застудзілася, запаленне прызнаюць, сказалі, вылежаць трэба... Ды не дамся я трасцы якой, яшчэ паезджу!

Ніна Казіміраўна смяецца. Смяецца ад душы, не знарочыста, бадзёра, хоць ёй і праўда нядужыцца. Перад гэтым на маё прабачэнне — што, маўляў, мо я зайду іншым разам — яна адмахнулася:

— А не зважайце вы на старэчыя хворасці! Калі ж будзе той іншы час, як не хварэючы? А так во ніхто ў спіну не падганяе, можна і пагаварыць спакойна...

Не, яна сапраўды не выдае на свае гады ні тварам, які захаваў адзнакі маладосці, ні кучаравымі, не вельмі каб сівымі валасамі, ні жывым, трохі смяшлівым выразам вачэй, ні ўсёй сваёй непаседлівай, па-маладому рухавай паставаю.

Акрыўшы плечы цёплай шарсцяной хусткаю, яна ўрэшце сядае ў крэсла па другі бок нізенькага — шахматнага — століка і пытаецца:

— Дык што ж вам расказаць пра сябе? З самага пачатку, кажаце? Дзе радзілася-хрысцілася? У Мін-

ску я нарадзілася, на Камароўцы. Бацька сталяром быў, а маці дома рабіла, па-цяперашняму хатняй гаспадыняй была. Бацьку дык я надта і не помню. Мне ўсяго чатыры было, як ён памёр. Дык і не ведаю, ці ён дзе на фабрыцы рабіў, ці проста па дварах хадзіў, каму што чыніў,— мама адно казала, што сталяром быў. Мама так і засталася адна, больш замуж не пайшла, мяне жалела, адна я ў яе была. Тата памёр у шаснаццатым, у вайну тую. Што маме адной рабіць у горадзе? Кінула Мінск, у Калодзішчы да бацькі вярнулася. Там і цёткі мае, маміны сёстры, жылі. Там мае малыя гады і прайшлі. Там пяць класаў скончыла. А пасля зноў з мамай у Мінск падаліся. Прыйшлі, а што рабіць? Работы — ніякай. Гэта ж якраз нэпманаўшчына была. Хадзіла мама па дварах па найму — грады палола, падлогі мыла, бялізну, усякую работу рабіла, хто якую дасць, і я з ёй на пару... Ну, а пасля замуж выйшла. Маладой зусім. Муж вайсковец быў, старэйшы за мяне нашмат, але вельмі добры чалавек. Праз год, у дваццаць дзевятым, Галя ў мяне нарадзілася...

Слухаць Ніну Казіміраўну — адна асалода. Рысоўкі — ніякай, адна шчырасць. І слоўка да слоўка кладзецца так, быццам усё роўна адно другое за сабой кліча. І быццам без аніякага адбору ўзнаўляе памяць пражытае, пабачанае, а паглядзіш пасля — якраз жа самае галоўнае і сказалася. Таму і парашыў, як кажуць, «злезці з даху і не псаваць гонты» — хай Ніна Казіміраўна сама пра сябе расказвае.

— А тут якраз трамвай паявіўся ў Мінску. Усё спачатку рэйкі клалі. Думалася: што гэта будзе хадзіць тут? Не поезд жа па вуліцах будзе чмыхаць! Раней конка была. Колькі ў яе пасажыраў сядала? Мусіць, чалавек з дваццаць, ад ліха дваццаць пяць. Больш наўрад ці сядала. Два конікі тую конку цягнуць, фурман наперадзе сядзіць, конікаў спыніць на

прыпынку, пасажыры хто зойдзе, хто сыдзе, фурман па конікаў нокне — далей паедзе... От не помню, ці быў кандуктар, бо сама я на концы ні разу і не ехала — грошы ж трэба было плаціць.

І от трамвай паявіўся. Мы з мамай жылі зноў блізка ад Камароўкі, дык тут ля нас і хадзіў. Ад вакзала да радыёзавода цяперашняга, па Савецкай на Пушкінскую, а праз нейкі час і далей троху, за Дом друку, дзе выстаўкі былі, дзе цяпер парк Чалюскінцаў...

І загарэлася я, каб гэта на трамваі рабіць. От хлебам мяне не кармі, а трамвай той дай! Пайшла ў аддзел кадраў. Кажу: хачу вадзіцелем быць. А на мяне вочы вылупілі: вадзіцелем?! А вадзіцелямі тады былі толькі мужчыны. Спачатку нават і кандуктары былі мужчыны. Ну, па-першае, што тэхніка, а па-другое, дык там жа і сіла мужчынская трэба была. Цяпер во — тормаз паветраны, адно толькі ручачку павярні. А тады на прыпынках, каб вагон не пакаціўся, трэба было ручны тормаз круціць...

Гэта цяпер, скажу я вам, вагончыкі прыгожыя, цёплыя, шчыльненькія, вадзіцель сядзіць, як на троне, на мякенькім сядзенні, чысценька, акуратненька апрануты. А раней, ведаеце, як мы зімой апраналіся? Валёнкі абувалі, кажух, шапку цёплую, штаны ватовыя нацягвалі, бо ў вагоне — лядоўня. У моцныя маразы тормаз як замерзне, ну кампрэсар той, на восі, паветраны тормаз, дык тады бярыся і ручны круці. Памятаеце, у старых вагонах у кабіне кола такое было? Яго ў дзве рукі толькі і крутанеш, а так рады не дасі... Стрэлачніцы былі, але і самой часта даводзілася вылазіць з вагона і стрэлкі пераводзіць. Часта і рэйкі самі чысцілі. У кожнага вадзіцеля рыдлёўка, вядро, венік. Бывае, задзьме мяцеліца, замяце пуць, дык вылазіш, прачышчаеш і далей едзеш паціхеньку...

Але што гэта я з баразны ў баразну? Ну, дык у аддзеле кадраў са мной і гаварыць не хочуць. А я на сваім: хоць што буду рабіць, толькі вазьміце! Ну, і ўзялі. Ямкі пад слупы капала, так што-небудзь рабіла, пасля кандуктарам была троху... Але ж усё вадзіцелем хацела быць. І трапіла ўрэшце на курсы. Яны былі кароткія, ці не месяцы са два ўсяго. Бжазоўскі быў такі, ён мяне вучыў спачатку. А пасля прыехала з Масквы жанчына, Корнева прозвішча яе, з ёй яшчэ троху паездзіла. У нас жа дзяўчат-вадзіцеляў не было, Корнева ў Мінск за мужам прыехала, ён у яе вайскоўцам быў, як і ў мяне... Паказалі, расказалі, што да чаго, а потым села — і паехала. Баялася спачатку! І нялёгка было. Во, і цяпер па праспекце спуск з Цэнтральнай плошчы да цырка круты, а тады ж да рэчкі спускацца — страхоцце адно! Як уніз галавой. Асабліва восенню ці зімой. Рэйкі слізкія, дык і кампрэсарам, і ручным тормазам карыстаешся, каб не панесла цябе з гары...

Але палюбіла я гэту работу. Ведаеце, з радасцю заходжу ў кабіну, з радасцю выпраўляюся ў дарогу. Пад'язджаю да прыпынку, бачу — пасажырыкі мае стаяць, чакаюць. Спынюся, пастаю, пакуль пасядуць, далей кранаюся ехаць. Пабачу — бяжыць нехта, рукою махае, дык зноў прыпынюся: пэўна ж, спазняецца чалавек. Горад жа невялікі тады быў, маршрут спачатку ўсяго адзін, дык многіх пасажыраў у твар ведала. Як жа не пачакаць! Ускочыць такі пасажыр у вагон, галавой кіўне, скажа: дзякую, таварыш вадзіцель, добра, што пачакалі, спазняюся...

Цяпер як згадаю, дык ужо і сама не веру, што тады ўсё інакш было, чым сёння. Кабіна вадзіцельская адкрытая. Можна сказаць, ніякай кабіны зусім не было. Адно што парэнчы маё сядзенне ад пасажыраў адгароджваюць. Але ж усё адно людзі за спіною ў цябе стаяць, у плечы дыхаюць... Слесараў харошых

не было, каб падрамантавацца, самім усё даводзілася рабіць... А трамваі якія былі! Яны ж грымелі, барабанілі, брынчалі — хоць вушы затыкай! Сядзенняў мяккіх, як цяпер, і ў паміне не было. Дзе вы бачылі! Вадзіцель сядзеў на такой кругленькай табурэтачцы. Прыедзеш з вакзала да парку Чалюскінцаў, бярэш з сабой табурэтачку, пераходзіш у другі канец вагона, а кандуктар дугу пераносіць-перачэплівае, каб можна было назад, да вакзала, задам наперад ехаць, бо, я ж казала вам ці не, кальца разваротнага спачатку не было. Па канцах маршрутаў два пуці сыходзіліся ў адзін, каб можна было выехаць на другі пуць і ў другі бок паехаць. Таму і табурэтачку сваю даводзілася штораз у канцы пераносіць... А пасля ўжо ля вытаўкі кальцо зрабілі, станцыю паставілі, і на Таварнай кальцо і станцыю зрабілі, і на вакзале, дык ужо лацвей стала, не трэба было валаводзіцца, а закругліўся па разваротным кальцы і далей паехаў...

Адзін маршрут быў, але людзей шмат ездзіла. Не тое што конкай. Ну, трамвай жа і едзе хутчэй, чым конка, і плата за праезд намнога таннейшая стала. Памяць адшыбла, не памятаю ўжо, колькі гэта тады білет каштаваў — ці трыццаць капеек, як пасля вайны, ці дзесяць. Не, здаецца, усё ж дзесяць. Людзей бітком набівалася. Часам і боязна было — каб з падножкі каторы не сарваўся, бо дзверы не зачыняліся, як цяпер, аўтаматычна, часта дзвярэй і зусім не было. А як да мяне, дык, дальбог жа, ці не болей сядала, як да каго. Убачаць, што дзяўчына за рулём, дык каб гэта глянуць, як яна павядзе трамвай. У навіну ўсё ж! Ну, а сёй-той, хлопцы каторыя, дык і загаворвалі: таварыш вадзіцель, калі работу канчаеце, мо ў кіно вечарам сходзім?..

Многія, каторыя карэнныя мінчане, і цяпер памятаюць. Гэта ж паверыце, як адзначалі маё пяцідзесяцігоддзе за рулём, дык адна жанчына на вечары, па-

жылая ўжо, мо і за мяне старэйшая, падыходзіць, падае кветкі і кажа: ■ я вас памятаю з давайны яшчэ...

Я ж дзякуючы трамваю свайму і з вялікімі людзьмі пазнаёмілася. Маладзейшыя каторыя дык і не вераць, ■ я ж і Купалу і Коласа ведала. Коласа часта сустракала ля Акадэміі навук. Часам у мой трамвай заходзіў. Яшчэ здалёк бачу, што Колас на прыпынку стаіць. Ці ж я не пазнаю яго? Коласа і Купалу да вайны ўвесь Мінск ведаў у твар... А ў трыццаць дзевятым годзе ўключылі мяне ў склад беларускай дэлегацыі, якая вітала XVIII з'езд партыі. Перад ад'ездам сабралі дэлегацыю ў Доме ўрада. Там і пазнаёмілася з Коласам. Падаў мне руку і кажа: от цяпер буду заўсёды ездзіць на вашым трамваі. А я яму: дык вы і так ездзілі. А ён смяецца: а цяпер буду ездзіць толькі на вашым... Прыехалі ў Маскву. Агледзелася — туфлі забылася ўзяць. Села і плачу: не пойдзеш жа на з'езд у ботах! Колас падыходзіць, кажа: чаго плачаце, Ніна? Я кажу са слязамі: туфлі забылася. Пайшоў ён, а неўзабаве прыносяць мне туфлі — як цяпер помню, такія прыгожыя лодачкі-лакіркі. І грошай з мяне не ўзялі, сказалі — падарунак...

Гэта было ў сакавіку ці ў красавіку, а ў пачатку кастрычніка мяне зноў уключылі ў дэлегацыю для паездкі ў Беласток — тады ж толькі вызвалілі Заходнюю Беларусь. І зноў у дэлегацыі былі і Колас і Купала, Александроўская, артыстка, яшчэ была, памятаю. У Беластоку вечары праходзілі, канцэрты, сустрэчы розныя. Многія пісьменнікі выступалі, вершы чыталі... Баюся памыліцца, але, здаецца, і Танк быў, і Пестрак, і Машара...

Пасля гэтага з Коласам, можна сказаць, я знаёмства вадзіла. Канстанцін Міхайлавіч выйдзе з будынка Акадэміі і чакае майго трамвая. Зойдзе, паздароў-

каецца, скажа: прапусціў два, каб на ваш сесці... А мне ад сораму хоць скрозь зямлю праваліся... Аднаго разу зайшоў так у трамвай, падышоў да кабіны і кажа: я ў Маскву еду, мо купіць вам што? Я вазьмі ды і ляпні: купіце берэтку белую. Тады ж надта мода пайшла на белыя берэткі. Ён кажа: добра, куплю. І што вы думаеце? Купіў! Не забыўся!.. Я ў той берэтцы яшчэ і сфатаграфавалася, яна мне доўга служыла. А картачка і цяпер ёсць, збераглася. Яе павялічылі і ў нашым музеі павесілі. Калі зойдзеце, дык пабачыце...

3

Не, што ні кажыце, а слухаць простых людзей нам трэба часцей і чуйней. (Ніхто мяне не пераканае, што ў вызначэнні «просты чалавек» ёсць нешта абразлівае, крыўдлівае ці пагардлівае. Няпраўда! У народзе спрадвеку гэтак казалі пра каго-небудзь з ухвалаю: ён — просты чалавек. І гучала гэта, як — харошы! Просты — значыць, сціплы, шчыры, сумленны, праўдзівы, працавіты нават, без мух у носе, без фанабэрыі і зазнайства, без markнага іншага круцельства.) Слухаць нам людзей не проста трэба, а неабходна! Вучыцца ў іх слову, сінтаксісу, натуральнасці гаворкі, а то ж — заштампаваліся мы і закалькаваліся, прэ з нашых твораў газетчына. А тыя ж простыя людзі пра ўсё ўмеюць сказаць-расказаць і словамі адпаведнымі, і з адпаведным тактам. Так, як гаворыць тая ж Ніна Казіміраўна Лютынская. Нават вось пра такое даткліваe, як знаёмства з вялікімі людзьмі, сказалася ў яе без панібрацтва, аднак жа і без ліслівасці, і без самапрыніжэння...

А што да музея трамвайнага дэпо, дык пабыў я і там...

5 студзеня 1959 года ў сувязі з 40-годдзем БССР і Кампартыі Беларусі ленінградцы прыслалі мінча-

нам падарунак — трамвайны вагон. Шмат гадоў бегаў ён па мінскіх вуліцах, а пасля, абноўлены камсамольцамі дэпо, стаў там на вечную стаянку — у яго салоне разгарнулі сціплую экспазіцыю, прысвечаную мінскаму трамваю.

21 верасня 1928 года прыступілі ў Мінску да будаўніцтва першай трамвайнай лініі. А праз год, 13 кастрычніка 1929 года, па горадзе прайшоў першы трамвай.

У той дзень — у нядзелю — на Прывакзальнай плошчы адбыўся мітынг, прысвечаны ўрачыстаму пуску трамвая. Прамоўцы гаварылі аб тым, што будаўніцтва трамвайнай лініі закончана ў тэрмін, без перарасходу сродкаў (яно абышлося ў 2 мільёны 100 тысяч тагачасных рублёў), аб тым, што пуск трамвая — выдатны падарунак працоўных Мінска дванаццатай гадавіне Вялікага Кастрычніка.

На мітынгу было зачытана прывітанне будаўнікам ад Старшыні СНК БССР М. М. Галадзеда. У ім былі такія словы: «Беларусь, краіна балот, ператвараецца ў краіну электрычнасці, трамваяў і Асінбудаў». Гэтыя словы мяне ўразілі. Зноў згадаўся Паўлюк Трус. У тым жа «Дзесятым падмурку» пасля цытаваных ужо мною радкоў ідуць такія:

І тады я стану пад гарою,
каб пазбыцца смутку і журбы,
буду слухаць песні Асінстрою,
захаплюся музыкай турбін...

Што гэта: паэт загаварыў словамі дзяржаўнага кіраўніка ці дзяржаўны кіраўнік — словамі паэта? Як бы там ні было, а час быў незвычайны. Трудны і шчасліва-прыгожы час!

У той жа дзень, 13 кастрычніка 1929 года, адбыўся ўрачысты пленум Мінскага гарсавета. У прынятай рэзалюцыі пленум адзначыў, што пуск трамвая з'яўляецца яшчэ адным буйным дасягненнем працоўных

Мінска ў галіне камунальнага будаўніцтва і добраўпарадкавання горада. Трамвай звяжа рабочыя ўскраіны з цэнтрам і наблізіць культурна-асветнае жыццё горада з цэнтра да ўскраін. Пуск трамвая мае вялікае палітычнае і культурна-эканамічнае значэнне. Пленум з асаблівай радасцю адзначыў, што 98 працэнтаў абсталявання мінскага трамвая выраблена на нашых савецкіх заводах. Гэта сведчыць пра тое, што лінія Камуністычнай партыі на высокія тэмпы індустрыялізацыі ўжо дае практычныя вынікі...

На стэндах музея-вагона — газеты тых дзён. У іх — радасныя паведамленні аб прыбыцці ў Мінск з Масквы першых пяці трамвайных вагонаў і што чакаецца прыбыццё яшчэ пяці; што адкрыццё трамвайнай лініі Вакзал — Плошча Свабоды намячаецца на 25 кастрычніка; што 7 лістапада адкрыўся трамвайны рух па маршруту Плошча Свабоды — Старажоўка; што заканчваецца будаўніцтва трамвайнага парка...

А сёння ў нашай беларускай сталіцы працуе першая чарга метрапалітэна, і праз многа гадоў, напэўна ж, і метро будзе мець свой музей, і нехта будзе ўчытвацца ў пажоўклыя старонкі сённяшніх газет, і будзе здзіўляцца, і па-добраму ўсміхацца, быццам зайздросцячы той далёкай ад яго людской радасці,— як я сёння з ціхім смуткам зайздрошчу колішнім мінчанам. Зайздрошчу хоць бы таму, што яны ўмелі вось так шчыра, ад душы радавацца пуску трамвая, а мы ўжо і метро ўспрымаем спакойна, абыякава, нават яшчэ і пабурчым: «Што гэта за метро, калі нават эскалатары не на кожнай станцыі?! Кратовыя норы, а не метро!..»

Экспазіцыя музейчыка мінскага трамвая, на жаль, занадта сціплая. Аднак жа сёе-тое ў ёй ёсць, што прываблівае ўвагу і па-сапраўднаму хвалюе. І сярод таго — фотаздымак першага вадзіцеля трам-

вая Мікалая Аляксеевіча Барысава. Яшчэ ў 1927 годзе ён быў накіраваны ў Маскву на вучобу, а 13 кастрычніка 1929 года, пасля заканчэння мітынгу на Прывакзальнай плошчы, павёў па Мінску першы трамвай. Мікалай Аляксеевіч і сёння, можна сказаць, член калектыву мінскіх трамвайшчыкаў. Трамвай, канечне, ён ужо не водзіць, але ў дэпо бывае часта, перадае моладзі свой вопыт.

А побач з фотапартрэтам М. Барысава — і партрэт першай жанчыны-вадзіцеля Ніны Казіміраўны Лютынскай. На фатаграфіі яна маладая, «даваенная». У тым самым берэціку, які прывёз ёй з Масквы сам Якуб Колас...

## 4

— Ведама, нялёгка было. Галя яшчэ не памочніца, Алік малы пад нагамі таўчэцца, а ў мяне ж акрамя работы іншага клопату хапала. У той жа год, як у парк прыйшла, камсамолкай стала, а неўзабаве і ў партыю мяне прынялі. Дык — то партыйныя заняткі, то сходы, выбары, памятаю, першыя праходзілі, дык па хатах хадзіла, спісы выбаршчыкаў складала... А ў самым пачатку сорак першага Толік у мяне нарадзіўся. Але работу не кінула ўсё роўна...

І от помню... 22 чэрвеня я ў першую змену выйшла. У гадзін пяць, пэўна, шасці то точна яшчэ не было. Дзянёк надта ж харошы пачынаўся — сонечны, светлы, нядзельны. Усе радасныя едуць, вясёлыя, песні пяюць. На адкрыццё Камсамольскага возера едуць. Камсамольскае, бо камсамольцы будавалі яго. Кожны камсамолец павінен быў адрабіць там чатыры дні — ці з рыдлёўкай, ці з тачкай... Ужо ж туды, да возера, і трамвай пусцілі. Ну, не зусім да возера — адзін ці два прыпынкі не даходзіў, хоць пуць і быў. Помню, людзей ля кальца на плошчы Свабоды — не

злічыць, танцуюць, песні пяюць... А недзе ў гадзін дванаццаць, напэўна, пад'язджаю я да плошчы, гляджу — зноў людзі сабраліся, нешта з рэпрадуктарараслухаюць, а ён так громка крычыць. Выйшла я з вагона, падышла і ўваччу цёмна зрабілася — вайна пачалася, чую!

А 24-га Мінск пачалі бамбіць. Помню, прыехала ў дыспетчарскую, а там кажуць: загад — усім у парк. Дыспетчар яшчэ прасіў, каб я вагоны ў парку палічыла, ці ўсе вернуцца. Толькі загнала я свой вагон, толькі палічыла ўсе астатнія, а над горадам — самалёты, ды так нізенька! Выскачылі мы з парка з Сяргеевай — гэта падружка мая была, а з самалётаў, як пёркі з птушкі, бомбы пасыпаліся. І проста на парк. Ён адразу і загарэўся. Так гарэла, так трашчала... Гляджу я, а і мой вагон гарыць. А ён быў убраны, гардзіны шоўкавыя павесілі, аддзялілі імі вадзіцеля ад пасажыраў, і на вокны шоўкавыя фіраначкі, і люстэрачкі ля дзвярэй, а наверсе — сцяжкі чырвоныя. Убралі так, бо наш экіпаж камсамольскі быў...

Прыбегла я дахаты, да малога, а па радыё кажуць, каб ішлі на ўсход, каб не хаваліся ў падвалах дамоў, бо на Даўгабродскай падвал бомбай заваліла, людзі пагінулі... Мужа не пабачыла, ён недзе быў у Доме ўрада, служыў там у ахове. Сабрала дзяцей, сёе-тое ў клунак звязала і выправілася ў бежанцы. Дабралася да Барысава — пашанцавала на машыну ўзбіцца. А там пачалі бамбіць, шафёр недзе знік. Пайшла, як і іншыя бабы, назад. А на дарозе машын перавернутых, разбітых, абгарэлых — уга колькі! Цяжка ісці, боязна, ужо фашысты пруць і пруць па дарозе днём і ноччу. У нейкай вёсцы да людзей добрых прыбіліся, пажыла з дзецьмі з тыдзень, пакуль аціхла трошку. Прыйшлі дамоў, на Камароўку сваю, а ўся хата ачышчана, усё чысцютка пазабірана. Адна

толькі машынка швейная засталася. Перад адыходам я яе пад печ запхнула, дык і ацалела.

Вярнуліся, а з чаго жыць? Немцы трамвайны парк троху адбудавалі і трамвай пусцілі, адзін маршрут усяго, здаецца. Сёй-той з нашых вярнуўся ў парк, мяне клікалі, але я не пайшла. Свае людзі, ведама, але ж — хто не знае, што партыйная я, дэпутатка гарсавета? Дык — далей ад ліха, бо і дзяцей асіраціць лёгка... Пайшла ў Дом друку. Там сталяром рабіў мой брат стрыечны, Юзік Доўнар, памог, каб і мяне ўзялі. Паставілі наборшчыцай. Калупалася я з тымі літарачкамі, ды не надта ў мяне атрымлівалася. А тут бабы і дзеўкі неўзабаве даўмеліся знарок тыя літаркі блытаць, каб шкодзіць немцам. Спачатку ж дурныя былі, не ведалі, як і шкодзіць разумна. Немец-наглядчык прыкмеціў, прыгразіў, дык я спаслалася, што неадукаваная — папрасілася ў прыбіральшчыцы. Там вальней было, бо не так сачылі. Дык і заданні падпольшчыкаў лацвей было выконваць — прыбіральшчыца магла сёе-тое вынесці. Колькі разоў шрыфт выносіла — пакрысе, па дзве-тры жмені, каб не кінулася ў вочы. І паперу выносіла. На шпульках з-пад рулонаў заставалася нямала паперы. Дык я некалькі шпулек укіну ў мех са стружкамі, Толіка на другую руку пасаджу і іду цераз прахадную. Нашто табе шпулькі? — пытаюцца. А я кажу: грубку паліць. Ну, пакрычаць-пакрычаць, але прапусцяць... І лістоўкі расклейвала. Спачатку іх у Доме друку друкавалі, а пасля, як стала няможна, партызаны іх у горад прыносілі. Партызаны да мяне і дадому заходзілі. Ед, бінт ім перадавала. Аднойчы дзесяць запальнічак перадала — падпольшчыкі ў Доме друку зрабілі, пяцілітровы бітончык авіяцыйнага бензіну... І цяпер многія жывуць з тых, з кім я ў вайну звязана была. Скажам, Вера Вершаль, Янка Плаўнік, потым — Зыкаў, ён цяпер таксістам робіць,

Мармулёў, Герой Савецкага Саюза, у Барысаве зараз жыве...

Колькі разоў, здавалася, жыццё на валаску вісела! Колькі накалаціліся ад страху таго, а колькі нагараваліся-нагаладаліся! І Галя старалася хоць бульбіну якую здабыць, і Алік малы хадзіў боты чысціць, дык немец каторы дасць марку, а другі — выспятка, а не марку... Але ж от неяк перакачаліся, дачакаліся нашых...

А як толькі вызвалілі Мінск, я зразачку пайшла ў трамвайны парк. Сабраліся нашы трамвайшчыкі, хто ў горадзе быў, хто з эвакуацыі вярнуўся, хто з партызанаў. А рукі за што зачапіць? Немцы ж усё чысцютка пазнішчалі. Нават рэйкі, што былі пакладзены да возера, знялі і вывезлі.

Горад увесь разбураны і згарэлы. Савецкая вуліца, Ленінская, Карла Маркса — куды ні глянеш, усё разбіта, спалена, жаль глядзець. Помню, на вуліцы Энгельса кінатэатр быў — «Спартак», такі прыгожы, я часта туды хадзіла, яшчэ і тады, як гуку не было, чытаць надпісы даводзілася,— дык ад яго ж нічога не засталося...

Пра мужыка свайго праз усю вайну не ведала. Толькі пасля вызвалення дачулася, што на фронце быў, два разы ранены. Лячыўся ў арлоўскім шпіталі, асколак быў у лёгкім. Прывезла ў Мінск, рабілі тут аперацыю, не вытрываў, памёр... Замуж я, як і мама мая, таксама болей не выходзіла. Гаравала, вядома, па дзве змены запар рабіла, каб капейчыну большую мець, цяпер так не дазваляюць, а тады можна было, пенсію за мужа атрымлівала... Ну, а пасля і Галя на работу пайшла, да нас, у парк. Галя як старэйшая, дык толькі сем класаў скончыла, а хлопцы — па дзесяць, Галя для іх ужо старалася...

Сам будынак парка ацалеў, хоць і быў замініраваны, немцы не паспелі ўзарваць. Але ж каб паехаць,

дык адразу не паедзеш. Уся ж гаспадарка разбурана, пабіта. Двух коней дасталі, каб можна было падвезці што — шпалы, рэйкі тыя ж, слупы... Трамваяў некалькі адрамантавалі. Дальбог жа, у сорак чацвёртым вагонаў у нас не больш было, чым у дваццаць дзевятым-трыццатым, як толькі трамвай пачынаўся. Ды, пэўна, яшчэ меней: пяць ці шэсць вагонаў паставілі на колы. Першай аднавілі лінію ад станцыі Таварнай да парку Чалюскінцаў. Вось з восені сорак чацвёртага і пачала зноў ездзіць...

Кажуць, што толькі добрае забываецца, а благое — не. Чаму ж не — і благое забываецца. Гэта ж пасля вайны трамваі ці не горшыя былі, чым да вайны. Многія вагоны нават дзвярэй не мелі. Сядзіш, бывала, вецер дзьме, зімою поўную кабіну снегу намяце... Але ж рабіла, падабалася мне гэта работа. Лепшай, здавалася, і няма, бо заўсёды — сярод людзей, на людзях. І дзеці з мяне прыклад узялі. Галя во ўжо трыццаць пяты год трамвай водзіць, а Алік больш чым дваццаць гадоў на тралейбусе ездзіць, і Толік у дэпо рабіў, і зяць таксама...

Во пра што не забыцца расказаць...

У сорак пятым выклікаюць мяне ў кантору і кажуць: даручаем табе, таварыш Лютынская, адну адказную работу, згодны? Чаму ж, кажу, не згодна, а сама думаю: што там за работа адказная такая? Бачу, прычапілі да майго вагона адкрытую платформу, пілавіння ў яе насыпалі, чацвёра рабочых у яе сядаюць, а мо і болей... Аказваецца, трэба перавезці з Таварнай станцыі да Дома ўрада помнік Леніну. Фашысты ж узарвалі яго, знішчылі помнік. А пасля вайны ў Ленінградзе яго зноў адлілі. Дык от я з Таварнай яго і перавозіла. Ноччу працавалі, каб трамваям не перашкаджаць. Да чыгуначнай платформы быў спецыяльны пуць пракладзены. Кранаў не было, рабочыя рукамі грузілі і згружалі помнік па частках.

Пілавіння насыпалі, каб не падрапаць, не запсаваць помнік... Два ці тры рэйсы, памятаю, зрабіла...

Цяпер, як праходжу ля Дома ўрада, дык кожны раз прыпынюся, пагляджу на Леніна, тую ноч успомню і зарадуюся, што мела дачыненне да гэтага помніка і я, везучы такі дарагі груз па цемнаватым пасляваенным Мінску...

## 5

Спачатку быў звычайны каляндарны лісток...

Але была яшчэ і кніга...

Добрая кніга, як і добры чалавек, таксама прыносіць нам вялікую радасць. А гэта была не проста добрая кніга. Гэта была незвычайная, дзівосная кніга: «Лад» Васілія Бялова. Кніга з такім падзагалоўкам: «Нарысы аб народнай эстэтыцы».

Можа быць, нехта ўсміхнецца і здзіўлена пацісне плячамі: якое, маўляў, дачыненне мае гэтая кніга да расказу Ніны Казіміраўны Лютынскай? Што ж, непасрэднага дачынення мо і не мае. Аднак жа, аднак...

Кніга гэтая — пра неабдымную і ні з чым несувымерную стыхію народнага жыцця, пра тое, як стагоддзі гранілі і шліфавалі жыццёвы ўклад народа, сфарміраваны яшчэ, бадай, у пару язычніцтва, пра адвечную прагу народа да прыгожага, пра вытокі народнай эстэтыкі. Кніга гэтая — пра гадавы рытм працоўнага жыцця селяніна, пра ягоную працу зімою, вясною, летам і восенню, пра работу цесляроў, кавалёў, пастухоў, шаўцоў, лодачнікаў, печнікоў, ганчароў, каталёў, млынароў, бондараў... Пра тое, як іх праца спалучала ў сабе карысць і прыгажосць.

Я чытаў яе з велізарнай зацікаўленасцю і асалодаю. Божа мой, які багаты, шматстайны і маляўнічы свет жыцця паўночнарускага селяніна раскрываўся на яе старонках! Свет, што ў значнай ступені назаў-

сёды адышоў у нябыт і працягвае адыходзіць. І ад гэтага было адначасова крыху і сумна, скрушна. І не толькі ад гэтага. А яшчэ і ад таго, што ніхто з нашых пісьменнікаў не прыйшоў да думкі зрабіць нешта падобнае. Яно, вядома, усе мы пакрысе сёе-тое робім у гэтым кірунку, на старонках нашых кніг занатавана шмат з таго, чым жыў наш народ на працягу стагоддзяў і што імкліва разбураецца і знікае сёння на нашых вачах. Але каб вось так, як Васіль Бялоў, сёння, не зважаючы на нястрымны наступ НТР, раптам задумаць і ажыццявіць такое!..

Ну, ды гэта, напэўна, сапраўды з іншай оперы. А каб было зразумела, дзеля чаго прыгадваю я тут кнігу В. Бялова, дазволю сабе працытаваць з яе некалькі мясцін.

«Так ужо ўладкаваны свет: калі ўзараў, дык трэба і сеяць, а калі пасеяна, дык і ўзыдзе. А што ўзыдзе, тое і вырасце і дасць плод, і хочаш не хочаш, ты будзеш рабіць тое, што прадвызначана боскаю воляю. Ды чаму — хочаш не хочаш? Нават гультаяватаму прыемна араць і сеяць, прыемна бачыць, як з нічога ўзыходзіць сіла і жыццё. Вялікая тайна нараджэння і ўвядання штогод спадарожнічае селяніну з вясны да восені. Цяжкасць працы — калі ты дужы і не хворы — таксама прыемная, яе проста не існуе. Ды і сама праца асобна як бы не існуе, яна непрыкметная ў побыце, жыццё цэласнае. І праца, і адпачынак, і будні, і святы настолькі заканамерныя і настолькі не могуць адно без аднаго, настолькі натуральныя ў сваёй чарговасці, што цяжкасць сялянскай працы скрадвалася. Да таго ж людзі ўмелі ашчаджаць сябе...»

«Працаваць прыгожа не толькі лягчэй, але і больш прыемна. Талент і праца непарыўныя. Цяжкасць працы неадольная для бяздарнага работніка, яна лёгка спараджае пагарду да працы. Вось чаму

пэўная лянотнасць, а таксама нетаропкасць і ўдача ў працы таленавітага чалавека выклікае іншы раз зайздрасць і неразуменне ў чалавека пасрэднага, які не шкадуе ў працы ні сілы, ні часу.

Сапраўдная прыгажосць і карысць таксама ўзаемазвязаны: хто ўмее прыгожа касіць, само сабой, накосіць больш. Гэтак жа, як і той, хто ўмее прыгожа цяслярыць, збудуе больш і лепш, прычым зусім не абавязкова ў пагоні за доўгім рублём...»

І яшчэ: «Умельства, майстэрства і, нарэшце, мастацтва жывуць, відаць, у межах любой працы. І, канечне ж, толькі ў сувязі з працай і пры наяўнасці працы можна гаварыць пра гэтыя тры паняцці...

Значыць, усё пачынаецца з нястрымнага і невытлумачальнага жадання працаваць... Творчы пачатак абумоўлены жаданнем працаваць, жаданнем дзейнасці».

Ці не карысна і сёння нам, людзям, што працуюць зусім у іншых умовах і абставінах, памятаць сёе-тое з таго, што было выпрацавана, выпакутавана людзьмі за стагоддзі цяжкай, часта паднявольнай, знясільваючай працы? І не толькі — памятаць, але і не адкідаць прэч, а і — укараняць і распаўсюджваць?

Чалавек прыходзіць у гэты свет, каб працаваць. Не высільвацца, а працаваць. Працаваць умела, дбайна. А дзе ўмельства, там і прыгажосць. А дзе прыгажосць працы, там і колькасць, там і якасць яе, там і асалода на душы ў таго, хто працуе. Як усё, аказваецца, проста і натуральна!

І згадалася мне кніга В. Бялова пад час гутаркі з Нінай Казіміраўнай Лютынскай таму, што ў яе расказе відочна сцвярджаюцца многія з гэтых, цытаваных вышэй, прынцыпаў народнай эстэтыкі, мо правільней будзе сказаць — народнай працоўнай этыкі.

І шкада, вядома, што яшчэ досыць часта трэба даводзіць гэтыя неабвержныя ісціны (што чалавек

прыходзіць у гэты свет, каб працаваць) некаторым людзям. І як важна, каб гэтыя немудрагелістыя ісціны ведалі, прымалі да душы маладыя людзі, тыя, што толькі пачынаюць сваё жыццё...

## 6

— Я ўжо і кінула б мо рабіць, але ж надта блізенька ад дэпо жыву. Як ведала ўсё адно, калі кватэру атрымлівала, што тут жа, на Батанічнай, новае трамвайнае дэпо пабудуюць. Дарогу толькі перабегчы — і на рабоце... Наш дырэктар Ермачэнка, ён галоўным інжынерам быў, а цяпер дырэктарам, кажа мне неяк: праверыў увесь Саюз, нідзе няма, каб жанчына правяла за рулём трамвая пяцьдзесят гадоў; мо вам, кажа, цяжка, мо на другую работу перавесці? Як сказаў ён мне так, дык я і пакрыўдзілася. Кажу: калі так, дык напішу заяву і пайду на пенсію. А ён таксама збянтэжыўся: не, не, кажа, я проста так спытаў, каб як лепей... А я яму: камісію прайшла, урачы дазваляюць, дык яшчэ пару гадкоў папрацую, а там відаць будзе. Тады, можа, і на другую работу папрашуся, але тут, у дэпо, каб не расставацца з трамваем...

На юбілей мой, вядома, не забыліся. Святкавалі, адзначалі. Тут во, у хаце, гасцей поўна было. Падарункаў нанеслі, слоў добрых нагаварылі, казалі і колькі кіламетраў я за пяцьдзесят гадоў наездзіла, і колькі пасажыраў перавезла. Вядома, ніхто ж не падлічваў спецыяльна, прыблізна прыкінулі, але ўга якія лічбы вялікія! Я й рада была за такую ўвагу і павагу. А ўзнагарод розных у мяне шмат. Самая вялікая радасць была, як узнагародзілі ордэнам Леніна, у 1966 годзе, у той год, як і горад Мінск узнагародзілі ордэнам Леніна. Знак ёсць — «500 тысяч кіламетраў без аварый», грамат розных ажно больш чым дзесяць.

Ну, і кніжка вадзіцеля першага класа, у якой з сорак чацвёртага года — ніводнай заўвагі. У кніжцы запісы робяць, калі правілы якія парушаеш, яна ж у мяне чыстая...

Але што я ўсё выхваляюся перад вамі, га? Вы падумаць можаце, што работа наша лёгкая, лягчэйшай няма, калі баба на сёмым дзесятку на пенсію не збіраецца. Дык от не думайце! Проста скажу — цяжкая, нялёгкая гэта работа. Яно, праўда, мы зараз і зарабляем добра, як тыя інжынеры,— і па дзвесце рублёў, і па болей нават, і трамваі не раўня колішнім, дзяўчаткі, тыя сядзяць за рулём, як на выстаўцы якой — разадзеўшыся, напамадзіўшыся, накруціўшыся, як на агледзінах, але ж гэта — адно, а работа — другое. Людзей у Мінску шмат стала, набіваецца пасажыраў у вагон як дзверы зачыніць. Раніцаю асабліва шмат і пасля абеду, у чатыры-пяць гадзін. Транспарту ў горадзе многа. Калісь едзеш сабе спакойна — ні тых машын, ні сфетафораў. А цяпер і машын процьма, і сфетафоры тыя на кожным скрыжаванні. Шафёры не глядзяць, правілы парушаюць, не прапускаюць трамвай, калі трэба прапусціць. На прыпынках ім не церпіцца хутчэй праехаць, калі яшчэ пасадка не закончана і дзверы не зачынены. І пешаходы не тыя, што раней. Яны цяпер надта ганаровыя парабіліся, пешаходы! Трамвай павінен перад імі спыніцца, прапусціць яго, і гэта пешаход ведае і не спяшаецца, ідзе сабе, быццам шпацыруе, яшчэ і ручкай вадзіцелю памахае — паспееш з козамі на торг!.. А ў нас жа — графік!..

Светафораў вельмі шмат. Разумееш, што ўсё гэта, каб лепей нам было, каб мы без аварый ездзілі, але затое і стамляешся болей, бо ўвесь час у напружанні трэба быць, пільна сачыць за ўсім... І не разгонішся надта. І рэйкі лепшыя, і трамваі не параўнаць з даваеннымі, а хуткасць амаль тая ж, што і да

вайны, мо нават крыху меншая, раней ці не хутчэй мы ездзілі, бо і прыпынкаў меней было, і людзей, і машын, і скрыжаванняў з тымі ж сфетафорамі...

Да вайны, асабліва спачатку, нас не правяралі, як мы ездзілі, з якой хуткасцю. Пасля ўжо, як паявіліся канцавыя станцыі, пачалі запісваць, за колькі мінут праедзеш туды і назад. А цяпер картачкі ў кожнага вадзіцеля, увесь маршрут па секундах распісаны. Спознішся на колькі мінут — усё, рэйс гэты бракуецца, за яго ты нічога не палучыш... А дыспетчары не толькі за графікам сочаць. Яны ўсімі трамваямі, што на пуцях, камандуюць: куды трэба болей вагонаў паслаць, якому пуць скараціць, каб людскі паток разгрузіць хутчэй...

Калектыў у нас харошы, дружны, усе адзін за аднаго, ці радасць у каго, ці гора якое. Хто стараецца, не лянуецца, таго і начальства заўважае, у крыўду не дае. Санаторый-прафілакторый у нас свой ёсць, у Волме, там вельмі хораша адпачываць, ездзяць нашы туды сем'ямі, з дзецьмі. Моладзі ці шмат? Ёсць, вядома, і шмат. Але ж адны дзяўчаткі. І не надта трымаюцца. Пытаюся ў каторай: чаму звальняешся, хіба заробкі благія ці крыўдзіў хто? Муж, кажа, не дазваляе, не пускае. А чаму, каб хто спытаў? У нас жа можна і тым працаваць, у каго дзеці, можна такі графік выбраць, каб не цэлы дзень быць на рабоце, а троху зранку, троху пасля абеду...

Што яшчэ вам сказаць?.. Да вайны, мне здаецца, і пасля вайны нават ці не культурнейшы пасажыр быў. От успамінаю, і здаецца, што неяк не так сябе людзі паводзілі. Заходзяць — паздароўкаюцца, выходзяць — дзякуй скажуць, не лезлі адзін аднаму на галовы. Мо таму, што меней іх было, людзей? А цяпер жа... Моладзь быццам і вучоная, культурная, а дысцыпліны — дык няма. Сталейшыя людзі

больш культурныя, больш ветлівыя... І «зайцоў» тых самых сярод каго больш? Сярод моладзі!

Памятаю, пайшоў наш вагон без кандуктара. Мой першы вагон такі ў горадзе зрабілі. Паставілі ў салоне касы, апускай манеткі, адрывай білет і едзь. Дык спачатку ўсё быццам добра. Часам грошы нават лішнія былі. Зайшлі ўтрох, рубель укінулі, тры білеты адарвалі, а дзесяць капеек рэшты не ўзялі. Іншы замест трыццаці капеек трыццаць пяць укіне... А пасля ж чаго толькі ў тых касах не знаходзілі! І царскія медзякі, і жалезныя балванкі розныя, і ліха яго ведае што... І «зайцоў» шмат было. Вядома, каторыя і пры кандуктары стараліся «зайцам» праехаць, дык цяпер тым больш... Але ж, здаецца мне, як не стала кандуктараў, дык людзі як саромецца болей пачалі, кантраляваць адзін аднаго, няўзнак сочачы — а не дай бог хто падумае, што я без білета еду! Ну, а мы, вадзіцелі, яшчэ і падахвоцім: таварышы пасажыры, хто зайшоў, білецікі паказвайце адзін аднаму, талончыкі кампасціруйце... Маладыя вадзіцелі, праўда, не надта стараюцца сачыць за салонам, як саромеюцца ўсё адно, а старэйшыя дык умеюць і падказаць, каб талончыкі прабівалі, і прыпынак аб'явіць, і паведаміць вясковым цёткам ці непрыезджым, што тут во базар Камароўскі, ЦУМ недалёка...

План і цяпер робім, пры талоннай сістэме. Але і не надта лёгка. Усё-такі шмат яшчэ несвядомых людзей. Цяпер зрабілі штраф па два рублі за безбілетны праезд, дык паменела троху «зайцоў»... Сярод рабочых людзей, заўважыла, «зайцоў» амаль няма, яны бяруць праязныя. Во, па сынах мяркую, па ўнуках — праязныя ўсе купляюць...

Бабуля? Дзе вы бачылі! Ужо даўно не проста бабка, а прабабка! І во ўсё езджу. На сёмым маршруце рабіла, пасля на другім, а цяпер на пятым

маршруце: Возера — Сельгаспасёлак. Загружаны маршрут. На ім жа галоўны наш базар — Камароўскі, дык людзей заўсёды поўна — ці раніцаю, ці днём. Але затое і весела. Коціцца сабе мой 239-ты вагон, на стыках рэек пастуквае, часам, хоць і не паложана, пазвоньвае, бо што гэта за трамвай без званочка, на скрыжаванні з-пад дугі сінюю іскру пусціць і далей бяжыць, мае новыя кіламетры лічыць...

## 7

Штодня, ідучы на працу і з працы, пераходжу я вуліцу Якуба Коласа — колішні Лагойскі тракт, цяпер адну з самых ажыўленых магістралей горада. Па ёй сюды-туды бягуць трамваі. У адзін бок — да Сельгаспасёлка і Зялёнага Луга, у другі — да Камсамольскага возера, да вакзала, да трактарнага і аўтамабільнага заводаў. І як бы ні спяшаўся, а ўсё адно прыпынюся на хвіліну і паўзіраюся, ці не будзе ісці «пяцёрка» пад нумарам 239-м. І калі, бывае, угледжу, дык так і падмывае мяне выскачыць напярэймы і памахаць рукою: «Шчаслівай дарогі, Ніна Казіміраўна!» Ды спахаплюся: на пенсіі ўжо старэйшая вадзіцелька мінскага трамвая, на заслужаным адпачынку.



## НА ДВАЦЦАТАЙ ВЯСНЕ

У самым цэнтры вёскі Доктаравічы Капыльскага раёна, якраз насупраць аўтобуснага прыпынку, расце малады сквер. Сярод дрэў узвышаецца шэрагранітны абеліск. Справа ад сквера — Дом культуры, злева — будынак пошты і гасцініцы, а ў глыбіні — невялікі белацагляны дамок. Вузкая асфальтаваная сцяжынка вядзе да яго высокага ганка. Шыльда ля дзвярэй паведамляе, што ў гэтым дамку — саўгасны «Музей баявой і працоўнай славы».

Будучы ў Доктаравічах у камандзіроўцы, завітаў я ў музей. Абмінуць яго не мог. І не таму, што спадзяваўся знайсці там нешта асаблівае, невядомае, незаўважанае раней нашым братам-газетчыкам. Зайшоў туды хутчэй па прычыне чыста чалавечай цікаўнасці — што там і як на самой справе, бо шчыра кажучы, не так і шмат яшчэ ў нас калгасных ды саўгасных музеяў, ды яшчэ вось такіх, як Доктаравіцкі, што месціцца ў спецыяльна выбудаваным для такой справы дамку. Зайшоў — і не пашкадаваў. Нечакана пашчасціла мне дакрануцца, а мо крышачку і далучыцца да аднаго на дзіва чыстага, светлага, натхнёнага жыцця — на жаль, вельмі кароткага...

У першым пакоі, а па сутнасці ў калідорчыку на сцяне вісяць партрэты тых жыхароў Доктаравіч і ін-

шых саўгасных вёсак — воінаў і партызанаў,— якія не вярнуліся з вайны, якія аддалі свае жыцці ў змаганні з фашызмам. Сярод іх кінуўся ў вочы партрэт юнака, амаль падлетка. Прачытаў подпіс: Уладзімір Ясючэня. Пад ім — даты: 1924—1944. Гэтыя даты найбольш запынялі позірк: усяго дванаць. Потым, пільней ужо, узіраўся я ў прыгожы, малады, зусім яшчэ юначы твар: багатая і, відаць, непадатлівая чупрына, высокі лоб, прамы, вастраваты нос, тонкія, нервовыя вусны, праніклівы, нейкі самотна-трывожлівы пагляд вачэй. І ці таму, што больш ні пад адным партрэтам даты нараджэння і смерці не збягаліся так блізка, ці таму, што ў паглядзе юнака было сапраўды штосьці балесна-трывожлівае, твар Валодзі Ясючэні (называць яго сталым імем Уладзімір неяк не хацелася) доўга яшчэ стаяў перад маімі вачамі.

У мемарыяльнай зале музея маю ўвагу прыцягнула папка з надпісам: «Пісьмы з фронту». Разгарнуў яе. Пажаўцелыя ад часу лісткі былі складзены салдацкімі трохкутнічкамі, а цяпер старанна разгладжаны. Узяў адзін з іх у рукі. Уверсе — дата: 20 снежня 1944 года. Вочы прабеглі радкі:

«Лёс вырашае жыццё. Хай загіну і я ў будучых рашаючых баях, але за кроў сваіх любімых братоў я клянуся сурова адпомсціць праклятым фрыцам...»

Перавярнуў лісток і — не паверыў сваім вачам: гэта быў ліст Валодзі Ясючэні, яго пісьмо ў родную вёску Станькі, адрасаванае маці, бацьку, сястры і брату...

У папцы аказалася больш чым дзесяць Валодзевых пісьмаў. Наступнае было датавана 10 студзеня 1945 года:

«Дарагі Ваня! Вельмі буду прасіць цябе, прагледзь харашэнька ўсе мае папяровыя архівы, але нічога не выкідвай, асабліва мае вершы (сшыт.

«Раннія творы», «Першыя крокі», «Мара» і ліст з пяццю вершамі пад псеўданімам Б. Каліна). Там ты сустрэнеш шмат чаго цікавага з літаратуры — прачытай і зноў акуратна зберагай, як і розныя выразкі, дзённікі, а таксама газеты...»

Стоп! Вось яно што! «Мае вершы»? Сшыткі «Раннія творы», «Першыя крокі», «Мара»? Малады паэт? Няўжо? Няўжо гэта ўгадвалася мне ў тым праніклівым паглядзе юнака?

Я прысеў да стала і пачаў гартаць астатнія пісьмы.

*«14 студзеня 1945 года.*

Наступнага пісьма чакайце ўжо з-за Віслы, калі лёс не здрадзіць і я шчасліва фарсірую раку...

*26 студзеня 1945 года.*

Не крыўдуйце, што доўга не пісаў. Мы ідзём усё далей на захад, так што пошта не паспявае нас даганяць. Мне ўжо вядома, што 27 снежня 44 года прыехаў дадому Ваня. Я гэтаму вельмі рады. Дарагі Ваня! Глядзі па карце горад Бромберг (яго мы ўжо даўно ўзялі), Віслу перайшлі з 16 на 17 студзеня ўначы. Прасоўваемся імкліва...

*28 студзеня 1945 года.*

Паведамі, Ваня, ці атрымалі вы мае вершы, дакументы, хусцінку і інш., якія я выслаў у пачатку студзеня...

*30 студзеня 1945 года.*

Дарагія мае! Паведамляю, што я жывы і здаровы, знаходжуся ўжо на тэрыторыі Германіі...

*3 лютага 1945 года.*

Дарагі Ваня! Хачу табе паведаміць, што мяне

прадставілі да ўзнагароды Славай трэцяй ступені. Гэта мяне радуе, я буду біць ворага яшчэ лепш. У апошні час мы прынялі шмат баёў, магчыма, скора пойдзем на адпачынак...

*13 лютага 1945 года.*

Чытаў сваю заметку «Блізкі час расплаты». Яе прыслалі мне з рэдакцыі «К. К.»...

*16 лютага 1945 года.*

Пасылаю падзяку за ўдзел у баях за горад Дойч-Кроне. Зберажы, Ваня. Усё, што я перасылаю, зберагай, дарагі брат... З навін скажу, што я ўзнагароджаны медалём «За адвагу»...

*22 лютага 1945 года.*

Да Берліна засталося кіламетраў з пяцьдзесят...

*25 лютага 1945 года.*

Дарагі Ваня! Літаратуру беражы, асабліва мае рэчы — вершы і апавяданні. Напішы, ці атрымалі мае вершы, якія я паслаў яшчэ ў студзені. Зберажы іх...

*3 сакавіка 1945 года.*

Яшчэ раней я паслаў вам падзяку за г. Дойч-Кроне, зараз пасылаю другую — за сталіцу Польшчы Варшаву...»

Наступны ліст напісаны іншаю рукою:
*22 сакавіка 1945 года.*

Паважаныя бацькі! Цяжка пісаць, але ўсё ж пішу і паведамляю, што ваш сын Уладзімір адважна загінуў у жорсткіх баях 12.III.1945 года з нямецкімі захопнікамі, а скора пасля гэтага пісьма вы атрымаеце і

пахавальную запіску і дакументы і даведаецеся, дзе ён пахаваны. Быў узнагароджаны медалём «За адвагу». Вось што я вам хацеў паведаміць. Гэта пісаў пісар роты Ільін Міхаіл Мацвеевіч».

І яшчэ адно пісьмо аказалася ў папцы:

«Добры дзень, тав. Ясючэні!

У першых радках прашу вас прабачыць мне за маё пісьмо да вас. Але я вырашыў паведаміць вам пра лёс вашага сына Уладзіміра. Я яго баявы таварыш, з ім я ўдзельнічаў у баях са жніўня 44 г. Спачатку былі ва ўчэбным батальёне. Валодзя быў курсантам, а я быў яго камандзірам аддзялення. Ён быў лепшым курсантам майго аддзялення. Пасля, як яму прысвоілі званне сяржанта, мы з ім трапілі на перадавую, дзе ўдзельнічалі ў баях да ракі Одэр. Разам фарсіравалі раку Віслу, бралі гарады. Заўсёды ў цяжкую хвіліну памагалі адзін аднаму. Былі разам узнагароджаны медалямі «За адвагу». І вось у адным гарачым баі на р. Одэр мне давялося страціць лепшага таварыша па зброі Валодзю, дзе яго забіла мінай, а мяне параніла ў нагу. Пахаваны Вова ў мястэчку Грайфенхаген на беразе р. Одэр. У мяне застаўся яго аўтамат № 526, з якім ён фарсіраваў раку Віслу і ўдзельнічаў у баях па ўзяцці Варшавы. З яго аўтаматам я фарсіраваў р. Одэр, быў у баях за Берлін, за што атрымаў падзяку і ордэн Айчыннай вайны II ст., і выйшаў на р. Эльбу...

Валодзеў друг Аляксей Гімпель».

Вось і ўсё. Я машынальна пераглядаў папку, нібы спадзеючыся адшукаць яшчэ што-небудзь, але больш там нічога не знаходзілася. Жанчына, якая адчыніла мне музей, не магла нічога ні дадаць, ні растлумачыць. Праўда, яна дазволіла мне пакорпацца ў шафе, дзе ляжала тое, што не трапіла на музейныя стэлажы і стэнды. Знайшоў там дзве кніжкі,

прысланыя рэдакцыяй газеты «Піянер Беларусі» лепшаму «дзяткору Валодзю Ясючэню», грамату, якой Валодзя быў узнагароджаны гэтай жа рэдакцыяй за актыўны ўдзел у літаратурнай гульні, некалькі газетных выразак з яго допісамі і некалькі вершаў — таксама газетныя выразкі — з подпісам: «В. Ясючэня. Доктаравіцкая СШ».

І ўсё? А сшыткі, пра якія Валодзя так турбаваўся ў пісьмах да бацькоў і брата, а вершы, якія ён дасылаў дадому з фронту?

— Больш у музеі нічога няма,— адказала жанчына.

— А бацькі яго дзе жывуць?

— Хто яго ведае. Гэта ж у Станьках. А брат яго, той, што ў пісьмах упамінаецца, Ваня, бухгалтарам у саўгасе робіць...

Сустрэўся я з Іванам Мікалаевічам Ясючэнем. Ён шмат расказаў пра Валодзю, пра тое, з якой ахвотай ён вучыўся — спачатку ў Ванелевіцкай сямігодцы, а пасля, адзін год перад вайной, у Доктаравіцкай СШ, з якой прагнасцю чытаў кнігі; пра тое, як хораша — з самых малых гадоў — маляваў, пра Валодзеву дружбу з паэтам-земляком Аляксеем Коршакам (цяпер іхнія партрэты ў музеі — побач); пра тое, з якой сур'ёзнасцю ставіўся да сваіх літаратурных спроб...

— Міша, старэйшы брат, прыахвоціў яго да чытання, да літаратуры. Брат настаўнікам быў. Не прыйшоў з вайны, як і Федзя, трэці мой брат. Міша быў разумны хлопец, а Валодзя, відаць, абскакаў бы і яго. Чыталі пісьмы, бачылі, як ён піша? Ніводнай памылкі! А почырк які?.. Ды што цяпер казаць... Каб жыў, то... На дваццатым годзе галаву склаў...

— Іван Мікалаевіч, а сшыткі Валодзевы? Дзе яны? Захаваліся?

— Няма сшыткаў. Толькі тое, што ў музеі. Было

шмат папер, але ж — такое жыццё было, хай яно спрахне! Бацька і маці ад гора зайшліся, памерлі, потым — сястра-гаротніца... Хату перацягваў на новае месца... Каб жа тое знаццё, што зацікавіцца хто... А мо і аддаў каму. Помню, пасля вайны прыязджаў да мяне адзін чалавек з газеты раённай, з Капыля. Мо ў яго што захавалася...

Удалося мне спаткацца і з тым чалавекам, які працаваў неўзабаве пасля вайны ў Капыльскай раённай газеце. Але ў адказ пачуў:

— Памятаю, быў у Ясючэні і сшыткі тыя бачыў, нават гартаў, але ж я нічога, ніводнага сшытка не браў...

Значыць, загінулі. А шкада. Тая настойлівасць, з якой Валодзя наказваў у пісьмах з фронту берагчы яго сшыткі, сведчыць, што пісанне вершаў было для яго душэўнай патрэбай, што ён вельмі даражыў сваімі спробамі пяра і звязваў свой лёс з будучай сур'ёзнай літаратурнай працай. Чамусьці хочацца думаць, што каб не тая фашысцкая міна, якая абарвала яго жыццё на дваццатай вясне, сярод імёнаў сённяшніх нашых паэтаў было б і імя Уладзіміра Ясючэні — юнака (ён назаўсёды застаўся юнаком) з чыстай душой, гарачым сэрцам патрыёта і светлымі, высокімі помысламі. Гэта, мне думаецца, пацвярджаюць і тыя яго вершы, якія выпадкова ацалелі. І таму да гэтай згадкі пра светлы воблік юнака з капыльскай вёскі Станькі хочацца далучыць і ягоныя — няхай сабе няспелыя яшчэ — паэтычныя радкі.

Вось яны. Чатыры вершы Уладзіміра Ясючэні — не, Валодзі Ясючэні, якія нейкім чынам зберагліся ад даваеннага часу. Не ведаю, як каму, а мне яны падабаюцца, мяне яны хвалююць. Асабліва — «Прыйдзі на мілае спатканне». Чамусьці верыцца, што гэты верш трапіць урэшце на вочы якому-небудзь нашаму кампазітару і стане песняй.

## КРАІНА

Быццам сад вясною, ты цвіцеш, краіна,
Пад яскравым сонцам слаўнага Крамля.
Расцвітаюць ўсюды ружы, бэз, вяргіня,—
Пяе, весяліцца радасна зямля.

Мы жывём багата, весела, шчасліва —
Знік і праваліўся бескультур'я след,
Дарагою стала кожная хвіліна —
Мы расцём, мужаем, творым новы свет.

На заводах нашых сталь ракою льецца,
Ля станкоў работа дружная кіпіць.
Каля школы ранкам дзетвара смяецца —
Як шчасліва й добра у краіне жыць!

## НОЧ НА РЭЧЦЫ

Кінуў месяц на рэчку святло,
Заблішчала, бы люстра, вада.
Каля поплаву спала сяло.
Над вадою драмала вярба.

Кучаравы спавіў вербалоз
Бераг рэчкі — круты, як абрыў.
Спала ўсё. Толькі вецер між лоз
Безумоўку шаптаў-гаварыў...

Бор за рэчкай маўкліва стаяў,
Як той дзед-вартаўнік ля гумна.
І туман у нізіне апаў —
Панавала вакол цішыня.

## ПРЫЙДЗІ НА МІЛАЕ СПАТКАННЕ

Прыйдзі на мілае спатканне,
Дзяўчынка любая мая!
Прабудзем разам да світання
І будзем слухаць салаўя.

Нас стрэнуць першыя прамені,
Узыдзе сонца за гарой,

І папаўзуць даўгія цені —
Тады расстанемся з табой...

Рака дыміцца у тумане,
Шуміць пад ветрам вербалоз.
Дзяўчынка, сэрца не трывож —
Прыйдзі на вернае спатканне.

## НА НАЧЛЕЗЕ

Рассыпаліся ў небе зоры,
Нібы сярэбраны пясок.
Уалятаюць іскры-метэоры,
І дрэмле месяц-каласок.

За рэчкаю пасуцца коні.
Туман валокны разаслаў.
Цямнее лес. На бабкі ў полі
Адзела пацеркі раса.

Алешнік стыне над ракою,
Звіняць музыкі-камары
І не даюць спачыць нікому
Ля куста свежае травы.

Усход ружовасцю палае,
І песню драч сваю вядзе...
Чакаць нядоўга — рассвітае,
Настане новы ў шчасці дзень.

Усяго чатыры вершы. І, можа быць, не лепшыя сярод таго, што паспеў напісаць Валодзя Ясючэня. Ды пэўна ж не лепшыя, бо вершы — напісаныя рукою вучня сёмага-восьмага класа. Аднак жа будзем памятаць тое, што пісаў іх падлетак, які праз нейкія тры-чатыры гады аддасць жыццё за Радзіму.

Валодзя Ясючэня «адважна загінуў у жорсткіх баях»... Ужо за адно гэта ён варты нашай памяці. Ды памяць гэта робіцца куды больш балючай ад таго, што разам з ім загінулі няспетыя ім песні, якія — хто ведае! — сагрэлі б, усцешылі б не адно чалавечае сэрца...

У паэтычнай творчасці Уладзімір Ясючэня паспеў зрабіць толькі першыя крокі. Але яго імя мы можам ставіць у адзін рад з імёнамі Міколы Сурначова, Аляксея Коршака, Леаніда Гаўрылава і іншых беларускіх паэтаў, якія аддалі жыццё за Савецкую Радзіму ў час Вялікай Айчыннай. Рана, дачасна абарваліся іх маладыя жыцці. Усе яны яшчэ вельмі многа не паспелі зрабіць... Паспелі адно, галоўнае — да канца здзейснілі свой грамадзянскі подзвіг.

От і ўсё. За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Гэтыя словы Аляксея Коршака быццам прамаўляюць ад імя ўсіх, хто загінуў у суровай бітве з фашызмам, у тым ліку і ад імя Уладзіміра Ясючэні.

# ЗМЕСТ

*Николай Семенович Гиль*

**ПОСЕЯННОЕ — ВЗОЙДЕТ**

**Очерки**

Для старшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке
Рэдактар А. М. Бяржынскі
Мастак П. В. Калінін
Рэцэнзент В. Л. Бечык
Мастацкі рэдактар М. Ул. Чуднікаў
Тэхнічны рэдактар Г. Ф. Дуброўская
Карэктар Л. С. Зіза

IB № 477

Здадзена ў набор 12.03.84. Падп. да друку 10.08.84. АТ 01206. Фармат 70×100 1/32. Папера кн.-журн. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,51. Ум. фарб.-адб. 4,75. Ул.-выд. арк. 4,48. Тыраж 6000 экз. Зак. 232. Цана 15 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Гіль М.**

Г 47 Пасеянае — узыдзе.: Нарысы. [Для ст. шк. узросту].— Мн.: Юнацтва, 1985.—109 с.

15 к.

Героі гэтай кнігі — розныя людзі: касманаўт, токар, пісьменнік, вадзіцель трамвая... Аб'ядноўвае, робіць іх блізкімі між сабою вялікае пачуццё любві да абранай прафесіі, дух творчасці, з якім яны выконваюць сваю штодзённую работу. А самае галоўнае — яны шчодра аддаюць сябе іншым людзям, валодаюць зайздроснай здольнасцю абуджаць у чалавечых душах добрыя ўсходы працавітасці, сумленнасці, дабрыні.

Г $\frac{4802010000-002}{М 307(05)-85}$ 3—85 ББК 65.9(2)243

Мінск
«Юнацтва»
1985

## КНІГІ ДЛЯ ЮНАЦТВА

*Ул. Ліпскі*
КРУТЫЯ ВЁРСТЫ
*Аповесці*

СУЗОР'Е
*Нарысы*

*Б. Налівайка*
У ТВАІХ РУКАХ — НЕБА
*Нарысы*